# ЗМЕСТ

# ПАРУШЭННІ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯ Ў БЕЛАРУСІ У 2012 г. (агляд)

Сітуацыя са СМІ ў Беларусі змянялася на працягу 2012 года разам са зменамі грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі.

Першая палова года характарызавалася ўзмацненнем напружання ў адносінах паміж уладай і прэсай. Асноўнымі сродкамі ціску на журналістаў і СМІ ў гэты перыяд былі папярэджанні пракуратуры і КДБ і забарона некаторым журналістам выязджаць з краіны, якія суправаджаліся прапагандысцкай кампаніяй на дзяржаўным тэлебачанні супраць грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (далей па тэксце - БАЖ). Крытычнай кропкай медыйнага года стала ўзбуджэнне летам 2012 трох крымінальных спраў супраць журналістаў.

Перад пачаткам выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, міжнароднае прызнанне якіх было важным для афіцыйнага Мінска, назіраўся некаторы спад агульнага ціску на СМІ. Крымінальныя справы ў дачыненні журналістаў былі "замарожаныя" (а адна і спыненая), незаконныя забароны на выезд з краіны журналістам і актывістам адмененыя. Пры гэтым перыядычна ўзнікалі асобныя канфлікты ў сферы СМІ, звязаныя з доступам да інфармацыі і яе распаўсюдам, асабліва падчас выбараў.

Канец года характарызаваўся пераносам акцэнтаў на эканамічныя пытанні (ад стварэння дзяржаўных газетных холдынгаў і фінансавай падтрымкі дзяржаўных СМІ да пераследу незалежных выдаўцоў на падставе парушэння імі правілаў вядзення прадпрымальніцкай дзейнасці ці дзяржаўных стандартаў).

## Крымінальны пераслед журналістаў

Летам 2012 гада ў розных рэгіёнах Беларусі былі распачатыя тры крымінальныя справы супраць журналістаў, звязаныя з іх прафесійнай дзейнасцю.

Андрэй Пачобут (г. Гродна) быў абвінавачаны ў паклёпе ў дачыненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Антон Сурапін (г. Слуцк) - у дапамаганні ў парушэнні мяжы групай асобаў, Мікалай Петрушэнка (г. Віцебск) - у знявазе прадстаўніка ўлады.

Крымінальная справа супраць віцебскага журналіста і грамадзянскага актывіста Мікалая Петрушэнкі была распачатая 17 жніўня Аршанскім гарадскім аддзелам Следчага камітэта па арт. 369 КК ("Знявага прадстаўніка ўлады"). Падставай для гэтага стала яго публікацыя, змешчаная 8 жніўня на сайце nash-dom.info http://nash-dom.info/gorodskie-gruppy/orsha/premii/, у якой нібыта ўтрымліваліся публічныя знявагі намесніка старшыні Аршанскага гарвыканкама. Справа была перададзеная ва Упраўленне Следчага камітэта Віцебскай вобласці, якое прызначыла лінгвістычную экспертызу. На падставе высноў экспертаў справа была спыненая 17 кастрычніка 2012 года ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях М. Петрушэнкі складу злачынства.

20-гадовы студэнт Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Антон Сурапін першым выклаў у інтэрнэце фотаздымкі цацачных мядзведзяў з лозунгамі ў абарону свабоды слова, скінутых 4 ліпеня з лёгкаматорнага самалёта пасля незаконнага перасячэння ім беларуска-літоўскай мяжы (мэтай гэтай акцыі супрацоўнікі шведскай піяр-кампаніі Studio Total назвалі падтрымку свабоды слова ў Беларусі). 13 ліпеня ў кватэры А. Сурапіна быў праведзеныператрус, пасля чаго ён быў затрыманы. У журналіста забралі камп'ютар і фотакамеру. Сурапіна трымалі пад вартай больш за

месяц, адвакату было забаронена паведамляць не толькі пра следчыя дзеянні з удзелам журналіста, але нават пра яго працэсуальны статус. Толькі 7 жніўня КДБ Беларусі паведаміў http://www.kgb.by/press/inform/321.html, што Антону Сурапіну выстаўленае абвінавачанне ў дапамаганні незаконнаму перасячэнню мяжы.

17 жніўня пасля выступаў у абарону А. Сурапіна беларускай і міжнароднай грамадскасці http://baj.by/en/node/13036 ён быў вызвалены пад падпіску пра нявыезд. З моманту вызвалення з-пад варты ніякіх следчых дзеянняў з удзелам А. Сурапіна не праводзілася. Тым не менш, ён да канца года знаходзіўся ў статусе абвінавачанага і пад падпіскай пра нявыезд.

Арышт Антона Сурапіна ўзначаліў дзясятку абсурдных арыштаў года, складзеную Amnesty International http://blog.amnestyusa.org/music-and-the-arts/10-absurd-and-unjust-arrests-of-2012/.

Найбольшую занепакоенасць выклікаў лёс Андрэя Пачобута (беларускага карэспандэнта "Gazeta Wyborcza" (Польшча). Крымінальная справа супраць яго была распачатая пасля суцэльнай праверкі следствам публіцыстычных артыкулаў журналіста, змешчаных у інтэрнэце на працягу паўгода. А. Пачобуту ставяць у віну паклёп у дачыненні да прэзідэнта, здзейснены паўторна (ч. 2 арт. 367 КК РБ). Падставай для распачынання крымінальнай справы сталі артыкулы А. Пачобута http://baj.by/ru/node/12846, апублікаваныя на розных інтэрнэт-рэсурсах. 21 чэрвеня Андрэй Пачобут быў узяты пад варту, у яго кватэры правялі ператрус і забралі камп'ютар. 30 чэрвеня журналіста вызвалілі з-пад варты пад падпіску пра нявыезд. Перад гэтым яму афіцыйна прад'явілі абвінавачанне па ч. 2 арт. 367 КК. Тэрміны расследавання справы А. Пачобута неаднаразова працягваліся, хоць ніякіх следчых дзеянняў з удзелам журналіста таксама не праводзілася. 29 лістапада супрацоўнікі Упраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці паведамілі Пачобуту пра прызначэнне чарговай, чацвёртай па ліку, лінгвістычнай экспертызы па яго справе. На час правядзення экспертызы следства прыпыненае. Андрэй Пачобут застаецца абвінавачваным і мера стрымання (падпіска пра нявыезд) яму не змененая.

У 2011 годзе А. Пачобут ужо быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за паклёп у дачыненні да прэзідэнта і асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на 2 гады. Цяпер яму пагражае пакаранне да 5 гадоў зняволення, а таксама рэальнае выкананне пакарання па папярэднім прысудзе.

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што падставай для распачынання ўсіх трох крымінальных спраў супраць журналістаў у 2012 годзе сталі матэрыялы, размешчаныя ў інтэрнэце.

## Іншыя формы ціску на журналістаў

Асноўнай формай ціску на журналістаў у 2012 годзе заставаліся затрыманні супрацоўнікамі сілавых структур і папярэджанні з боку пракуратуры і КДБ.

БАЖ зафіксаваў каля 60-ці выпадкаў затрымання журналістаў, распаўсюднікаў недзяржаўнай прэсы і актывістаў сацыяльных сетак прадстаўнікамі розных сілавых ведамстваў.

У большасці выпадкаў журналістаў адпускалі праз 2-3 гадзіны пасля затрымання, аднак некаторыя затрыманні скончыліся судовымі пакараннямі ад штрафаў да адміністратыўнага арышту на тэрмін да 15 сутак.

Як мінімум 13 журналістаў атрымалі цягам 2012 года папярэджанні ад органаў пракуратуры - галоўным чынам за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

Яшчэ не менш за чатыры журналісты мелі гутаркі ў КДБ. Пік папярэджанняў прыйшоўся на люты-сакавік 2012 года.

Параўнальна новай формай ціску на журналістаў у 2012 годзе стала забарона на выезд з краіны, з якой сутыкнуліся таксама грамадзянскія актывісты і палітычныя лідары. У сакавіку ў выездзе за межы Беларусі без усялякай законнай прычыны было адмоўлена старшыні БАЖ Жанне Літвіной, афіцыйнаму прадстаўніку тэлеканала "Белсат" Міхасю Янчуку, шэф-рэдактару газеты "Наша Ніва" Андрэю Дынько. Забароны на выезд былі знятыя толькі напрыканцы жніўня – у верасні пасля звароту журналістаў у суд. Супрацоўнікі Дэпартамента па грамадзянству і міграцыі МУС растлумачылі забарону тэхнічным збоем у камп’ютарнай праграме.

## Перашкоды дзейнасці журналістаў замежных СМІ

Апроч вынясення папярэджанняў беларускім журналістам, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ, беларускія ўлады выкарыстоўвалі і іншыя метады абмежавання распаўсюду непажаданай інфармацыі за мяжу. Так, у сакавіку ў Мінску былі затрыманыя журналісты дзвюх замежных здымачных груп - эстонскай з канала TV3 і шведскай з SVT, - якія былі акрэдытаваныя ў краіне.

Некаторыя замежныя журналісты сутыкнуліся з перашкодамі падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, якія адбыліся 23 верасня 2012 года. На выбарах у Беларусі было акрэдытавана больш за 350 замежных журналістаў. Аднак чатыром журналістам з Германіі і Швецыі не дазволілі ўезд у Беларусь, адмовіўшы ў візе. Яшчэ двум шведскім журналістам Эрыку Ван Платэну (Erik Von Platen) і Густаву Андрэсану (Gustaff Andresson), якія прыляцелі ў Мінск увечары 21 верасня, давялося правесці 16 гадзін у нацыянальным аэрапорце, перш, чым яны атрымалі пацверджанне акрэдытацыі ў Беларусі і ім былі адкрытыя візы.

У той жа дзень, 21 верасня, у аўстралійскага журналіста Амаса Робертса (вяшчальная карпарацыя SBS), які вылятаў з Беларусі, у аэрапорце "Мінск-2" забралі яго прафесійную апаратуру і носьбіты інфармацыі. Падстава вынятку рэчаў не называлася, пратакол вынятку на рукі выдадзены не быў. Журналіст змог вылецець з Беларусі толькі на наступны дзень. Абсталяванне і запісы не вернутыя журналісту дагэтуль.

## Ціск на выдаўцоў і распаўсюднікаў кніг і СМІ

У кастрычніку 2012 года ўлады ў чарговы раз распачалі пераслед культурніцкага часопіса "ARCHE. Пачатак".

У 2008 годзе, таксама пасля выбараў у Палату прадстаўнікоў, гэты інтэлектуальны часопіс быў абвінавачаны ў распаўсюдзе экстрэмісцкіх матэрыялаў, аднак пасля справа была закрытая. Гэтым разам падставай для пераследу стаў распаўсюд галоўным рэдактарам часопіса Валерам Булгакавым кніг "Саветызацыя Заходняй Беларусі" на прэзентацыі ў Гродне 14 кастрычніка. Ён быў абвінавачаны ў парушэнні заканадаўства аб прадпрымальніцкай дзейнасці і аштрафаваны, пасля чаго пачалася маштабная праверка дзейнасці ўстановы "ARCHE" (выдаўца і рэдакцыі часопіса "ARCHE. Пачатак"). 4 кастрычніка Дэпартамент фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю заблакаваў банкаўскі рахунак рэдакцыі, што зрабіла немагчымым далейшы выпуск часопіса. На дзяржаўным тэлебачанні двойчы прайшлі сюжэты, у якіх В. Булгакава абвінавацілі ў распаўсюдзе экстрэмісцкай літаратуры і

заявілі, што "кніжная" справа можа стаць крымінальнай. У лістападзе Валер Булгакаў быў вымушаны выехаць з Беларусі.

Яшчэ адзін канфлікт, звязаны са СМІ і кнігавыдавецтвам, адбыўся 12 лістапада. На беларуска-літоўскай мяжы ў незалежных фотажурналістаў Юліі Дарашкевіч і Аляксандра Васюковіча супрацоўнікі беларускай мытні забралі больш за 40 асобнікаў фотаальбома "Прэс-фота Беларусі" за 2011 год на падставе праверкі, "ці няма там інфармацыі, небяспечнай для беларускай дзяржавы". Па выніках экспертызы альбомаў, праведзенай Упраўленнем ідэалагічнай работы Гродзенскага аблвыканкама, друкаваная прадукцыя была прызнаная незаконнай і падлягала знішчэнню.

Яшчэ адным трывожным паказчыкам стану свабоды выказвання меркавання ў краіне стала вяртанне ў Беларусь у 2011 г. спісу «дзеячоў мастацтва і творчых калектываў», якія забаронены для згадвання ў дзяржаўных СМІ і на FM-станцыях. У «чорны спіс» трапілі не толькі беларускія, але і замежныя музыкі, артысты, пісьменнікі, мастакі, сярод якіх групы «ДДТ» і «Pet Shop Boys», пісьменнікі Андрэй Бітаў і Эдуард Успенскі, драматург Том Стопард, акцёры Джуд Лоў і Кевін Спейсі і інш. Адныя з іх выказваліся ў падтрымку палітзняволеных у Беларусі, другія – узялі ўдзел у Глабальнай артыстычнай кампаніі салідарнасці з Беларуссю і г.д. Афіцыйныя асобы існаванне «чорных спісаў» адмаўляюць, аднак серыя забаронаў на выступы ў Беларусі груп і музыкаў, унесеных у гэты спіс («Ляпис Трубецкой», «Нейро Дюбель», «Крамбамбуля», Д. Вайцюшкевіч і інш.) пацвярджае існаванне негалосных забаронаў.

«Чорныя спісы» забароненых музыкаў існавалі ў Беларусі і ў перыяд пасля папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў, з 2006 по 2008 г. Зараз гэтыя «спісы» пашырыліся, і падставай для ўключэння ў іх стаў не ўдзел у акцыях апазіцыі, а выказванне свайго меркавання пра працэсы, што адбываюцца ў краіне.

## Інтэрнэт

Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь (Белстат), на пачатку 2012 года ў краіне было 6,8 мільёнаў карыстальнікаў інтэрнэтам, у тым ліку 6,1 млн. фізічных асоб. Пра гэта паведаміла інфармацыйнае агенцтва "Інтэрфакс" са спасылкай на Белстат. За год колькасць карыстальнікаў вырасла на 34,2%.

Дадзеныя GemiusAudience на верасень 2012 года куды больш сціплыя. У адпаведнасці з імі ў верасні 2012 года інтэрнэтам карысталіся 4,4 мільёна жыхароў Беларусі, што на 14% больш, чым год таму (і ў паўтары разы менш, чым па дадзеных Белстата, а тэмпы росту інтэрнэт-аўдыторыі яшчэ меншыя). 80% карыстальнікаў па дадзеных GemiusAudience выходзяць у Сусветную сетку штодня http://www.indexoncensorship.org/wp-content/uploads/2013/01/index-belarus-web-report-belarusian.pdf.

У любым выпадку, рост ліку інтэрнэт-карыстальнікаў у Беларусі назіраецца.

Напрыканцы года былі змененыя правілы ідэнтыфікацыі наведнікаў інтэрнэт-кавярняў і іншых пунктаў калектыўнага карыстання інтэрнэтам. Калі ў 2012 годзе для гэтага было неабходна паказваць дакумент, які пацвярджаў асобу, то з канца студзеня 2013 года могуць выкарыстоўвацца і альтэрнатыўныя спосабы ідэнтыфікацыі карыстальнікаў (фота- відэафіксацыя, з выкарыстаннем SMS). Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў №1191 ад 22 снежня 2012 года http://oac.gov.by/news/93.html.

Абавязковасць ідэнтыфікацыі наведнікаў пунктаў калектыўнага карыстання інтэрнэтам уведзеная ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 лютага 2010 года "Аб мерах па ўдасканаленні нацыянальнага сегменту сеткі Інтэрнэт" http://www.president.gov.by/press83055.html.

## Эканамічная палітыка ў сферы СМІ

Улады працягвалі палітыку эканамічнай дыскрымінацыі незалежных СМІ. У 2012 годзе ніводнае з выданняў, выкінутых з сістэм распаўсюду СМІ дзяржаўнымі прадпрыемствамі "Белпошта" і "Саюздрук" (дамінантнымі на рынку распаўсюду прэсы па падпісцы і ў розніцу), не было ў гэтыя сістэмы вернутае http://baj.by/be/node/18572.

У той жа час працягваюцца і ўзмацняюцца розныя формы падтрымкі дзяржаўных медыя (ад правядзення прымусовай падпіскі на іх да прамой фінансавай падтрымкі). У адпаведнасці з законам "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2013 год", прынятым у кастрычніку http://pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=H11200432&p1=1, на фінансаванне СМІ, якія датуюцца дзяржавай, у бюджэце прадугледжана 669 206 189,2 тыс. руб., ці каля 60 млн. еўра. Гэта амаль на 15 млн. еўра больш, чым у 2012 годзе. Большая частка сродкаў накіроўваецца на падтрымку дзяржаўнага тэлебачання і радыёвяшчання (каля 46 млн. еўра). Каля 6 млн. еўра выдаткоўваецца на перыядычны друк і выдавецтвы, 7,5 млн. еўра адводзіцца на "іншыя пытанні ў сферы СМІ".

Сур'ёзнае павелічэнне фінансавання дзяржаўных медыя супярэчыць дэкларацыям высокапастаўленых службовых асоб пра неабходнасць эканоміць і скараціць бюджэтныя ўліванні ў медыя. Так, 27 лістапада прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, прымаючы са справаздачай старшыню Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі (НДТРК) Генадзя Давыдзьку, заявіў, што дзяржаўная падтрымка беларускіх тэлеканалаў у 2013 годзе можа значна зменшыцца (пры тым, што бюджэт на 2013 год быў ім ужо падпісаны). Праз месяц, 22 снежня, прэзідэнт падоўжыў на 2013 год дзеянне свайго ўказа аб вызваленні НДТРК і арганізацый, якія ўваходзяць у яе сістэму, ад выплаты падаткаў на прыбытак і на дадатковую вартасць http://belapan.by/archive/2012/12/22/596216/.

Аналагічныя працэсы адбываюцца і ў сферы перыядычнага друку. Увосень 2012 года было абвешчана пра аб'яднанне 11 нацыянальных друкаваных выданняў у два холдынгі. У выдавецкі дом "Звязда" культуралагічнага кірунку ўвойдуць рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "ЛіМ", газета "Літаратура і Мастацтва", часопісы "Полымя", "Маладосць", "Нёман", "Вожык". У грамадска-палітычны выдавецкі дом увойдуць 5 асноўных рэспубліканскіх газет: "Советская Белоруссия", "Народная газета", "Рэспубліка", "Белорусская нива" і "Знамя юности".

Аднак "аптымізацыя друкаваных СМІ" прыводзіць не да змяншэння іх бюджэтнай падтрымкі, а, наадварот, да яе павелічэння. Прычым бюджэтнае фінансаванне размяркоўваецца на пазаконкурснай аснове. 13 снежня Савет Міністраў зацвердзіў Пералік сродкаў масавай інфармацыі, рэдакцыям якіх у 2013 годзе аказваецца падтрымка з дзяржаўнага бюджэту. У спісе - 25 выданняў, сярод якіх і тыя, што аб'ядноўваюцца ў холдынгі.

Пры гэтым фінансавая падтрымка дзяржаўных СМІ не з'яўляецца эфектыўнай. Нягледзячы на несупастаўляльныя наклады друкаванай прэсы і манаполію дзяржавы ў сферы тэле- і радыёвяшчання, недзяржаўным СМІ давяраюць 48,1% апытаных, у той час як дзяржаўным - толькі 38,1%. http://www.iiseps.org/press6.html.

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

Асноўныя прававыя акты ў сферы СМІ ў 2012 годзе былі прынятыя напрыканцы года.

**26 кастрычніка** прыняты Закон Рэспублікі Беларусь № 432-З "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2013 год". На фінансаванне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі і тых СМІ, што падтрымліваюцца дзяржавай, у 2013 годзе рэспубліканскім бюджэтам прадугледжана 669 206 189,2 тыс. рублёў (каля 60 млн. еўра). Большая частка сродкаў - 514 674 681,3 тыс. рублёў (каля 46 млн. еўра) - накіроўваецца на фінансаванне тэлебачання і радыёвяшчання. На перыядычны друк і выдавецтвы вылучана 70 128 094,4 тыс. рублёў (больш за 6 млн. еўра), на іншыя пытанні ў галіне сродкаў масавай інфармацыі - 84 403 413,5 тыс. рублёў (больш за 7 млн. еўра).

**17 снежня** Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 557 вызначана, што Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія і арганізацыі, якія ўваходзяць у яе сістэму, у 2013 годзе, таксама як і ў 2009-2012 гадах вызваляюцца ад выплаты падаткаў на прыбытак і на дадатковую вартасць (за выключэннем падатку на дадатковы кошт, які спаганяецца пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь).

**17 снежня** прыняты Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні зменаў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях рэкламы". Законам уносіцца змена ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", а таксама змены і дапаўненні ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб рэкламе".

Законам прадугледжана скарачэнне аб'ёму тэле- і радыёрэкламы ў найбольш рэйтынгавы час (з 18.00 да 22.00) з 18 да 16 хвілін у гадзіну. Таксама вызначана, што перапыненняў перадачы, у тым ліку мастацкага фільма, на рэкламу павінна быць не больш за чатыры разы ў гадзіну.

Пры рэкламе паслуг (работ) забараняецца выкарыстоўваць слова "падарунак", "бясплатна", "0 рублёў" і да т.п., калі ажыццяўленне дадзеных паслуг (работ) пры гэтым прадугледжвае аплату.

Яшчэ адно з новаўвядзенняў датычыцца рэкламы гуляльных установаў і азартных гульняў. "Яна цалкам забараняецца на тэлебачанні і радыё з 7.00 да 22.00, ва ўстановах адукацыі, арганізацыях аховы здароўя, культуры і спорту, на цацках, у выданнях для непаўналетніх і якія спецыялізуюцца на пытаннях экалогіі, адукацыі і здароўя", - сказалі ў Міністэрстве гандлю.

Забарона на трансляцыю рэкламы піва на тэлебачанні і радыё, вызначаная раней з 7.00 да 20.00, паводле закона падаўжаецца да 22 гадзін. Пры гэтым дадзеная рэклама (па аналогіі з рэкламай алкагольных напояў) павінна будзе ўтрымліваць папераджальны надпіс пра шкоду яго празмернага ўжывання.

Пералік забаронаў, вызначаны ў дачыненні рэкламы лекавых сродкаў, вырабаў медыцынскага прызначэння і медтэхнікі, дапаўняецца забаронамі на згадванне ў рэкламе пэўных выпадкаў лячэння, рэкамендацый дзяржорганаў, а таксама прапаноў матэрыяльнага заахвочвання за набыццё рэкламаванага аб'екта. Асобным артыкулам вызначаюцца патрабаванні да рэкламы біялагічна актыўных дадаткаў (БАД) да ежы.

Законам таксама прадугледжаная норма, скіраваная на спыненне рэкламы фінансавых пірамід, у адпаведнасці з якой забараняецца рэклама дзейнасці асоб, не зарэгістраваных у якасці арганізацый ці індывідуальных прадпрымальнікаў, па прыцягненні грашовых сродкаў, электронных грошай і іншай маёмасці грамадзян пад выплату прыбытку.

Пры гэтым адмяняецца адміністратыўная працэдура па ўзгадненні рэкламы ветэрынарных паслуг, медыцынскіх паслуг (работ), калі дадзеная рэклама ўтрымлівае выключна звесткі, пералічаныя ў ліцэнзіі на медыцынскую дзейнасць, і кантактную інфармацыю. У рэкламе на радыё, вонкавай рэкламе і некаторых іншых відах рэкламы дазваляецца не згадваць назву рэкламадаўца, УНП, рэквізіты ліцэнзіі, а таксама рэгістрацыйнага пасведчання лекавых сродкаў і БАДаў.

У мэтах выключэння спрэчак пра прававую прыроду дамовы пра размяшчэнне рэкламы вызначаецца, што такія праваадносіны афармляюцца дамовай платнага аказання паслуг.

На замежнай мове (апроч рэкламы, якая была дазволеная да распаўсюду і раней) дадаткова дазваляецца распаўсюд рэкламы арыгінальных назваў тавараў, мастацкіх твораў, псеўданімаў і даменных імёнаў сайтаў.

У сацыяльнай рэкламе закон дазваляе згадванне спонсараў культурных і спартыўных мерапрыемстваў, якія арганізуюцца з удзелам дзяржорганаў. Ацэньваць якасць сацыяльнай рэкламы будзе Міжведамасная рада па рэкламе.

Змены і дапаўненні ў заканадаўства закранаюць таксама мову распаўсюду рэкламы, паняццевы апарат, агульныя патрабаванні да рэкламы асобных тавараў і паслуг, спосабы распаўсюду рэкламы, выдаленне неналежнай рэкламы, забеспячэнне правоў і абавязкаў рэкламадаўца, рэкламавытворцы, рэкламараспаўсюдніка па падаванні адпаведнай інфармацыі. Законам удакладняюцца таксама паўнамоцтвы дзяржаўных органаў у галіне рэкламы, прадугледжваецца стварэнне Міжведамаснай рады па рэкламе, вызначаюцца мэты яе дзейнасці.

**22 снежня** Пастановай  Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 1191 (уступіла ў сілу з 29.01.2013 г.) сярод іншага вызначана, што ў інтэрнэт-кавярні аказанне паслуг перадачы дадзеных ці тэлематычных паслуг карыстальніку ажыццяўляецца пасля яго ідэнтыфікацыі, якая праводзіцца па прад'яўляным ім дакуменце, які пацвярджае асобу, ці з выкарыстаннем іншых сродкаў, што дазваляюць ідэнтыфікаваць яго асобу (імянная клубная карта, карта доступу і да т.п.), альбо з выкарыстаннем тэхнічных сродкаў фота-, відэафіксацыі ці іншым праграмна-тэхнічным спосабам (у тым ліку SMS-паведамленні), які забяспечвае супастаўленне сеткавых рэквізітаў карыстальнікаў з іх персанальнымі дадзенымі.

Пры аказанні карыстальнікам паслуг перадачы дадзеных і тэлематычных паслуг у камп’ютарным клубе ці інтэрнэт-кавярні кіраўнік ці ўпаўнаважаная ім асоба забяспечвае вядзенне, улік і захоўванне:

– персанальных дадзеных карыстальнікаў паслуг перадачы дадзеных і тэлематычных паслуг (імя, імя па бацьку, прозвішча, від і нумар дакумента, што пацвярджае асобу, назву органа, які яго выдаў);
– звестак пра час пачатку і заканчэння аказання паслуг перадачы дадзеных і тэлематычных паслуг, прадастаўленай у карыстанне вылічальнай тэхнікі;
– электроннага журнала, куды ўносяцца ідэнтыфікацыйныя звесткі пра абаненцкія прылады (MAC-адрас, унутраныя і знешнія IP-адрасы), дату, час і даменныя імёны ці IP-адрасы інтэрнэт-рэсурсаў, з якімі карыстальнік ажыццявіў злучэнне.

Захоўванне пералічаных звестак ажыццяўляецца кіраўніком камп’ютарнага клуба ці інтэрнэт-кавярні ці ўпаўнаважанай ім асобай на працягу аднаго года з дня аказання паслугі.

Пры выкарыстанні ў камп’ютарным клубе і інтэрнэт-кавярні сродкаў фота-,

відэафіксацыі месца іх размяшчэння павінна выбірацца такім чынам, каб фіксаваліся ўваход (уваходы) у памяшканне камп’ютарнага клуба ці інтэрнэт-кавярні, агульны план памяшкання з размяшчэннем працоўных месцаў, а таксама месца (месцы) аплаты за аказаныя паслугі, і выключалася магчымасць фіксацыі інфармацыі, якая адлюстроўваецца на экране манітора, і інфармацыі, што набіраецца карыстальнікамі на прыладах уводу інфармацыі.

**29 снежня** прыняты Закон "Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь", які ўступае ў сілу з 07.07.2013 г.

Гэтым Законам вызначаюцца асновы выдавецкай справы, накірункі дзяржаўнай палітыкі ў сферы выдавецкай справы, рэгулюецца парадак дзяржаўнай рэгістрацыі, перарэгістрацыі выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў.

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ

## Крымінальныя справы

### Адбыванне пакарання Паўлам Севярынцам

*Сябра Рады БАЖ, палітык і публіцыст Павел Севярынец быў асуджаны 16 траўня 2011 года судом Заводскага раёна г. Мінска на 3 гады абмежавання волі паводле ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса РБ (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх) пасля акцый пратэсту ў снежні 2010 года, звязаных з прэзідэнцкімі выбарамі. Ён адбывае пакаранне ў спецкамендатуры №7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Тэрмін яго пакарання скончыцца 19 кастрычніка 2013 года.*

**31 студзеня** стала вядома, што Вярхоўны суд адхіліў скаргу на прысуд Паўлу Севярынцу, пададзеную ў парадку нагляду. Пра гэта паведаміў адвакат Севярынца Вадзім Мушынскі.

**27 красавіка** кіраўніцтва спецкамендатуры №7 пазбавіла яго магчымасці вызваліцца ўмоўна-датэрмінова, нягледзячы на станоўчую характарыстыку Паўла, якую яму сама дала. Падставай для такога рашэння стала тое, што Павел Севярынец не прызнае сваёй віны.

"І прысуд, і гэтая пастанова, на маю думку, незаконныя", - зазначыў П. Севярынец.

**9 ліпеня** прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў закон «Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы». Праваабаронцы звярнулі ўвагу на тое, што закон аб амністыі 2012 года адрозніваецца ад папярэдніх – гэтым разам у катэгорыю артыкулаў Крымінальнага кодэкса, якія пад амністыю не патрапляюць, уключаны арт. 342 - «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».

Менавіта паводле гэтага артыкула адбывае пакаранне Павал Севярынец, як і большасць палітвязняў, у тым ліку і журналістаў (Ірына Халіп, Сяргей Вазняк, Аляксандр Фядута і інш., якія атрымалі ўмоўныя тэрміны пакарання ці пакаранне з адтэрміноўкай).

**26 ліпеня** адміністрацыя спецкамендатуры №7 афіцыйна паведаміла, што Павел Севярынец не патрапляе пад амністыю.

### Адбыванне пакарання Алесем Бяляцкім

*Сябра БАЖ Алесь Бяляцкі, старшыня праваабарончага цэнтра "Вясна" і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH), быў асуджаны 24 лістапада 2011 года. Суддзя Першамайскага райсуда г. Мінска Сяргей Бандарэнка прызнаў яго вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры і прыгаварыў яго да 4,5 года пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Апрача таго, Бяляцкі павінен быў выплаціць дзяржаве 757 млн. 526 тыс. 717 рублёў (каля 90 тыс. долараў). Алесь Бяляцкі сваёй віны не прызнаў, а прысуд назваў палітычным.*

*Падставай для крымінальнага пераследу праваабаронцы стала інфармацыя пра яго рахункі ў замежных банках, перададзеная беларускім уладам Мінюстам Літвы і Генпракуратурай Польшчы. Грошы не з'яўляліся яго ўласнасцю, а накіроўваліся на падтрымку рэпрэсаваным, аплату адвакатаў і іншыя праваабарончыя патрэбы.*

*Міжнародная дэмакратычная грамадскасць, кіраўніцтва Еўрасаюза, ЗША і шэрагу іншых краін лічаць яго палітзняволеным і патрабуюць ад афіцыйнага Мінска вызвалення праваабаронцы. Парламентарыі 27 краін — чальцоў Савета Еўропы - падтрымалі вылучэнне кандыдатуры Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру.*

**18 студзеня** жонка праваабаронцы Наталля Пінчук пералічыла на рахунак Першамайскага райсуда ўсю суму, прысуджаную Бяляцкаму для выплаты дзяржаве. Грошы былі сабраны грамадскасцю са спадзяваннем на тое, што іх выплата дапаможа адмяніць ці змякчыць прысуд Алесю Бяляцкаму.

**24 студзеня** Мінскі гарадскі суд не задаволіў касацыйную скаргу Алеся Бяляцкага і пакінуў у сіле рашэнне суда Першамайскага раёна сталіцы. Самога Бяляцкага ў суд не прывезлі. Рашэнне судовай калегіі абвясціў суддзя Уладзімір Сцяпурка. Той факт, што прызначаныя судом сумы спагнання былі выплачаныя 18 студзеня, ніяк не паўплываў на рашэнне касацыйнай калегіі.

**17 лютага** стала вядома, што асуджанага праваабаронцу Алеся Бяляцкага этапавалі з жодзінскай турмы №8 у папраўчую калонію №2 г. Бабруйска.

**29 сакавіка** суд Першамайскага раёна Мінска па грамадзянскаму зыску падатковай інспекцыі Першамайскага раёна спагнаў з асуджанага праваабаронцы Алеся Бяляцкага яшчэ больш за 140 мільёнаў пені – нібыта за несвоечасовую выплату сумы запазычанасці. Прытым, што сплачаная Бяляцкім у студзені сума паводле прысуду ўжо была праіндэксаваная з улікам інфляцыі, пасля чаго павялічылася больш як удвая. Грамадзянскую справу разглядала суддзя Першамайскага суда Вольга Багом’я з удзелам прадстаўнікоў падатковай інспекцыі Першамайскага раёна Собалевай, Тодрык і Карташовай. Ні калегі Бяляцкага, ні яго адвакат і сям’я пра гэты судовы працэс нічога не ведалі. Рашэнне суда было дасланае самім Алесем Бяляцкім жонцы Наталлі па пошце.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” разглядае гэтае рашэнне як палітычнае - для стварэнне фармальных прычынаў немагчымасці вызвалення Алеся Бяляцкага, як элемент расправы над ім і ціск на яго паплечнікаў.

**4 траўня** стала вядома, што Алесю Бяляцкаму ў калоніі №2 Бабруйска абмяжоўваюць перапіску. Пра гэта паведаміла праваабаронца Настасся Лойка, якая ў красавіку адправіла яму два лісты з паштоўкамі, чыстымі канвертамі, маркамі, а таксама крымінальна-выканаўчым кодэксам Рэспублікі Беларусь. Пазней Настасся Лойка даведалася, што яе лісты Алесь Бяляцкі не атрымаў.

Паколькі забароненых для перасылкі рэчаў у лістах не было, спадарыня Лойка палічыла, што адміністрацыя калоніі самавольна абмежавала права Бяляцкага на перапіску. Адпаведную скаргу яна накіравала ва Упраўленне Дэпартамента выканання пакаранняў МУС па Магілёўскай вобласці. Копіі скаргі дасланыя таксама ў пракуратуру Магілёўскай вобласці і Магілёўскую абласную грамадскую назіральную камісію пры галоўным упраўленні юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама.

**У лісце ад 3 чэрвеня** Алесь Бяляцкі паведаміў калегу Валянціну Стэфановічу, што атрымаў вымову і пазачарговы нарад. Бяляцкі прывёў яшчэ некалькі фактаў, якія сведчаць пра стаўленне да яго кіраўніцтва калоніі №2 г. Бабруйска. “У вывешаным у атрадзе спісе на спатканні былі чатыры графы, што характарызуюць зняволенага. Як аказалася, я там быў самы горшы”, - пісаў Алесь Бяляцкі.

Адміністрацыя калоніі вызначыла, што спадар Бяляцкі не прыняў на сябе пісьмовых абавязальніцтваў выправіцца (то бок не прызнае сваёй віны), не прымае ўдзелу ў самадзейнасці, мае вымову. Такая характарыстыка паўплывала на абмежаванне тэрміну сустрэчы (1-я суткі замест 3-х), на памяншэнне аб'ёму прадуктовай перадачы з 30 да 15 кілаграмаў. Да таго ж Алесю Бяляцкаму адмянілі дадатковыя 5 кілаграмаў гародніны і фруктаў на летні перыяд.

Валянцін Стэфановіч выказаў занепакоенасць, што напярэдадні прыняцця закона "Аб амністыі" кіраўніцтва калоніі спрабуе зрабіць з Алеся Бяляцкага "злоснага парушальніка рэжыму" і такім чынам пазбавіць яго права на амністыю.

**19 чэрвеня** Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў скаргу, пададзеную ад імя Алеся Бяляцкага, які адбывае зняволенне ў папраўчай калоніі №2 г. Бабруйска. Скаргу накіравалі яго жонка Наталля Пінчук і Антуан Бернар, генеральны дырэктар Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH).

У звароце абскарджваюцца парушэнні Рэспублікай Беларусь правоў, гарантаваных міжнароднай дамовай, падпісанай і ратыфікаванай нашай дзяржавай - Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах. У прыватнасці, неправамерныя абмежаванні права на свабоду асацыяцыі (арт. 22), а таксама парушэнні права на справядлівае судовае разбіральніцтва (арт. 14) і парушэнне права на свабоду і асабістую недатыкальнасць (арт. 9).

Камітэт па правах чалавека ААН афіцыйна прыняў да разгляду скаргу і накіраваў яе Беларусі, якая мусіць падаць інфармацыю ці свае пярэчанні з нагоды названых у звароце фактаў цягам 6 месяцаў.

**3 ліпеня** стала вядома, што ў бабруйскай папраўчай калоніі №2, дзе адбывае зняволенне Алесь Бяляцкі, адміністрацыя за кантакты з ім карае іншых вязняў штрафным ізалятарам.

Пра гэта паведаміў адзін з былых вязняў калоніі. Паводле яго слоў, за размовы з Алесем Бяляцкім і праявы сімпатыяў да яго вязняў могуць перавесці ў іншы атрад ці пазбавіць палёгкаў. Свае дзеянні адміністрацыя калоніі тлумачыць тым, што Бяляцкі не хоча раскаяцца.

**12 ліпеня** Мінскі гарадскі суд адмовіў у задавальненні скаргі асуджанага праваабаронцы Алеся Бяляцкага на рашэнне Першамайскага райсуда Мінска аб спагнанні з яго больш як 140 млн. рублёў у якасці пені за несвоечасовую выплату падаткаў з вялікіх прыбыткаў. Першапачаткова раённы суд пастанавіў спагнаць з Алеся Бяляцкага больш за 352 млн. рублёў, але потым праіндэксаваў выплату да сумы ў 750 млн. У сваю чаргу, інспекцыя па падатках і зборах Першамайскага раёна прызначыла пеню за несвоечасовую выплату падаткаў у 140 мільёнаў рублёў. Сплачаная паводле прысуду Бяляцкім у студзені сума ўжо была праіндэксаваная з улікам інфляцыі, пасля чаго павялічылася больш як удвая. Абаронца Алеся Бяляцкага ў Мінскім гарадскім судзе спрабаваў давесці неправамернасць такога рашэння, аднак суддзі скаргу адхілілі.

**24 ліпеня** стала вядома, што жонка палітвязня Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук атрымала адказ з Упраўлення Дэпартамента выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці на скаргу, накіраваную ў Дэпартамент выканання пакаранняў МУС.

У скарзе звярталася ўвага на строгасць і несувымернасць пакарання з цяжкасцю апошняга парушэння, якое быццам бы здзейсніў зняволены праваабаронца, і выказвалася просьба скасаваць яго або замяніць на менш строгае. У выніку накладання апошняга спагнання і па сукупнасці папярэдніх Алесь Бяляцкі пераводзіўся ў лік «злосных парушальнікаў», пазбаўляўся доўгатэрміновага спаткання, яму скарацілі гранічную суму грашовых пераводаў з 500 тысяч да 100 тысяч рублёў штомесяц.

Трэцяе спагнанне праваабаронца атрымаў **1 чэрвеня** за тое, што «спаў у адзенні на сваім спальным месцы». У сваім тлумачэнні Алесь Бяляцкі спаслаўся на стомленасць, кепскі стан здароўя і на тое, што напярэдадні, **31 траўня**, ён звяртаўся да тэрапеўта калоніі, дзе яму прапісалі лекі, якія правакуюць санлівасць альбо наўпрост, альбо ў якасці пабочнага дзеяння.

У адказе на скаргу паведамляецца, што "спагнанне накладзена законна і адпавядае цяжкасці дапушчанага парушэння". На думку чыноўнікаў Дэпартамента, «учыненае правапарушэнне са станам здароўя і прыёмам лекаў не звязанае, а ёсць мэтанакіраваным парушэннем парадку дня».

**13 жніўня** стала вядома, што Алесю Бяляцкаму забаранілі кароткатэрміновае спатканне з роднымі. Яно павінна было адбыцца пасля 15 жніўня. Адміністрацыя калоніі №2 г. Бабруйска такім чынам пакарала Бяляцкага за "парушэнне рэжыму" – за тое, што ён занавешваў сваё спальнае месца і вынес пасля вячэры са сталоўкі лустачку хлеба. Раней, калі Алесь Бяляцкі быў прызнаны "злосным парушальнікам рэжыму", яго пазбавілі доўгатэрміновага спаткання са сваякамі, запланаванага на верасень. Акрамя таго, праваабаронца быў пазбаўлены прадуктовай перадачы.

**21 верасня** стала вядома, што Вярхоўны Суд адмовіў у абскарджаванні прысуду зняволенаму старшыню праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесю Бяляцкаму. Пра гэта паведамляецца ў рашэнні ВС па нагляднай скарзе на прысуд, вынесены Бяляцкаму судом Першамайскага раёна Мінска 24 лістапада 2011 г.

"Суд (…) забяспечыў усебаковае і аб'ектыўнае расследаванне абставінаў справы, адпаведную юрыдычную ацэнку сабраным доказам і абгрунтавана прызнаў іх дастатковымі для ўстанаўлення вінаватасці Бяляцкага Аляксандра Віктаравіча ў здзяйсненні злачынства, за якое ён быў асуджаны. Прызначанае пакаранне адпавядае ўчыненаму асобай асуджанага і з'яўляецца справядлівым", - заяўляецца ў дакуменце за подпісам намесніка старшыні ВС Валерыя Калінковіча.

**19 кастрычніка** жонка зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук паведаміла, што адміністрацыя бабруйскай папраўчай калоніі №2 адмаўляецца прымаць бандэролі з медыкаментамі, дасланыя для Бяляцкага. У турэмшчыкаў узнікаюць прэтэнзіі то да вагі бандэролі – патрабуюць не больш за 1 кілаграм (паводле паштовых стандартаў бандэроль павінна важыць да 2 кілаграм), то да тэрміну адпраўкі.

Па словах Наталлі Пінчук, яна кантактавала са сваякамі іншых зняволеных — яны з такой праблемай не сутыкаліся. "Атрымліваецца, што цяпер да зімы Алесь будзе ў калоніі без лекаў і вітамінаў", - зазначае жонка палітвязня.

**26 лістапада** ў Мінску была канфіскаваная на карысць дзяржавы кватэра, што належала асуджанаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму - лідару закрытага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра "Вясна". У гэтым памяшканні на працягу апошніх 12 гадоў працавалі праваабаронцы цэнтра. За час існавання офіса "Вясны" яго наведалі тысячы грамадзян, якім аказвалася прававая дапамога, збіраліся сродкі для падтрымкі палітвязняў, праводзіліся прэс-канферэнцыі, трэнінгі і семінары.

**20 снежня** жонка і сястра Алеся Бяляцкага наведалі палітзняволенага праваабаронцу ў Бабруйскай калоніі №2. Кароткатэрміновае спатканне доўжылася каля 2-х гадзін. Падчас размовы, якая вялася праз тэлефон і шкло, прысутнічалі супрацоўнікі адміністрацыі калоніі. Як распавяла потым жонка Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук, на палітычныя і праваабарончыя тэмы яны стараліся не размаўляць, бо сустрэчу маглі перапыніць.

Па словах Наталлі, Алесь на здароўе не скардзіўся, настрой у яго нармальны. Праваабаронца павіншаваў з надыходзячымі святамі, сказаў, што яму таксама прыходзіць шмат віншаванняў.

Нагадаем, папярэдняе кароткатэрміновае спатканне, прызначанае на жнівень, было адмененае адміністрацыяй калоніі.

**22 снежня** стала вядома, што працоўная група ААН па затрыманнях (WGAD) прыйшла да высновы, што арышт кіраўніка праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага быў адвольным.

Зняволенне праваабаронцы «супярэчыць артыкулу 20, параграф 1, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкулу 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах», - паведамляецца ў заключэнні працоўнай групы. WGAD падкрэсліла, што «выхадам з сітуацыі з'яўляецца вызваленне спадара Бяляцкага і прадстаўленне яму законнага права на кампенсацыю».

Рашэнне рабочай групы ААН прынятае па выніках паведамлення, адпраўленага Абсерваторыяй па абароне правоў праваабаронцаў WGAD 2 красавіка 2012 года і аспрэчвае законнасць заключэння Алеся Бяляцкага. Абсерваторыя па абароне правоў праваабаронцаў - сумесная праграма Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Сусветнай Арганізацыі супраць катаванняў (OMCT).

## Справа Андрэя Пачобута

**21 чэрвеня** стала вядома, што распачатая новая крымінальная справа супраць гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута, беларускага карэспандэнта польскай “Gazety Wyborczej”, паводле ч. 2 арт. 367 Крымінальнага кодэкса - “Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, здзейснены асобай, якая раней была асуджаная за гэтае злачынства”. Пра гэта паведаміў следчы па найважнейшых справах Гродзенскай абласной пракуратуры Арсень Нікольскі, які разам з міліцыянтамі прыйшоў у кватэру Андрэя. Падставай для узбуджэння справы, паводле следчага, сталі публікацыі Пачобута на інфармацыйных сайтах «Хартыя’97» і «Белорусский партизан».

У хаце журналіста правяліператрус, у выніку якога забралі працоўны камп'ютар. Самога Пачобута міліцыянты павезлі на допыт, але ён адмовіўся размаўляць са следчым, і яго адвезлі ў гродзенскую турму.

*Нагадаем, 5 ліпеня 2011 года Андрэй Пачобут быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 2 гады паводле арт. 367 ч. 1 КК (паклёп на прэзідэнта). Рашэнне прыняў суддзя Ленінскага райсуда Гродна Віталь Ляцко. Журналіста, які правёў некалькі месяцаў за кратамі, вызвалілі ў зале суда. Першапачаткова Пачобута вінавацілі ў парушэнні двух артыкулаў Крымінальнага кодэкса: 368 (частка I) — «знявага» і 367 (частка I) — «паклёп» у дачыненні да прэзідэнта. У выніку па артыкуле за зняваргу журналіста апраўдалі.*

**22 чэрвеня** інфармацыю пра новую крымінальную справу, распачатую супраць Андрэя Пачобута, распаўсюдзілі інфармацыйныя агенцтвы “Інтэрфакс” і БелТА. Паводле іх паведамленняў, справа заведзеная Упраўленнем Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці “па матэрыялах праверкі УКДБ”. “З матэрыялаў праверкі вынікае, што ў шэрагу публікацый, падрыхтаваных А. Пачобутам і распаўсюджаных пры дапамозе інтэрнэт-рэсурсаў, утрымліваюцца паклёпніцкія выказванні ў дачыненні

да прэзідэнта РБ. У межах праверкі былі прызначаныя і праведзеныя шэраг лінгвістычных экспертыз. Паводле заключэння экспертаў, у пададзеных публікацыях утрымліваюцца словы, фразы і выразы, ужытыя ў дачыненні да прэзідэнта РБ, якія належаць да паклёпу і дыскрэдытацыі Рэспублікі Беларусь", - паведамляецца ў інфармацыі.

Пра якія рэсурсы, публікацыі і выразы ідзе гаворка, у паведамленні Следчага камітэта не ўдакладнялася.

Паводле Крымінальнага кодэкса, журналіста могуць пакараць абмежаваннем волі на тэрмін да 5 гадоў альбо пазбаўленнем волі на такі ж тэрмін. Да гэтага тэрміну можа дадацца трохгадовы тэрмін зняволення, на які А. Пачобут быў асуджаны 5 ліпеня 2011 г. з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады. Тады журналіста прызналі вінаватым у парушэнні арт. 367 ч. 1 (паклёп на прэзідэнта).

**22 чэрвеня** ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў» выступіла з пратэстам у сувязі з распачатай чарговай крымінальнай справай у дачыненні да гродзенскага журналіста, сябра арганізацыі Андрэя Пачобута па арт. 367 КК ("Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь"). БАЖ запатрабаваў тэрмінова вызваліць А. Пачобута, спыніць крымінальны пераслед журналіста, адмовіцца ад практыкі прымяненні Крымінальнага кодэкса ў мэтах абмежавання свабоды выказвання меркавання ў краіне.

**22 чэрвеня** заявы ў абарону Андрэя Пачобута прынялі таксама міжнародныя арганізацыі: "Рэпарцёры без межаў", Міжнародная федэрацыя журналістаў, Камітэт абароны журналістаў і АБСЕ.

**30 чэрвеня** Андрэя Пачобута выпусцілі з СІЗА пад падпіску аб нявыездзе. У гэты ж дзень Пачобуту выставілі афіцыйнае абвінавачанне ў паклёпе на кіраўніка дзяржавы паводле ч. 2 арт. 367 Крымінальнага кодэкса.

**11 ліпеня** А. Пачобута выклікалі ва Упраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці. Следчы Арсень Нікольскі азнаёміў журналіста з пастановай пра стварэнне следчай групы, якая будзе расследаваць заведзеную супраць яго крымінальную справу, а таксама з матэрыяламі экспертызы дакументальнага фільма "Skazany na polskosc", паказанага 24 сакавіка 2012 года на канале "TVP Bialystok".

Па словах Нікольскага, справа супраць Пачобута можа быць пашыраная - прэтэнзіі могуць быць выстаўленыя і да аўтараў гэтага фільма, і да яго як галоўнага героя стужкі. Экспертызу рабіла цэлая група навукоўцаў. Некаторыя з экспертаў угледзелі ў пэўных эпізодах фільма склад злачынства.

**28 жніўня** следчы па найважнейшых справах Гродзенскай абласной пракуратуры Арсень Нікольскі паведаміў, што працягнутая крымінальная справа супраць гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута за "паклёп" на прэзідэнта Лукашэнку. На які тэрмін, следчы не ўдакладніў. Андрэй Пачобут па-ранейшаму знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе.

**21 верасня** стала вядома, што крымінальную справу супраць гродзенскага журналіста, карэспандэнта польскай Gazety Wyborczej Андрэя Пачобута працягнулі да **21 кастрычніка**.

**21 кастрычніка** скончыўся тэрмін расследавання крымінальнай справы "за паклёп на прэзідэнта" (арт. 367 ч. 2 КК) супраць гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута. За час следства ніякіх следчых дзеянняў з ім не праводзілася, яго нікуды не выклікалі. Следчыя органы Беларусі прынялі рашэнне падоўжыць расследаванне да **21 лістапада**. «Тэрмін папярэдняга следства працягнуты на месяц для правядзення дадатковых следчых дзеянняў», — паведаміў афіцыйны прадстаўнік УСК па Гродзенскай вобласці, падпалкоўнік юстыцыі Сяргей Шаршаневіч. Мера стрымання ў

дачыненні да Пачобута не мянялася, ён працягвае заставацца пад падпіскай аб нявыездзе.

**21 лістапада** супрацоўнік Упраўлення Следчага Камітэта па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч паведаміў СМІ, што папярэдняе следства па справе гродзенскага журналіста, сябра БАЖ Андрэя Пачобута падоўжанае да 21 снежня. Ён патлумачыў, што гэта зроблена "для правядзення дадатковых следчых і працэсуальных дзеянняў", і "для дачы аб'ектыўнай ацэнкі дзеянняў абвінавачанага прызначаны шэраг лінгвістычных экспертыз". Паводле Андрэя Пачобута, з матэрыяламі справы яго яшчэ не знаёмілі. Журналіст перакананы, што за падвешваннем яго справы стаяць нейкія палітычныя прычыны.

**29 лістапада** гродзенскага журналіста, сябра БАЖ Андрэя Пачобута выклікалі ва Упраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці. Следчыя азнаёмілі журналіста з вынікамі тэхнічнай экспертызы адабраных у яго падчасператрусу камп'ютараў і паведамілі, што прызначана яшчэ адна лінгвістычная экспертыза, якую будуць праводзіць супрацоўнікі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я.Купалы.

Андрэя Пачобута праінфармавалі, што на час правядзення экспертызы следства прыпыняецца, але ён застаецца абвінавачаным і пад падпіскай аб невыездзе.

«Пасля лінгвістычных экспертыз Акадэміі кіравання пры прэзідэнце, БДУ і Акадэміі навук, якія "сціпла" прайшліся па маіх артыкулах, знайшоўшы там цэлы букет крымінальных артыкулаў, Следчаму камітэту для нечага спатрэбілася дадатковае меркаванне гродзенскага універсітэта», - зазначае А. Пачобут.

*(**15 сакавіка** 2013 г. Упраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці вынесла пастанову аб спыненні папярэдняга расследавання па справе Андрэя Пачобута ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства (п. 2 ч. 1 арт. 29 КПК.)*

## Справа Антона Сурапіна

**13 ліпеня** ў Мінску супрацоўнікі КДБ зладзіліператрус на здымнай кватэры рэдактара сайта Belarusian News Photos (bnp.by), 20-гадовага студэнта 4-га курса Інстытута журналістыкі БДУ, сябра БАЖ Антона Сурапіна. Спецслужбы цікавіла, адкуль на сайце з'явіліся фотаздымкі цацачных мядзведзяў з лозунгамі ў абарону свабоды слова, што былі скінутыя над Івянцом і Мінскам са шведскага лёгкаматорнага самалёта. Між тым, пад здымкамі Антон Сурапін тлумачыў, што іх даслаў чалавек, які жыве не ў Мінску і пажадаў застацца ананімным. Пасляператрусу Сурапіна забралі на допыт.

*Аднаматорны самалёт са шведскім экіпажам з супрацоўнікаў кампаніі Studio Total незаконна перасек паветраную мяжу Беларусі раніцай 4 ліпеня. Ён правёў у паветранай прасторы краіны прыкладна паўтары гадзіны, скінуўшы над Івянцом і ўскраінай Мінска больш чым 800 цацачных мядзведзікаў з запіскамі ў падтрымку дэмакратыі ў Беларусі. З самага пачатку беларускія ваенныя і памежнікі катэгарычна абвяргалі факт незаконнага перасячэння мяжы.*

**14 ліпеня** следчы КДБ патэлефанаваў бацькам Антона Сурапіна і паведаміў, што абвінавачанне іх сыну не выстаўленае, але яго затрымалі на 72 гадзіны для высвятлення яго спрычыненасці да плюшавых мядзведзяў, скінутых 4 ліпеня.

**16 ліпеня** – праз 3 сутак пасля затрымання Антона Сурапіна – бацькі журналіста не мелі ніякай інфармацыі пра лёс сына. Адразу пасля заканчэння заяўленага 72-гадзіннага тэрміну ўтрымання пад вартай, яны ізноў пайшлі ў КДБ. Разам з імі былі

старшыня БАЖ Жанна Літвіна і яе намеснік, юрыст Андрэй Бастунец. У прыёмнай не змаглі даць інфармацыі пра Антона - спаслаліся на тое, што не маюць права ўмешвацца ў следчыя дзеянні.

**17 ліпеня** раніцай дзяжурны адвакат, які прысутнічаў 16 ліпеня на допыце Антона Сурапіна ў СІЗА КДБ, паведаміў бацькам журналіста, што іх сына затрымалі ў межах расследавання крымінальнай справы, распачатай па арт. 371 ч. 3 КК - незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы РБ, здзейсненае арганізаванай групай асобаў.

Адвакат сказаў, што Антона падазраюць у спрыянні гэтым злачынным дзеянням і ў дачыненні да журналіста прыменена мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай. (Яно можа доўжыцца 10 сутак з моманту фактычнага затрымання, пасля чаго затрыманаму павінны альбо змяніць меру стрымання, альбо прад'явіць абвінавачанне.) Паводле абвінавачання Антону Сурапіну пагражае да 7 гадоў турэмнага зняволення.

**17 ліпеня** арганізатары "плюшавага дэсанту", прадстаўнікі шведскай піяр-кампаніі Studio Total, заявілі пра недатычнасць да іх акцыі беларускага фрыланс-фатографа. "Мы не ведаем Антона Сурапіна. Мы не маем да яго ніякага дачынення. У нас не было ніякіх кантактаў з кім-небудзь у Беларусі, хто дапамагаў бы нам зладзіць акцыю", - зазначыў адзін з арганізатараў акцыі Томас Мазэці.

Тым часам, у абарону журналіста выступілі міжнародныя праваабарончыя арганізацыі. Неадкладнага вызвалення Антона Сурапіна патрабавалі "Рэпарцёры без межаў", Міжнародная федэрацыя журналістаў, Еўрапейская федэрацыя журналістаў, Камітэт абароны журналістаў (CPJ, Нью-Ёрк).

**23 ліпеня** пасля сканчэння вызначанага заканадаўствам 10-суткавага тэрміну ўтрымання пад вартай маладога фрыланс-журналіста Антона Сурапіна пакінулі ў СІЗА КДБ. Паводле адваката, у гэты дзень адбываліся нейкія працэсуальныя дзеянні з удзелам Антона, якія – адвакат не змагла паведаміць, спасылаючыся на таямніцу следства.

**24 ліпеня** міжнародныя праваабарончыя арганізацыі Index on Censorship ("Дасье на цэнзуру") і Amnesty International заклікалі беларускія ўлады неадкладна вызваліць журналіста. "Абвінавачванні, высунутыя Антону Сурапіну, - яшчэ адзін цвік у труну свабоды выказвання меркаванняў і асацыяцыяў у Беларусі", — зазначыў Джон Далхусэн, дырэктар Amnesty International па Еўропе і Цэнтральнай Азіі.

**25 ліпеня** ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" накіравала зварот на імя старшыні КДБ Беларусі Вадзіма Зайцава з патрабаваннем неадкладна вызваліць з СІЗА Антона Сурапіна і спыніць яго крымінальны пераслед. У звароце кіраўніцтва БАЖ адзначае, што права на збор, захаванне і распаўсюд інфармацыі з'яўляецца адным з галоўных у любым дэмакратычным грамадстве. Такое права гарантавана артыкулам 34 Канстытуцыі Беларусі.

**25 ліпеня** Amnesty International прызнала Антона Сурапіна вязнем сумлення.

**26 ліпеня** адвакат арыштаванага фрыланс-журналіста Антона Сурапіна не змагла сустрэцца са сваім падабаронным у СІЗА КДБ. Прычына адмовы ў сустрэчы – «адсутнасць вольных кабінетаў» у СІЗА.

**2 жніўня** ГА "БАЖ" афіцыйна звярнулася да Спецдакладчыка ААН па пытанні заахвочвання і абароны права на свабоду меркаванняў і іх свабоднага выказвання Франка Ла Ру з просьбай адрэагаваць на факт затрымання журналіста Антона Сурапіна, а таксама выступіць з прапановай кіраўніцтву Беларусі вызваліць яго з-пад варты і спыніць крымінальны пераслед. Апроч гэтага, журналісцкая арганізацыя прасіла Спецдакладчыка ААН вынесці рэкамендацыі кіраўніцтву Беларусі пра спыненне практыкі ўжывання механізмаў крымінальнага пераследу для абмежавання свабоды

выказвання ў краіне ў дачыненні журналістаў, якія выконваюць свой прафесійны і грамадскі абавязак.

**7 жніўня** Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў (ЦІГС) Камітэта дзяржбяспекі РБ паведаміў, што фрыланс-журналісту Антону Сурапіну і рыэлтару Сяргею Башарымаву, якія на той момант знаходзіліся ў СІЗА КДБ, выстаўленыя абвінавачанні па ч. 6 арт. 16 (дапамаганне ва ўчыненні злачынства) і ч. 3 арт. 371 (незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь) Крымінальнага кодэкса. Паводле ЦІГС, КДБ распачаў і расследуе справу па факце незаконнага перасячэння дзяржаўнай мяжы Беларусі грамадзянамі Швецыі на лёгкаматорным самалёце.

**13 жніўня** кіраўніцтва ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" паручылася за арыштаванага журналіста Антона Сурапіна. Хадайніцтва Жанны Літвіной і Андрэя Бастунца аб змене меры стрымання журналіста было накіравана ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі, які займаецца расследаваннем справы зняволенага сябра арганізацыі. Паводле Крымінальнага кодэкса, паручальніцтва за зняволенага могуць даць два ці болей раней не судзімых грамадзян краіны, якія «заслугоўваюць даверу». У сувязі з гэтым БАЖ прапанаваў усім неабыякавым грамадзянам таксама падпісаць адпаведнае паручальніцтва і накіраваць яго на адрас КДБ Беларусі.

**14 жніўня** БАЖ распачаў кампанію збору подпісаў за вызваленне Антона Сурапіна. Праваабарончая арганізацыя заклікала ўсіх салідарных паставіць свой подпіс у абарону зняволенага фатографа.

**16 ліпеня** ГА "БАЖ" накіравала ліст да прафесарска-выкладчыцкага калектыву Інстытута журналістыкі БДУ з просьбай падтрымаць свайго студэнта Антона Сурапіна і паспрыяць ягонаму вызваленню.

**17 жніўня** ўвечары арыштаваны фрыланс-журналіст Антон Сурапін быў вызвалены з-пад варты пад падпіску пра нявыезд і неразгалошванне. З СІЗА КДБ яго адвезлі ў Слуцк да бацькоў. Адваката пры яго вызваленні не было. Антону было забаронена выязджаць за межы горада. Паводле Антона, лісты ў СІЗА КДБ да яго даходзілі толькі ад родных.

**20 жніўня** БАЖ паведаміў, што працягне збіраць подпісы пад зваротам у КДБ і Генеральную пракуратуру з патрабаваннем спыніць крымінальную справу супраць вызваленага з СІЗА КДБ Антона Сурапіна. "Журналіст па-ранейшаму знаходзіцца пад прыцэлам следчых, якія ў любы момант могуць вярнуць яго за краты. Менавіта таму гэта сітуацыя працягвае вымагаць салідарнасці ад усёй журналісцкай супольнасці. Такой жа салідарнасці вымагае сітуацыя і з іншымі сябрамі нашай арганізацыі – Андрэем Пачобутам і Паўлам Севярынцам", - заявіла Жанна Літвіна.

**13 верасня** ГА "БАЖ" накіравала ў КДБ подпісы за спыненне крымінальнай справы супраць фатографа і журналіста Антона Сурапіна. Копіі запоўненых падпісных аркушаў за спыненне крымінальнага пераследу журналіста накіраваныя таксама ў Генеральную пракуратуру.

**18 верасня** фрыланс-журналісту і былому зняволенаму СІЗА КДБ Антону Сурапіну змянілі падпіску пра нявыезд са Слуцку на Мінск. Паколькі Антону трэба праходзіць практыку, а з 1 кастрычніка ён працягне вучобу ў Інстытуце журналістыкі БДУ.

**26 верасня** БАЖ атрымаў з Генеральнай пракуратуры адказ на зварот пра спыненне крымінальнай справы супраць журналіста Антона Сурапіна. (Звароты былі накіраваныя ў КДБ і Генпракуратуру). Генеральная пракуратура за подпісам намесніка начальніка аддзела Д.С. Чаркаса паведаміла, што свой экземпляр подпісаў яна таксама

перадае ў КДБ. Такім чынам, рашэнне аб спыненні крымінальнага пераследу журналіста цяпер цалкам знаходзіцца ў руках установы, якая гэты пераслед распачала.

**26 снежня** Антон Сурапін паведаміў, што не ведае, на якім этапе на сёння знаходзіцца крымінальная справа супраць яго. Пасля таго, як чатыры месяцы таму (**17 жніўня**) хлопца вызвалілі са следчага ізалятара КДБ, на допыты яго больш не выклікалі. Па словах Сурапіна, магчыма, нейкая яснасць будзе пасля суда над памежнікам, які прапусціў шведскі «плюшавы дэсант». Зараз хлопец вучыцца на чацвёртым курсе дзённага аддзялення інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе.

**29 снежня** стала вядома, што арышт Антона Сурапіна ўзначаліў дзесятку абсурдных арыштаў года, складзеную Amnesty International. "Вас можа здзівіць, што часам прыводзіць да турмы ў некаторых месцах свету, і наколькі суровыя прысуды можна атрымаць", – пісала праваабарончая арганізацыя.

## Справа Мікалая Петрушэнкі

**22 жніўня** віцебскага журналіста і грамадскага актывіста Мікалая Петрушэнку выклікалі ў Аршанскі гарадскі аддзел Следчага камітэта РБ і паведамілі, што супраць яго распачатая крымінальная справа па арт. 369 КК - за "знявагу прадстаўніка ўлады". Падставай крымінальнага пераследу стаў артыкул сп-ра Петрушэнкі, размешчаны 8 жніўня на сайце nash-dom.info пад назвай "Педафіл атрымліваў прэміі за лепшыя дзіцячыя пляцоўкі". Публікацыя размешчана ў раздзеле "Блогі".

Паводле пастановы (датаванай **17 жніўня**) за подпісам старшага следчага С. Шчарбянка, аўтар артыкула нібыта "ўказваў", што намеснік старшыні Аршанскага гарвыканкама падазраецца ў спрыянні дзейнасці педафіла. Тым самым Петрушэнка "публічна зняважыў" гарадскога чыноўніка "як прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў", - гаварылася ў пастанове.

**На пачатку верасня** справу Петрушэнкі перадалі ва ўпраўленне Следчага камітэта Віцебскай вобласці «з мэтай аб'ектыўнага і прафесійнага даследавання ўсіх абставін».

**11 кастрычніка** стала вядома, што скончана лінгвістычная экспертыза тэксту па крымінальнай справе за "знявагу прадстаўніка ўлады" віцебскага журналіста Мікалая Петрушэнкі. Па даручэнні следчага экспертызу праводзіў Віцебскі педагагічны універсітэт імя П. Машэрава, спецыялісты якога не знайшлі ў спрэчным тэксце нічога крымінальнага.

**17 кастрычніка** крымінальная справа супраць віцебскага журналіста Мікалая Петрушэнкі была спыненая. "У сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства", - паведамілі журналісту ва Упраўленні Следчага камітэта Віцебскай вобласці.

Амаль у той жа час М.Петрушэнка праходзіў адказчыкам і па грамадзянскай справе аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі і кампенсацыі маральнай шкоды.

**17 ліпеня** стала вядома, што ў суд Талачынскага раёна (Віцебская вобласць) паступіла зыскавая заява супраць рэдакцыі зарэгістраванай у Расіі газеты «Витебский курьер» і журналіста Мікалая Петрушэнкі ад Юрыя Лычкоўскага, старшыні Талачынскага аддзялення рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў». Зысковец пакрыўдзіўся на публікацыю М. Петрушэнкі «Ад пушчы да няволі:  у ціхім балоце чэрці водзяцца»

(«Витебский курьер» №7 ад 23.02.2012). Публікацыя прысвячалася праблеме браканьерства ў рэгіёне. Спадар Лычкоўскі патрабаваў прызнаць апублікаваныя звесткі не адпаведнымі рэчаіснасці, абавязаць газету надрукаваць абвяржэнне, а таксама спагнаць з адказчыкаў супольна 5 млн. рублёў кампенсацыі.

**11 верасня** суд Талачынскага раёна часткова задаволіў зыск. Суддзя Наталля Барысавец пастанавіла спагнаць з Мікалая Петрушэнкі 3 млн. рублёў кампенсацыі за маральны ўрон і 600 тыс. дзяржпошліны (агулам каля 300 еўра). У дачыненні да рэдакцыі "Витебский курьер" суддзя ў задаволенні зыску адмовіла.

## Справа часопіса "ARCHE. Пачатак" і Валера Булгакава

**14 верасня** ў Гродне быў затрыманы галоўны рэдактар незалежнага культурніцкага навукова-папулярнага часопіса "ARCHE. Пачатак", кандыдат філасофскіх навук Валер Булгакаў. Інцыдэнт адбыўся адразу пасля прэзентацыі кнігі "Саветызацыя Заходняй Беларусі" аўтарства гісторыка Яна Шумскага і новых выпускаў "ARCHE".

У аперацыі былі задзейнічаныя супрацоўнікі міліцыі і падатковай інспекцыі, якія зрабілі «кантрольную закупку» выданняў, што распаўсюджваў падчас прэзентацыі Булгакаў. Падаткавікі запатрабавалі ў яго дакументы і пыталіся пра падставы распаўсюду ім літаратуры. Усе наяўныя выданні (194 асобнікі) апісалі і загрузілі ў свой аўтамабіль. Працэс вынятку здымалі на відэакамеру. Спадара Булгакава адвезлі ў падатковую інспекцыю, адкуль адпусцілі прыкладна праз 2 гадзіны, узяўшы тлумачэнні.

**21 верасня** супрацоўнікі Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю (УДФР) прыйшлі з праверкай у мінскую друкарню, дзе выдаецца "ARCHE".

**24 - 28 верасня** з друкарні былі вынятыя ўсе дакументы за апошнія два гады дзейнасці часопіса.

**2 кастрычніка** у В. Булгакава былі арыштаваныя больш за 5000 асобнікаў кніг з яго асабістай калекцыі.

**4 кастрычніка** ва Упраўленне Дэпартамента фінансавых расследаванняў па г. Мінску і Мінскай вобласці выклікалі заснавальніка часопіса "ARCHE. Пачатак" Андрэя Дынько. Пасля візіту ён прыняў рашэнне звольніць з пасады галоўнага рэдактара Валера Булгакава і часова прызначыць выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара ягонага ранейшага намесніка Аляксандра Пашкевіча.

**4 кастрычніка** УДФР заблакаваў банкаўскі рахунак "ARCHE", у выніку часопіс страціў магчымасць аплачваць друк новых нумароў, макет аднаго з якіх у той час быў цалкам падрыхтаваны і знаходзіўся ў друкарні. Бухгалтар часопіса адзначае, што ніякага запыту перад тым да іх не прыходзіла, а пасля, на запатрабаванне УДФР, яны падалі ўсю дакументацыю за ўвесь перыяд існавання часопіса.

Афіцыйнае абвінавачанне выдаўцам "ARCHE" пакуль што не выстаўленае. Супрацоўнікаў выдання пачалі выклікаць для тлумачэнняў.

**18 кастрычніка** Гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці аштрафаваў былога рэдактара культурніцкага навукова-папулярнага часопіса "ARCHE. Пачатак" Валера Булгакава на 5 базавых велічынь (каля 50 еўра). Таксама канфіскаваны ўвесь прыбытак ад продажу часопіса на агульную суму 875 тысяч рублёў (эквівалент прыкладна 80

еўра). У судзе прадстаўнік падатковай інспекцыі Кастрычніцкага раёна г. Гродна патлумачыў, што Булгакаў прадаваў кнігі, але не меў рэгістрацыі прадпрымальніка і не выдаваў чэкі або талоны.

**23 кастрычніка** дзяржаўны тэлеканал "Беларусь 1" (Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія) у праграме пра крымінальныя здарэнні "Зона Х" прысвяціў сюжэт "выкрыццю" незалежнага культурніцкага часопіса "ARCHE. Пачатак" і яго рэдактара Валеры Булгакава.

Самога Булгакава аўтары сюжэту называлі "босам часопіса". А кнігі, якія ў выніку "аператыўнай камбінацыі" затрымалі супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў (арыштаваныя кнігі з асабістай калекцыі В. Булгакава), у сюжэце характарызавалі як "літаратуру, якая кепска пахне", "палотнамі з прэтэнзіяй на экстрэмізм" і г. д.

З сюжэту вынікае, што рэзкія эпітэты на адрас часопіса і яго рэдактара выклікала "сумнеўная трактоўка гісторыі Беларусі ў гады фашысцкай акупацыі".

**24 кастрычніка** беларускі гісторык Уладзімір Ляхоўскі накіраваў кіраўніцтву Белтэлерадыёкампаніі ліст, у якім патрабаваў публічных прабачэнняў. У адваротным выпадку навуковец выказаў намер звярнуцца ў суд для абароны гонару і прафесійнай годнасці.

Манаграфію Уладзіміра Ляхоўскага «Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у другой палове XIX ст. — першай палове XX ст. (да 1939 г.)» паказалі ў эфіры праграмы «Зона Х» на фоне абвінаваўчых каментароў. У відэасюжэце пра арышт кніг у Валеры Булгакава буйным планам была пададзена вокладка манаграфіі пад наступным каментаром: «В данной литературе дана сомнительная трактовка истории Беларуси во времена нацистской оккупации». Далей было заяўлена, што выданні належаць да «дурно пахнущей литературы, на которой присутствует свастика».

"Мая кніга прысвечана беларускім патрыётам, якія змагаліся за самастойнасць Беларусі супраць царскага рэжыму, сталінскай тыраніі і польскіх жандараў. У маёй манаграфіі ўвогуле няма сюжэта пра нацысцкую акупацыю Беларусі ці ўсхвалення нацысцкай ідэалогіі і яе сімволікі (свастыкі). Кніга заканчваецца 1939 годам і ўвогуле не тычыцца ваенных падзей 1941 — 1945 гг.", - звяртае ўвагу кіраўніцтва дзяржаўнага тэлебачання гісторык Уладзімір Ляхоўскі.

**25 кастрычніка** ў офісе ГА "БАЖ" адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам заснавальніка "ARCHE" Андрэя Дынько і в. а. галоўнага рэдактара часопіса Алеся Пашкевіча. Прадстаўнікі рэдакцыі на сустрэчы з журналістамі адказалі на закіды, што прагучалі ў сюжэце дзяржтэлебачання.

Па словах Алеся Пашкевіча, пра вайну ішла гаворка хіба што ў двух выданнях: кнізе нямецкага гісторыка Марка Бартушкі «Партызанская вайна ў Беларусі ў 1941—1944 гг." І "ваенным" нумары "ARCHE" (№ 5 за 2008 г.), які змяшчаў навуковыя артыкулы аўтараў з Беларусі, Польшчы, Германіі, Ізраіля, заснаваныя на дакументальных крыніцах. Да таго ж, звярнуў увагу А. Пашкевіч, згаданы нумар выдадзены больш за 4 гады таму і, згодна з патрабаваннямі для зарэгістраваных выданняў, быў дасланы ў Міністэрства інфармацыі, Кніжную палату, прадаваўся ў розных беларускіх кнігарнях і ніколі не выклікаў ні чыіх прэтэнзій.

Старшыня БАЖ Жанна Літвіна выказала меркаванне, што гэта палітычная замова, скіраваная на знішчэнне незалежнага часопіса.

**26 кастрычніка** ў перадачы «Зона Х» дзяржаўнага тэлеканал "Беларусь 1" быў прадэманстраваны новы сюжэт пра справу вакол часопіса "ARCHE. Пачатак". Шмат у

чым ён прадубляваў папярэдні выпуск. Але гэтым разам дзяржтэлебачанне загаварыла пра магчымую крымінальную адказнасць экс-рэдактара выдання Валера Булгакава. Прычым магчымай нагодай для яе ўзбуджэння, паводле журналіста тэлеканала Аляксандра Вярбіцкага, можа стаць "экстрэмісцкі" змест вынятай у рэдактара літаратуры – калі тое пацвердзіць паўторная экспертыза.

**6 лістапада** кіраўніцтва ГА "БАЖ" адправіла афіцыйны ліст дырэктару Дэпартамента фінансавых расследаванняў (ДФР) Камітэта дзяржкантролю Рыгору Вярэмку з хадайніцтвам пра разблакаванне банкаўскага рахунку часопіса "ARCHE. Пачатак". Журналісцкая арганізацыя выказала перасцярогу, што падзеі, якія адбываюцца вакол часопіса, могуць паставіць крыж на далейшым яго існаванні.

У прыватнасці, у межах праверкі дзейнасці рэдакцыі Упраўленне ДФР па Мінскай вобласці і г. Мінску вынесла прадпісанне прыпыніць аперацыі па рахунках "ARCHE. Пачатак". "Прадпісанне было вынесена нібыта на падставе адмовы падаць для праверкі дакументы бухгалтарскага і падатковага ўліку і іншыя дакументы, звязаныя з фінансава-гаспадарчай дзейнасцю рэдакцыі. Па інфармацыі, якую БАЖ атрымаў ад супрацоўнікаў часопіса, ніякіх адмоваў у прадастаўленні УДФР дакументаў ад іх не паступала. Сітуацыя з'яўляецца следствам супярэчлівых патрабаванняў супрацоўнікаў УДФР, якія выказваліся ў вуснай форме", – звяртае БАЖ ўвагу кіраўніка ДФР.

**13 лістапада** стала вядома, што былы галоўны рэдактар часопіса "ARCHE. Пачатак" Валер Булгакаў прыняў рашэнне выехаць з Беларусі. Паводле журналіста, да такога ўчынку яго вымусіла следства, якое ўлада распачала супраць інтэлектуальнага незалежнага выдання. Разам з тым, дзяржтэлеканал "Беларусь 1" у праграме крымінальнай хронікі "Зона Х" двойчы выступіў з абвінавачваннямі ў распаўсюдзе экстрэмісцкай літаратуры. У апошнім выпадку заяўлялася, што "кніжная" справа можа стаць крымінальнай.

"Маё рашэнне не з'яўляецца канчатковым. Як далей будзе развівацца сітуацыя, залежыць ад таго, ці пойдуць нашы праваахоўныя органы на абвастрэнне сітуацыі, ці не", - патлумачыў В. Булгакаў.

**16 лістапада** рэдакцыя часопіса "ARCHE. Пачатак" паведаміла, што прыняла рашэнне не ўключаць выданне ў падпісны каталог РУП "Белпошта" на 1-е паўгоддзе 2013 года. Рэдакцыя таксама папрасіла "Белпошту" вярнуць падпісчыкам грошы за 2-е паўгоддзе 2012 года.

Прычына – рэдакцыя не мае магчымасці выконваць абавязкі перад падпісчыкамі, паколькі рахунак часопіса дагэтуль заблакаваны на патрабаванне Дэпартамента фінансавых расследаванняў (ДФР) Камітэта дзяржкантролю. Звароты непасрэдна ў ДФР і скаргі ў вышэйшыя інстанцыі з просьбай разблакаваць рахункі выдання не мелі поспеху.

**30 лістапада** ГА "БАЖ" атрымала адказ на пісьмовае хадайніцтва аб разблакаванні банкаўскага рахунку часопіса "ARCHE. Пачатак" з Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў. У лісце за подпісам намесніка начальніка Упраўлення ДФР па Мінскай вобласці і г. Мінску А. Лагунова заяўляецца, што рахунак часопіса пакуль не будзе разблакаваны, паколькі рэдакцыя не падала для праверкі патрэбных дакументаў. Паколькі і дагэтуль паперы "прадастаўленыя не ў поўным аб'ёме", падстаў для адклікання свайго рашэння Упраўленне не бачыць.

У рэдакцыі "ARCHE. Пачатак" адзначаюць, што перадалі ў ДФР усё запатрабаванае. Выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара часопіса Алесь Пашкевіч выказаў здзіўленне, на якой падставе УДФР робіць такія заявы: "Усё, што ад нас патрабавалі, мы выконвалі. Я асабіста атрымліваў ліст аб прадастаўленні матэрыялаў, сам насіў торбы з дакументамі, здаваў іх пад подпіс, і не было ніякіх прэтэнзій".

## Напады на журналістаў

18 верасня ў Мінску супрацоўнікі праваахоўных органаў у цывільнай вопратцы ў грубай форме затрымлівалі журналістаў, якія асвятлялі передвыбарчы пікет моладзевага крыла кампаніі "Гавары праўду". Падчас інцыдэнту фотакарэспандэнта Associated Press Сяргея Грыца ўдарылі па галаве, разбілі акуляры і рассеклі да крыві твар. Пад затрыманне трапілі таксама: незалежны тэлеаператар Аляксандр Баразенка, фатографы Reuters Васіль Фядосенка, EPA (Еўрапейскае прэс-фотаагенцтва) Таццяна Зяньковіч, карэспандэнт БелаПАН Павел Падабед, а таксама здымачная група нямецкага тэлеканала ZDF - аператар Зміцер Рудакоў і прадзюсар Аляксей Акулаў.

Журналістаў груба запіхалі ў мікрааўтобус і адвезлі ў Фрунзенскае РУУС. Спачатку каля 20 хвілін трымалі ў актавай зале, потым развялі па кабінетах, дзе журналісты сядзелі ў чаканні рашэння. Ім патлумачылі, што затрымалі для "высвятлення асобаў" на акцыі, якую супрацоўнікі міліцыі "палічылі несанкцыянаванай". Адпусцілі прыкладна праз 2 гадзіны. У РУУС Сяргею Грыцу з фотаапарата выдалілі ўсе здымкі з акцыі.

19 верасня фотакарэспандэнт Associated Press наведаў Фрунзенскае РУУС і напісаў заяву пра нанясенне яму траўмы.

7 кастрычніка фотакарэспандэнт Associated Press Сяргей Грыц атрымаў афіцыйны адказ з Упраўлення унутраных спраў Фрунзенскага раёна г. Мінска на скаргу пра нанясенне яму траўмы падчас выканання прафесійных абавязкаў і выдалення здымкаў з фотакамеры супрацоўнікамі міліцыі. Журналіст патрабаваў прыцягнуць вінаватых да крымінальнай адказнасці (п. 2 ч. 1 арт. 174 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ і арт. 198 КК РБ).

У адказ РУУС паведамляе, што не знайшло ў дзеяннях сваіх супрацоўнікаў складу злачынства.

Пастанову пра адмову ўзбуджэння крымінальнай справы (датаваная 28 верасня) падпісалі намеснік начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі Фрунзенскага РУУС Андрэй Чумік і намеснік начальніка УУС адміністрацыі Фрунзенскага раёна г. Мінска Руслан Васкрасенскі. Міліцэйскія чыноўнікі таксама заяўляюць, што "не ўдалося высветліць абставіны выдалення матэрыялаў" з камеры журналіста.

## Затрыманні журналістаў, судовы адміністрацыйны пераслед

**5 студзеня** Бешанковіцкі раённы суд (суддзя Вольга Белавус) аштрафаваў заснавальніка і выдаўца маланакладнай мясцовай газеты "Крывінка" Георгія Станкевіча на 40 базавых велічынь (1 мільён 400 тысяч рублёў) за незаконны распаўсюд перыядычнага выдання без выходных дадзеных.

Нагадаем, рэдактара «Крывінкі» затрымалі 5 лістапада 2011 года, калі ён развозіў газету жыхарам райцэнтра. Падставай сталі скаргі ад дзвюх мясцовых жыхарак (чыноўніц), якія заявілі, што не выпісваюць «Крывінку», але знайшлі яе ў сваіх паштовых скрынях.

Сп. Станкевіч адмовіўся ад удзелу ў судовым працэсе і пакінуў будынак суда на знак пратэсту. Перад гэтым суддзя не задаволіла ягонае хадайніцтва пра прысутнасць адваката на працэсе.

“Пра суд я ўвогуле даведаўся выпадкова: працэс быў прызначаны на 4 студзеня, але я захварэў — пашкодзіў вока. Паведаміў пра гэта ў суд, і 5 студзеня прынёс туды бюлетэнь, каб не думалі, што я хаваюся ад пакарання. Але суддзя Белавус заявіла, што будзе судзіць мяне ў любым выпадку — бо сыходзяць 2 месяцы з часу зафіксаванага ў пратаколе правапарушэння, і тады справу трэба спыняць”, - распавёў некаторыя падрабязнасці Георгій Станкевіч.

**8 лютага** стала вядома, што Віцебскі абласны суд (суддзя Ірына Смалякова) не задаволіў скаргу Георгія Станкевіча, які хацеў абскардзіць прысуд Бешанковіцкага раённага суда за парушэнне парадку распаўсюду выдання. Георгій Станкевіч звярнуў увагу суддзі абласнога суда на парушэнні яго правоў падчас разгляду адміністратыўнай справы ў Бешанковічах - у прыватнасці, яму адмовілі ў праве на абарону. Але абласны суд не палічыў гэтыя парушэнні падставай для перагляду справы.

**6 студзеня** ў судзе Першамайскага раёна г. Мінска была затрыманая незалежная тэлежурналістка Таццяна Бублікава. Інцыдэнт адбыўся падчас судовага пасяджэння па зыску жыхара Гомеля Аляксандра Працко да Белтэлерадыёкампаніі, на якім яна прысутнічала.

“Мяне абурыў увесь ход працэсу, і, урэшце, я выказала абурэнне ўголас і выйшла з залы”, - расказала Т. Бублікава. Адразу за ёй выйшла сакратарка і паведаміла журналістцы, што суддзя вырашыла пакараць яе за непавагу да суда.

Па просьбе аховы на Бублікаву склалі рапарт, пасля чаго адвезлі яе ў Першамайскае РУУС. Прыкладна праз 3 гадзіны міліцыянты адпусцілі журналістку, паабяцаўшы даслаць ёй павестку ў суд.

**8 студзеня** ў Мінску затрымалі незалежнага тэлеаператара Алеся Баразенку, калі ён здымаў на відэа акцыю салідарнасці з палітзняволенымі каля будынка КДБ. Спачатку журналіста завялі ў памяшканне КДБ, прыкладна праз гадзіну даставілі ў Цэнтральнае РУУС, а праз 3 гадзіны яго накіравалі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна.

**9 студзеня** суд Цэнтральнага раёна Мінска (суддзя Іван Майсейчык) асудзіў Алеся Баразенку на 11 сутак адміністратыўнага арышту за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі (арт. 23.34 КаАП). Пасля абвяшчэння прысуду журналіст абвясціў галадоўку.

**11 студзеня**, у першай палове дня, да арыштаванага Баразенкі не пусцілі адваката, які прыйшоў, каб скласці касацыйную скаргу і даведацца пра справы і стан здароўя журналіста. У спатканні адмовілі нібыта з-за недахопу вольных памяшканняў для сустрэчы. Трапіць у Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў да свайго падабароннага адвакату ўдалося ў той дзень толькі з другой спробы. У размове з адвакатам А. Баразенка паведаміў, што спыняць галадоўку пакуль не збіраецца.

**12 студзеня** адвакат падаў у Мінскі гарадскі суд скаргу на рашэнне суда Цэнтральнага раёна, які прызнаў Алеся Баразенку вінаватым у парушэнні арт. 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаванай акцыі) і пакараў 11-ю суткамі адміністратыўнага арышту. Мінскі гарадскі суд скаргу не задаволіў.

**12 студзеня** ў Гомелі на вуліцы Карповіча спецназаўцы затрымалі старшыню абласной арганізацыі Аб’яднанай грамадзянскай партыі Васіля Палякова і сябра партыі Уладзіміра Няпомнюшчых. Інцыдэнт адбыўся, калі грамадскія актывісты раздавалі мінакам партыйны інфармацыйны бюлетэнь “Голос разума”. У Цэнтральным РАУС

Гомеля на затрыманых склалі пратакол за парушэнне заканадаўства аб СМІ (арт. 22.9 КаАП).

У бюлетэні, што распаўсюджвалі актывісты, былі надрукаваныя віншаванні з Новым годам і Калядамі, звароты кіраўнікоў партыі, інфармацыя пра эканамічную сітуацыю ў Беларусі. Былі пазначаны таксама выходныя звесткі.

**14 лютага** ў Рагачове грамадскага актывіста Дзяніса Дашкевіча пад прымусам даставілі ў мясцовы райаддзел міліцыі, дзе ўручылі позву на гэты ж дзень з'явіцца ў якасці сведкі. Паводле Дашкевіча, выклік звязаны з дзейнасцю сайта незалежных навінаў vrogacheve.ru. Праваахоўнікі заявілі, што супраць Дашкевіча ёсць 4 заявы – а яны толькі яшчэ выбіраюць, па якім артыкуле заводзіць справу: за паклёп на прадстаўніка ўлады ці за тое, што Дашкевіч нібыта "крадзе" інфармацыю ў мясцовай дзяржаўнай газеты.

**11 сакавіка** міліцыя склала адміністратыўны пратакол у дачыненні да Дзяніса Дашкевіча паводле артыкула 9.21 КаАП. Яго вінавацілі ў парушэнні аўтарскіх, сумежных і патэнтных правоў. Заяву ў пракуратуру напісаў рэдактар дзяржаўнай раённай газеты "Свабоднае слова" Андрэй Шышкін, які незадаволены тым, што на незалежным навінавым сайце vrogacheve.ru без дазволу рэдакцыі надрукавана 9 матэрыялаў з газеты, а таксама фотаздымак старшыні райвыканкама В. Банчука.

**17 красавіка** Рагачоўскі раённы суд (суддзя Ірына Малашкевіч) распачаў разгляд адміністратыўнай справы ў дачыненні Дзяніса Дашкевіча. Дашкевіч прэтэнзій не прызнаў і патлумачыў суду, што не з'яўляецца ні адміністратарам, ні заснавальнікам згаданага сайта. Не змаглі прывесці канкрэтных доказаў гэтага і самі зыскоўцы – рэдактар А. Шышкін і ўчастковы інспектар, лейтэнант міліцыі Алег Лукашэвіч, які складаў адміністратыўны пратакол і па даверанасці прадстаўляў у судзе Рагачоўскі раённы аддзел унутраных спраў.

**12 кастрычніка** ў Рагачове раённы суд пакараў Дзяніса Дашкевіча 3-мільённым адміністратыўным штрафам за парушэнне аўтарскіх, сумежных і патэнтных правоў (арт. 9.21 КаАП). Рашэнне прыняла суддзя Ірына Малашкевіч.

Гэта было трэцяе паседжанне па справе, ініцыяванай рэдактар афіцыйнай газеты Андрэем Шышкіным. На папярэдніх двух суддзя Малашкевіч накіроўвала адміністратыўны пратакол у міліцыю на дапрацоўку. Пасля дапрацоўкі пратакола колькасць "спрэчных" артыкулаў значна зменьшылася. "Гэтым разам падчас агалошвання пастановы суддзя нават не назвала ні артыкула, ні парушэння, якое я ўчыніў. Проста прызнала мяне вінаватым і пакарала штрафам", – распавёў Дзяніс Дашкевіч. Ніякіх доказаў, што Дашкевіч з'яўляецца адміністратарам сайта vrogacheve.ru у судзе не прагучала.

**15 лютага** ў Барысаве супрацоўнікі міліцыі затрымалі карэспандэнта "Радыё Рацыя" Аляксандра Ярашэвіча падчас выкананне ім прафесійных абавязкаў. Інцыдэнт адбыўся, калі журналіст рыхтаваў рэпартаж пра пратэст рабочых на Барысаўскім заводзе аўтатрактарнага электраабсталявання (ААТ "БАТЭ"). Падчас затрымання ён паказаў міліцыянтам журналісцкае пасведчанне, але ім гэтага было недастаткова. Пашпарта ў Ярашэвіча з сабой не было, таму яго адвезлі ў мясцовы РАУС "для высвятлення асобы". Там праверылі пасведчанне, некуды тэлефанавалі, пратрымалі каля 2,5 гадзін, пасля чаго адпусцілі.

**21 лютага** супрацоўнікі міліцыі прымусілі траіх журналістаў недзяржаўных СМІ пакінуць вёску Нязнанава Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці, дзе па непацверджанай афіцыйна інфармацыі была выяўленая афрыканская чума свіней. Карэспандэнт інтэрнэт-газеты "Салідарнасць" Сяргей Балай і карэспандэнты газеты "Обозреватель" Аляксей Мацюшкоў і Дзмітрый Корсак спрабавалі высветліць

прычыны прымусовага знішчэння ўсяго пагалоўя свіней у гэтым населеным пункце. Але ў хуткім часе пасля іх прыезду ў вёску, там з'явіліся супрацоўнікі Навагрудскага РАУС. Два міліцыянты ў чыне падпалкоўнікаў заявілі, што на тэрыторыі, дзе праводзяцца "ветэрынарныя вучэнні", журналістам знаходзіцца нельга. У выпадку непадпарадкавання ім прыгразілі даставіць у пастарунак "для высвятлення абставін". Таксама міліцыянты ў катэгарычнай форме запатрабавалі выдаліць усе фотаздымкі, на якіх прысутнічалі.

**21 лютага** ў Віцебску на ўездзе ў горад супрацоўнікі ДАІ затрымалі журналіста Паўла Сітніка. Ён быў за рулём аўтамабіля, у якім знаходзіліся таксама сябры "Маладога фронту" (зарэгістраванай у Чэхіі арганізацыі) - яны скіроўваліся на судовы працэс віцебскага грамадскага актывіста Сяргея Каваленкі. Усіх затрымалі і даставілі ў РАУС Віцебскага раёна, дзе склалі пратаколы за дробнае хуліганства – нецэнзурную лаянку (арт. 17.1 КаАП).

**22 лютага** Віцебскі раённы суд (суддзя Таццяна Ліпская), заслухаўшы паказанні сведкаў - міліцыянтаў, пакараў Паўла Сітніка штрафам у памеры 3 базавых велічынь.

**23 лютага** ў Гомелі незнаёмец у цывільным перашкаджаў незалежнай тэлежурналістцы, сябру БАЖ Ларысе Шчыраковай здымаць акцыю раздачы віншавальных улётак "Хопіць піць - час сям'ю карміць і краіну бараніць" кааліцыяй "Наша альтэрнатыва". Калі спецназаўцы сталі затрымліваць актывістаў, мужчына ў цывільнай вопратцы настойліва засланяў сабой аб'ектыў камеры Шчыраковай.

**12 сакавіка** ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі здымачную групу Шведскага тэлебачання SVT - аператара Свэна Бергмана, карэспандэнта Олафа Крыстаферсана і прадзюсара Ізабэль Сомерфельд. Інцыдэнт адбыўся на плошчы Незалежнасці, дзе замежныя журналісты планавалі запісаць інтэрв'ю з удзельнікам "маўклівых" акцый пратэсту Раманам Пратасевічам. Разам з тэлевізійшчыкамі былі затрыманыя карэспандэнт радыёстанцыі "Русская служба новостей" у Беларусі Уладзімір Чудзянцоў і сябра ГА "БАЖ" Ілля Кузняцоў, якія суправаджалі здымачную групу. Затрыманых адвезлі ў Маскоўскае РУУС "для праверкі дакументаў". У пастарунку ў журналістаў перапісалі ўсе дадзеныя і скапіявалі адзняты імі відэаматэрыял. Адпусцілі прыкладна праз 3 гадзіны пасля затрымання.

**24 сакавіка** ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі карэспандэнта "Радыё Рацыя" Аляксандра Ярашэвіча, які па заданні рэдакцыі прысутнічаў на канцэрце міжнароднага руху "Ежа замест бомб", арганізаваным у Палацы культуры Мінскага трактарнага завода.

Каля 19-й у залу ўварваліся байцы спецназу, амаль 100 чалавек былі затрыманыя і дастаўленыя ў міліцыю для пісьмовых тлумачэнняў. Афіцыйная прычына затрыманняў - праверка на ўжыванне і распаўсюд наркатычных сродкаў. У РУУС Цэнтральнага раёна на Аляксандра Ярашэвіча склалі адміністратыўны пратакол "за нецэнзурную лаянку".

**26 сакавіка** суд Цэнтральнага раёна Мінска аштрафаваў журналіста "Радыё Рацыя" Аляксандра Ярашэвіча на тры базавыя велічыні паводле арт. 17.1 КаАП. Суддзя Валянціна Свістунова прызнала журналіста вінаватым на падставе сведчанняў міліцыянтаў. Да суда Ярашэвіча амаль тры дні трымалі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна.

**18 красавіка** Мінскі гарадскі суд (суддзя Людміла Шапашнікава) не задаволіў скаргі журналіста "Радыё Рацыя" Аляксандра Ярашэвіча на рашэнне раённай судовай інстанцыі і пакінуў абвінавачанне ў хуліганстве ў сіле.

Між тым, на момант прыняцця рашэння Мінскім гарадскім судом Следчы камітэт і Мінская гарадская пракуратура праводзілі праверку па факце незаконных дзеянняў супрацоўнікаў праваахоўных органаў, якія затрымалі на канцэрце "Ежа замест бомб" больш за сто чалавек.

**24 ліпеня** стала вядома, што Следчы камітэт адмовіўся заводзіць крымінальную справу супраць міліцыянтаў, якія перашкаджалі прафесійнай дзейнасці журналіста "Радыё Рацыя" Аляксандра Ярашэвіча і затрымлівалі яго. Пра гэта паведамляецца ў афіцыйным адказе кіраўніцтва Следчага камітэта. У лісце заяўляецца, што па выніках праверкі ўстаноўлена, што ў ходзе затрымання супрацоўнікі міліцыі ніякіх супрацьпраўных дзеянняў не здзяйснялі. Журналіст лічыць адмову незаконнай.

**28 сакавіка** ўначы ў Оршы з цягніка Мінск — Масква супрацоўнікі мытні ссадзілі разам з іншымі палітыкамі журналіста Аляксандра Атрошчанкава, прэс-сакратара грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь". Палітыкі праз Маскву накіроўваліся ў Брусель для сустрэчы з прадстаўнікамі Еўракамісіі. Мытнікі заявілі, што яны падазраюцца ў транспартыроўцы наркатычных сродкаў. Амаль суткі да суда затрыманыя правялі ў ізалятары часовага ўтрымання ў Оршы.

**29 сакавіка** ўвечары суддзя Аршанскага гарадскога суда Наталля Байцова абвінавацiла Аляксандра Атрошчанкава ў хуліганстве і аштрафавала на 10 базавых велічынь (350 тысяч рублёў).

**18 красавіка** Віцебскі абласны суд (суддзя Святлана Іванова), разгледзеўшы скаргу, пакінуў без змены судовую пастанову ў дачыненні да А. Атрошчанкава.

**25 красавіка** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі спрабавалі перашкодзіць сустрэчы расійскіх журналістаў з маці расстралянага па справе выбуху ў мінскім метро Уладзіслава Кавалёва. Любові Кавалёвай прапанавалі даць відэаінтэрвью для праграмы "Чалавек і закон".

Сустрэча была запланаваная ў яе кватэры, але міліцыянты пільнавалі журналістаў каля пад'езда дома. Як толькі здымачная група выйшла з таксі, ім перагарадзілі шлях супрацоўнікі міліцыі. Любоў Кавалёва ўбачыла гэта з вакна і пайшла "вызваляць" здымачную групу. Журналістаў, урэшце, прапусцілі, але перапісалі звесткі з іх дакументаў.

**30 красавіка** ў Мінску затрымалі незалежных тэлежурналістаў Вікторыю Колчыну і Сяргея Краўчука. Яны прысутнічалі на паказе дакументальнага фільма «Апошні дыктатар Еўропы», арганізаваным прадстаўнікамі «Свабоднага тэатра». Праз 5 хвілін пасля пачатку ў памяшканне ўварваліся байцы спецназу міліцыі. Усіх 20 гледачоў паставілі тварам да сцяны, а потым адвезлі ў РУУС Савецкага раёна. Там затрыманых апыталі, сфатаграфавалі і ўзялі ў іх адбіткі пальцаў. Адпусцілі прыкладна праз 3 гадзіны.

Падчас затрымання ў Сяргея Краўчука выбілі з рук камеру, ад чаго на ёй засталіся пашкоджанні. Пасля вызвалення і вяртання тэхнікі ён заўважыў знікненне карты памяці. Вікторыя Колчына пасля вызвалення не змагла ўключыць уласны камп'ютар – ён аказаўся заблакаваны.

**12 траўня** супрацоўнікі мытні аэрапорта "Мінск-2" правялі 4-гадзінны дагляд дацкаму журналісту Йенсу Нільсану. Пасля дагляду ў яго адабралі электронныя носьбіты інфармацыі, ноўтбук, матэрыялы для публікацыі пра прафсаюзы Беларусі, а таксама кнігу Роя Мядзведзева "Аляксандр Лукашэнка. Контуры беларускай мадэлі". На якой падставе адабралі рэчы, Йенсу Нільсану не патлумачылі.

Пакуль журналіста даглядалі, яго самалёт паляцеў. Але вылет іншым рэйсам Йенсу Нільсану не прапанавалі, і ён быў вымушаны тэрмінова дабірацца да Вільнюса цягніком, каб не парушыць візавы рэжым.

**23 траўня** раніцай у Мінску былі затрыманыя незалежныя тэлежурналісты Алесь Любянчук і Любоў Лебедзева. Гэта адбылося ў момант, калі журналісты бралі інтэрв'ю ў прадстаўніка грамадскага аб'яднання «Платформа» Андрэя Бандарэнкі. Затрыманых адвезлі ў Кастрычніцкае РУУС, дзе ўзялі ў іх тлумачэнні, пасля чаго адпусцілі, паабяцаўшы, што гісторыя будзе мець працяг. Асобы затрыманых і род іх заняткаў былі міліцыянтам загадзя вядомыя, - кажуць журналісты.

“Затрымлівалі 6 чалавек, прычым 5 з іх былі ў цывільнай вопратцы. Журналістаў завялі ў машыну, я спрабаваў пагутарыць з міліцыянтамі, яны адмаўляліся назваць сябе”, - распавёў Андрэй Бандарэнка, які стаў відавочцам затрымання.

**25 траўня** ўвечары на беларуска-літоўскай мяжы ў пункце пропуску “Гудагай” была затрыманая рэдактарка прафсаюзнага сайта praca-by.info Наталля Верашчагіна. Яе знялі з цягніка разам з лідэрамі прафсаюза РЭП, калі яны вярталіся з Вільнюса пасля сустрэчы з літоўскімі прафсаюзамі. Журналістку адвялі на асабісты  дагляд: спачатку праверылі змесціва яе сумкі, потым прымусілі распранууцца да бялізны. У выніку амаль 3-гадзіннай працэдуры дагляду забралі грошы, ноўтбук і флэш-картку. Іх паабяцалі вярнуць цягам месяца, пасля “праверкі”.

**26 траўня** ўвечары на беларуска-літоўскай мяжы ў пункце пропуску “Гудагай” з цягніка Вільнюс — Мінск знялі намесніцу галоўнага рэдактара “Народнай волі” Марыну Коктыш. На мытным кантролі яе даглядзелі і абшукалі. Прычыну такіх дзеянняў ёй ніхто не патлумачыў. Ніякіх носьбітаў інфармацыі журналістка з сабой не брала, таму вымаць у яе не было чаго. Дамоў Марына Коктыш дабіралася на наступным цягніку. Квіток давялося купляць за свае грошы, — распавяла яна пазней.

**31 траўня** ў Светлагорскім раёне (Гомельская вобласць) затрымалі журналістаў: Сяргея Балая (інтэрнэт-газета "Салідарнасць"), Іну Студзінскую (Радыё “Свабода”), а таксама незалежных тэлежурналістаў Аліну Радачынскую і Алеся Баразенку. Яны вярталіся з асвятлення сходу жыхароў вёскі Якімава Слабада, якія пратэставалі супраць будаўніцтва побач з вёскай завода беленай цэлюлёзы. Разам з журналістамі былі таксама затрыманыя сябры БАЖ Сяргей Вазняк, Аляксандр Уліцёнак і актывісты кампаніі “Гавары праўду” Ганна Курыловіч і Міхаіл Пашкевіч.

Аўтамабіль, у якім яны ехалі, спынілі на выездзе з вёскі супрацоўнікі ДАІ і заявілі, што кіроўца машыны нібыта парушыў правілы дарожнага руху. Усіх даставілі ў Светлагорскі РАУС для дачы тлумачэнняў, дзе пратрымалі каля 2 гадзін.

У Сяргея Балая міліцыянты адабралі флэш-карту фотакамеры. Маўляў, здымкі будуць выкарыстаныя як доказ супраць удзельнікаў несанкцыянаванага мерапрыемства ў вёсцы. Сяргея Вазняка прымусілі прайсці тэст на ўжыванне алкаголю.

**1 чэрвеня** ў Мінску затрымалі незалежных тэлежурналістак Таццяну Белашову і Вольгу Чайчыц. Інцыдэнт адбыўся ў парку імя Горкага падчас асвятлення імі Міжнароднага дня абароны дзяцей. Журналістак адвезлі ў Партызанскае РУУС. Спачатку пісьмовыя тлумачэнні ў іх узяў інспектар па справах непаўнагадовых Андрэй Дыяновіч. Пасля “паразмаўляць” з журналісткамі прыехалі супрацоўнікі КДБ. Паколькі яны не захацелі назваць сябе, Вольга Чайчыц адмовілася адказваць на іх пытанні, праз нейкі час яе адпусцілі. Пазней з РУУС выйшла і Таццяна Белашова.

Нагадаем, напрыканцы сакавіка сябра БАЖ Вольга Чайчыц атрымала пісьмовае папярэджанне пракуратуры г. Мінска аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства

аб СМІ — за супрацоўніцтва са спадарожнікавым тэлеканалам “Белсат” без афіцыйнай акрэдытацыі.

**1 чэрвеня** раніцай у Гродне супрацоўнікі міліцыі затрымалі журналістаў, сябраў БАЖ Яна Романа, Андрэя Пачобута, Юлію Каляду, Гражыну Шалкевіч. Журналісты збіраліся асвятляць пікет незарэгістраванага "Саюза палякаў на Беларусі" супраць увядзення рускамоўных класаў у польскай школе №36.

Яна Романа затрымалі каля дома, як толькі ён выйшаў з пад'езда. Журналіста завезлі спачатку ў РАУС Ленінскага раёна Гродна, а пасля ў аддзяленне крымінальнай міліцыі. Каб "з карысцю" правесці вызначаныя законам на затрыманне 3 гадзіны, журналісту прапанавалі пачытаць юбілейнае выданне кнігі "Гісторыя крымінальнай міліцыі".

Андрэя Пачобута выклікалі ў міліцыю з раніцы яшчэ да пачатку акцыі як аднаго з патэнцыйных удзельнікаў. Міліцыянты папярэдзілі Пачобута пра недапушчальнасць парушэння заканадаўства, пратрымалі 3 гадзіны і адпусцілі каля 13.30.

Падчас акцыі разам з удзельнікамі пікета была затрыманая карэспандэнтка газеты “Glos znad Niemna” ("Глосу з-над Нёмна") Гражына Шалкевіч. На яе склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і адпусцілі. Юлію Каляду затрымалі перад аблвыканкамам, дзе была прызначана акцыя. Яе даставілі ў Ленінскі РАУС, дзе праверылі дакументы і таксама склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні.

Каля пад'ездаў дамоў, дзе жывуць журналісты Андрэй Фралоў і Алесь Дзянісаў, цягам некалькіх гадзін дзяжурылі супрацоўнікі міліцыі.

**6 чэрвеня** суд Ленінскага раёна Гродна (суддзя Наталля Козел) прызнаў журналістак, сябраў БАЖ Гражыну Шалкевіч і Юлію Каляду вінаватымі ў парушэнні артыкула 23.34 Адміністратыўнага кодэкса ("Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў") і пакараў штрафамі. Журналістак, якія 1 чэрвеня асвятлялі пікет незарэгістраванага Саюза палякаў на Беларусі супраць рускамоўных класаў у польскай школе і былі затрыманыя міліцыяй, абвінавацілі ва ўдзеле ў акцыі.

Рэдактарку газеты “Glos znad Niemna” Гражыну Шалкевіч абавязалі сплаціць дзяржаве 5 мільёнаў рублёў штрафу. У судзе яна даказвала, што пад час пікету выконвала прафесійныя абавязкі. Таксама паказвала пасведчанне сябры ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў". На відэа, якое праглядзелі ў якасці доказу віны Шалкевіч, былі толькі кадры, дзе Гражына стаіць з фотаапаратам. На ўсё гэта суддзя Наталя Козел не звярнула ўвагі. Супраць журналісткі сведчылі 4 міліцыянты, якія затрымлівалі яе падчас пікету.

Юлію Каляду пакаралі штрафам у памеры 2,5 мільёнаў рублёў. Супраць яе таксама сведчылі міліцыянты, якія даказвалі, што Юлія выкрыквала лозунгі разам з іншымі ўдзельнікамі акцыі.

**6 чэрвеня** ў судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска разглядалася адміністратыўная справа грамадскага распаўсюдніка газеты «Витебский курьер» Сяргея Кандакова, у якога міліцыянты пасля затрымання адабралі 18 асобнікаў газеты. Суддзя Інна Грабоўская прызнала дабравольнага валанцёра грамадзянскай кампаніі “Наш Дом” вінаватым у парушэнні арт. 22.9 ч. 2 КаАП (незаконны распаўсюд друкаваных СМІ) і аштрафавала яго на 20 базавых велічынь (2 млн. рублёў).

Нагадаем, гэта не першае падобнае пакаранне ў дачыненні віцебскіх валанцёраў. Раней суддзя Грабоўская аштрафавала на 2 млн. рублёў распаўсюдніцу Ганну Гадлеўскую.

**15 чэрвеня** ў г. Ліда былі затрыманыя карэспандэнты недзяржаўных СМІ: фатограф інфармагенцтва БелаПАН Аляксандр Саенка і незалежныя тэлежурналісты Мікалай Дзятчэня і Андрэй Фралоў. Журналістам не дазволілі зрабіць матэрыялы з цырымоніі развітання з загінуўшым лётчыкам Мікалаем Грыднёвым.

Праз 1,5 гадзіны працы на авіяцыйнай базе да журналістаў падышлі вайскоўцы часткі і пацікавіліся, хто яны і ці маюць дазвол рабіць фота і відэаздымкі. Спраўдзіўшы пасведчанне фатографа, адзін з вайскоўцаў загадаў Аляксандру Саенку выдаліць з фотаапарата ўсе кадры пахавальных урачыстасцяў. Затым вайсковец узяў у рукі фотаапарат сам, што ён націскаў, фатограф не бачыў. З відэакамерай Міколы Дзятчэні і Андрэя Фралова было зроблена тое самае. Журналістаў забралі ў аддзяленне міліцыі, дзе пратрымалі больш за 2 гадзіны і адпусцілі без складання пратаколу.

**22 чэрвеня** ў Мінску каля 10-й раніцы невядомыя ў цывільным затрымалі карэспандэнта “Еўрапейскага радыё для Беларусі”, сябра БАЖ Паўла Свярдлова каля пад’езда яго дома. Пяцёра мужчын высочвалі яго, пад’ехаўшы загадзя на мікрааўтобусе. Журналіста даставілі ў раённае аддзяленне міліцыі, дзе склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні. Патэлефанаваць сваякам і на працу, а таксама напісаць у пратаколе сваю версію таго, што адбылося, міліцыянты не дазволілі. У той жа дзень суд Маскоўскага раёна Мінска (суддзя Таццяна Матыль) пакараў журналіста 15 суткамі арышту, прызнаўшы вінаватым у дробным хуліганстве – нецэнзурнай лаянцы (арт. 17.1 КаАП). У судзе сведчылі два міліцыянты, якія блыталіся ў паказаннях – паводле іх слоў, Павел Свярдлоў лаяўся адначасова на дзвюх розных вуліцах. Сам журналіст сваю віну катэгарычна адмаўляў. Затрыманне і разгляд справы адбыліся з такой хуткасцю, што адвакат не паспела даехаць да суда. Адбываць прысуд Свярдлоў быў накіраваны ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна.

**6 ліпеня** Мінскі гарадскі суд пакінуў рашэнне па справе журналіста без зменаў.

*Вярхоўны суд рашэннем ад **14 студзеня** 2013 года (намеснік старшыні ВС Валерый Калінковіч) таксама не задаволіў скаргі Паўла Свярдлова на папярэднія судовыя рашэнні.*

**22 чэрвеня** - у другой палове дня - журналісты "Еўрапейскага радыё для Беларусі" заўважылі некалькі машын, якія дзяжурылі пад вокнамі іх офіса на вул. Карла Маркса ў Мінску. Каля аўтамабіляў хадзілі невядомыя людзі ў цывільным з "характэрнымі" навушнікамі. Яны падыходзілі на вахцёра будынка і паказвалі яму фотаздымкі супрацоўніка радыёстанцыі Віталя Ругайна. Машыны дзяжурылі да вечара.

Каля 20.30 група журналістаў "Еўрарадыё" і іх калег з іншых СМІ выйшла з офіснага памяшкання і скіравалася па праспекце Незалежнасці ў бок Кастрычніцкай плошчы. Журналістаў суправаджалі людзі ў цывільным. "Гулянні" пад наглядам па цэнтры горада працягваліся больш за гадзіну. Пасля гэтага журналісты вырашылі разысціся. Па стане на 21.45 звестак пра затрыманні не было.

«Еўрарадыё» не выключае, што ўсе гэтыя падзеі звязаныя з нядаўнім рэпартажам пра дрэнныя захады бяспекі ў мінскім метро. У часе падрыхтоўкі якога журналісты прайшліся па падземцы з цяжкай валізкай без увагі з боку міліцыі.

**29 чэрвеня** ў Мінскім гарадскім судзе мусіў адбыцца разгляд касацыйнай скаргі па адміністратыўнай справе журналіста “Еўрапейскага радыё для Беларусі” Паўла Свярдлова, асуджанага на 15 сутак арышту. Але перад пачаткам паседжання суддзя Валерый Камісараў заявіў, што разгляду не будзе, паколькі скарга самога журналіста ў суд не дайшла, а скаргу адваката суд вырашыў асобна не разглядаць. Між тым **25 чэрвеня** Павел Свярдлоў, у адпаведнасці з правіламі, перадаў скаргу адміністрацыі Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна, дзе адбываў пакаранне. Адтуль яе мусілі перадаць з кур'ерам у гарадское ўпраўленне міліцыі, а потым — у суд.

Нагадаем, раніцай **22 чэрвеня** журналіста затрымалі каля пад’езда яго дома невядомыя ў цывільным. У той жа дзень суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Таццяна Матыль асудзіла П. Свярдлова на 15 сутак арышту, прызнаўшы вінаватым у дробным хуліганстве – нецэнзурнай лаянцы (арт. 17.1 КаАП).

Тым часам калегі Свярдлова правялі ўласнае расследаванне і знайшлі сведак, якія сядзелі ля пад’езда ў момант затрымання. Паводле сведак, як толькі Павел выйшаў з дома, да яго адразу падышлі трое мужчын, паказалі пасведчанне і павялі журналіста ў свой аўтамабіль. Павел паслухмяна сеў у машыну, і яны паехалі. Сведкі кажуць, што ніякай нецэнзурнай лаянкі не было.

**29 чэрвеня** ў Мінску каля будынку гарадскога суда, дзе павінна была разглядацца скарга па адміністратыўнай справе журналіста “Еўрарадыё” Паўла Свярдлова, супрацоўнікі міліцыі затрымалі двух незалежных тэлежурналістаў — Юлію Цяльпук і Аляксандра Баразенку. Інцыдэнт адбыўся, калі яны бралі каментары ў прысутных. У журналістаў перапісалі пашпартныя дадзеныя, пасля чаго адпусцілі.

**6 ліпеня** Мінскі гарадскі суд разгледзеў касацыйную скаргу па адміністратыўнай справе журналіста “Еўрапейскага радыё для Беларусі” Паўла Свярдлова і пакінуў без зменаў пастанову суда Маскоўскага раёна. Такім чынам, журналіст, зняволены на 15 сутак арышту па абвінавачанні ў нецэнзурнай лаянцы, адбыў увесь тэрмін пакарання і выйшаў на волю **7 ліпеня**.

**4 ліпеня** ў Гродне незалежнага тэлежурналіста Міколу Дзятчэню выклікалі ў аддзяленне міліцыі па месцы жыхарства. Участковы міліцыянт уручыў журналісту копіі адміністратыўных пратаколаў, складзеных на яго і яшчэ аднаго журналіста - Андрэя Фралова - **25 чэрвеня** ў г. Ліда супрацоўнікам мясцовага аддзялення ўнутраных спраў Валерыем Трусавым.

Справа тычылася затрымання абодвух журналістаў **15 чэрвеня** ў Лідзе, падчас здымак цырымоніі пахавання пілота Мікалая Грыднёва. Тады Фралову і Дзятчэню вайскоўцы забаранілі рабіць здымкі і загадалі выдаліць з камеры ўжо адзняты матэрыял. Журналістаў пратрымалі каля 3 гадзін у аддзяленні міліцыі і адпусцілі без складання пратакола. Цяпер іх абвінавачвалі ў парушэнні п. 2.3 арт. 34 закона "Аб СМІ" - у працы без акрэдытацыі.

Намеснік старшыні ГА БАЖ” Андрэй Бастунец, каментуючы гэтыя падзеі, звяртае ўвагу, што правіла, на якое спасылаюцца ў пратаколе міліцыянты, не распаўсюджваецца на выпадкі вядзення аўдыё- і відэазапісу, кіна- і фотаздымак у месцах, адкрытых для масавага наведвання (п. 4.8. арт. 24 Закона аб СМІ). Юрыст адзначае, што ўрачыстае развітанне з загінуўшым лётчыкам праходзіла адкрыта, людзі свабодна дапускаліся на тэрыторыю воінскай часткі на гэтую цырымонію.

**24 ліпеня** раніцай на літоўска-беларускай мяжы (пераход “Гудагай”) беларускія памежнікі затрымалі на 3 гадзіны карэспандэнта мінскага карпункта “Еўрапейскага радыё для Беларусі” Віталя Ругайна. Журналіст ехаў цягніком Вільнюс – Мінск, вяртаючыся ў краіну пасля месячнай адсутнасці. У памяшканні памежнай службы ў журналіста забралі ноўтбук, склаўшы пратакол вынятку. Аднак пасля камп’ютар аддалі.

Нагадаем, пасля затрымання раніцай **22 чэрвеня** журналіста “Еўрарадыё” Паўла Свярдлова невядомыя ў цывільным чакалі каля офіса Віталя Ругайна (яны паказвалі фотаздымак журналіста вахцёру). Але Ругайну пры дапамозе калег удалося застацца на волі і з'ехаць з краіны ў Польшчу.

**25 ліпеня** ўвечары ў цэнтры Мінска Віталя Ругайна затрымала група супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным. Журналіста даставілі ў Ленінскае РУУС, дзе

склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні - нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы (арт. 17.1 КаАП) - і адвезлі чакаць суда ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна.

**26 ліпеня** справа Віталя Ругайна разглядалася ў Цэнтральным раённым судзе Мінска. Паколькі сведкі-міліцыянты блыталіся ў паказаннях, суддзя Таццяна Ткачова накіравала справу на дапрацоўку, а Віталя вызвалілі ў залі суда. Слуханні праходзілі ў кабінеце суддзі. Журналістаў туды не дапусцілі, прайсці змог толькі адвакат.

Пераслед журналістаў "Еўрарадыё" ў рэдакцыі лічаць помстай за выкрывальны рэпартаж пра неналежную ахову мінскага метро.

**2 жніўня** ў Мінску карэспандэнту недзяржаўнай газеты «Новы час» Мікіту Броўку перашкаджалі выконваць прафесійныя абавязкі. Журналіст вёў відэаздымкі каля Свята-Елісавецінскага манастыра (на ўскрайку Мінска ў раёне Навінкі) для матэрыялу пра магчымы знос 5-павярховага жылога дома і меркаванай перадачы гэтай зямлі пад царкоўныя забудовы.

Спачатку ахова манастыра спрабавала забраць у журналіста відэаапаратуру. Потым да яго падышоў міліцыянт па прозвішчы Аўчыннікаў, які назваўся ўчастковым, запатрабаваў спыніць працу і прад'явіць дакументы. Мікіта Броўка паказаў сваё журналісцкае пасведчанне і пашпарт. Праверыўшы іх, міліцыянт выказаў намер адвезці журналіста ў Цэнтральнае РУУС для далейшага разбіральніцтва. Але ўмяшальніцтва жыхароў дома прымусіла праваахоўніка адмовіцца ад гэтых планаў. Між тым, мясцовыя жыхары адмаўляюць, што гэты міліцыянт з'яўляецца іх участковым.

**8 жніўня** ўвечары ў цэнтры Мінска супрацоўнікі міліцыі затрымалі фотакарэспандэнтку «Комсомольской правды» в Белоруссии» Ірыну Козлік і фрыланс-фатографа Юлію Дарашкевіч, калі яны фатаграфаваліся з цацачным мядзведзем. У момант затрымання Юлія трымала ў руках фотаапарат, а Ірына – плюшавага мядзведзіка з парашутам і надпісам "No Picture - No Troubles?».

Журналістак адвезлі ў Савецкае РУУС, дзе склалі адміністратыўныя пратаколы за незаконнае пікетаванне (23.34 - КаАП). Ноч перад судом дзяўчаты правялі ў ізалятары для правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна.

**9 жніўня** суд Савецкага раёна Мінска (суддзя Дзмітрый Паўлючэнка) прызнаў журналістак Юлію Дарашкевіч і Ірыну Козлік вінаватымі ў несанкцыянаваным пікетаванні і пакараў кожную штрафам у 30 базавых велічыняў (3 млн. рублей). Сведкамі ў судзе традыцыйна выступалі міліцыянты: Аляксандр Сухалет, камандзір аддзялення АМАП ГУУС Мінгарвыканкама, камандзір аддзялення спецназа Шэлест і інш.

Суд прайшоў фактычна за зачыненымі дзвярыма, ахоўнікі не пусцілі ў будынак суда нікога з журналістаў, што прыйшлі асвятляць працэс.

**9 жніўня** ў Віцебску супрацоўнікі сілавых органаў у цывільным затрымалі незалежных тэлежурналістаў Вольгу Старасціну і Дзяніса Міхайлава падчас выканання імі прафесійных абавязкаў. Карэспандэнты рыхтавалі матэрыял, прысвечаны парламенцкім выбарам. Здымачную групу даставілі ў Чыгуначны РАУС Віцебска, дзе пратрымалі некалькі гадзін, правялі прафілактычную гутарку пра забарону здымкаў у цэнтры горада, пасля адпусцілі без складання пратаколаў.

"Я лічу гэта спробай запалохвання. Відавочна, што яны стараюцца перашкодзіць незалежным журналістам у асвятленні тэмы выбараў", - адзначае Вольга Старасціна.

**11 жніўня** ў г.п. Шаркаўшчына (Віцебская вобласць) міліцыянты затрымалі журналістаў незалежных медыя. Аператар Вячаслаў Пяшко і журналістка Ганна Аземша здымалі, як рэдактар недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Прэфект-інфо» (г.

Глыбокае) Зміцер Лупач распаўсюджвае сваё выданне ў грамадскім месцы, калі да іх падышоў міліцэйскі нарад. Журналістаў даставілі ў мясцовы РАУС, дзе праверылі дакументы і перапісалі асабістыя дадзеныя, пасля гэтага адпусцілі. Пратаколаў затрымання не складалі.

Змітра Лупача пратрымалі даўжэй астатніх - дапытваліся, ці зарэгістраваная газета, хто яе выдае, з якімі мэтамі і г.д. У выніку адпусцілі пры ўмове, што ён мусіць перадаць па факсе дакументальнае пацверджанне легальнасці сваёй газеты.

**17 жніўня** ў Светлагорску мясцовая міліцыя забараняла незалежнай тэлежурналістцы Ларысе Шчыраковай здымаць на камеру меркаванні жыхароў горада наконт грамадскіх слуханняў запланаванага будаўніцтва завода беленай цэлюлозы. Спачатку міліцыянты не дазволілі Шчыраковай зайсці з відэакамерай у гарадскі грамадска-культурны цэнтр, дзе праводзіліся так званыя грамадскія слуханні. Журналістка стала апытваць прысутных каля будынку цэнтра. Людзі выказвалі абурэнне, што арганізатары з райвыканкама не далі слова ніводнаму прадстаўніку грамадскасці, нават з ліку тых, хто запісаўся на выступ. У гэты час маёр міліцыі, які не называў сябе, абвінаваціў Шчыракову ў парушэнні грамадскага парадку і запатрабаваў “прайсці ў міліцыю”. За журналістку заступіліся гараджане і калегі.

**24 жніўня** міліцэйскім нарадам у Жодзіне за фатаграфаванне на вуліцы, у якое трапілі міліцыянты, прыкладна на паўгадзіны быў затрыманы праваабаронца Аляксей Лапіцкі. Кіраўнік нараду, супрацоўнік міліцыі А. Манько, выклікаў для разбіральніцтва машыну падтрымкі. Праваабаронцу адпусцілі пасля праверкі пашпартных дадзеных і тлумачальнай гутаркі.

**25 жніўня** раніцай ў вёсцы Ляскавічы (Петрыкаўскі раён), дзе праходзіў фестываль этнакультурных традыцый “Кліч Палесся”, была затрымана незалежная гомельская тэлежурналістка Ларыса Шчыракова. Да яе падышлі людзі ў цывільным, адзін з іх паказаў службовае пасведчанне і заявіў, што для здымкаў свята, патрэбна акрэдытацыя. Сямёра міліцыянтаў адвялі Шчыракову ў вясковы апорны пункт аховы грамадскага парадку, дзе прагледзелі знятыя матэрыялы. Яны заявілі, што на свяце будзе прысутнічаць прэзідэнт Лукашэнка, і таму прысутнасць Шчыраковай не пажаданая. Пасля міліцыянты адвезлі журналістку ў Петрыкаўскі РАУС (за 30 кіламетраў), дзе зноў праглядалі ўсе відэазапісы і ўзялі тлумачэнне. Займаўся гэтым намеснік начальніка Андрэй Буйскі. Цягнулася праверка з пераездамі больш за 3 гадзіны.

**6 верасня** Ларыса Шчыракова накіравала пракурору Петрыкаўскага раёна пісьмовую скаргу. Яна просіць разабрацца, на якой падставе парушаны яе канстытуцыйныя правы на збор і распаўсюд інфармацыі і на свабоду перамяшчэння.

**30 жніўня** ў Мінску і Віцебску супрацоўнікі сілавых органаў затрымалі і дапыталі адміністратараў інтэрнэт-суполак “Ляпіс Трубяцкой - бясплатны канцэрт у Мінску”, “Толькі ШОС!”, "Надакучыў нам гэты Лукашэнка". У гэты ж дзень невядомыя ўзламалі адну з найбуйнейшых апазіцыйных інтэрнэт-супольнасцяў у сацыяльнай сетцы “Вконтакте” “Надакучыў нам гэты Лукашэнка” з 37000 карыстальнікаў.

<u>Мінск:</u> Паўла Еўціхіева людзі ў цывільным дапыталі дома ў прысутнасці маці. Іх цікавілі дачыненне да інтэрнэтаўскай суполкі “Вконтакте” “Ляпіс Трубяцкой - бясплатны канцэрт у Мінску”, а таксама паролі ад суполкі. Хлопец адмовіўся адказваць на пытанні, і яго забралі ў Кастрычніцкае РУУС, з кватэры вынеслі яго камп’ютар. На пярэчанні маці ёй прад’явілі пасведчанне на імя капітана міліцыі Аляксандра Макарава. Ніякіх папераў пры гэтым не складалася. З міліцыі Паўла Еўціхіева адвезлі ў суд Кастрычніцкага раёна і абвінавацілі ў дробным хуліганстве. Прысуд – 5 сутак арышту.

Адміністратара інтэрнэт-групы «Толькі ШОС!» Андрэя Ткачова затрымалі ў кватэры яго сяброўкі і адвезлі на допыт. Пасля таксама асудзілі на 7 сутак арышту "за дробнае хуліганства". У кватэры дзяўчыны адбыўся ператрус – забралі камп'ютар.

Непаўнагадовага Рамана Пратасевіча супрацоўнікі КДБ затрымалі на вуліцы. Юнака заштурхалі ў мікраўтобус і адвезлі ў РУУС. "Там мяне ўжо чакаў начальнік міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Іоскін. Патрабавалі, каб я выкладваў свой лагін і пароль ад акаўнта ў сацыяльнай сетцы «Вконтакте». Крычалі, білі па нырках і печані, пагражалі, што павесяць на мяне дробныя крадзяжы. Я ім паўтараў, што нічога не ведаю. Працягвалася гэта 4 гадзіны. У рэшце адвялі ў іншы кабінет, дзе проста пакінулі аднаго на некаторы час. Потым сказалі - забірай куртку і валі», - распавёў Раман Пратасевіч.

Віцебск: быў затрыманы мадэратар інтэрнэт-суполкі "Надакучыў нам гэты Лукашэнка" Алег Шрамук. У кватэру яго сям'і ўварваліся супрацоўнікі спецназу і міліцыі. Без тлумачэння прычын яны забралі Алега, сказаўшы, што з'яўляюцца супрацоўнікамі Кастрычніцкага РАУС. Дапыталі таксама і Алесю Шрамук. Позна ўвечары стала вядома, што Шрамук з райаддзела быў дастаўлены ў Інспекцыю выканання пакаранняў на допыт. Апоўначы Алег Шрамук паведаміў, што быў на допыце ў віцебскім КДБ.

**31 жніўня** начальнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Аляксандр Антановіч паведаміў карэспандэнту Радыё «Свабода», што ў яго няма ніякай інфармацыі адносна пераследу адміністратараў апазіцыйных суполак.

**14 верасня** ў Гродне быў затрыманы галоўны рэдактар часопіса "ARCHE. Пачатак" Валер Булгакаў. Інцыдэнт адбыўся адразу пасля прэзентацыі кнігі «Саветызацыя Заходняй Беларусі» і новых выпускаў "ARCHE". У аперацыі былі задзейнічаныя міліцыянты і падатковая інспекцыя. Падаткавікі запатрабавалі ў Булгакава дакументы і пыталіся пра падставы распаўсюду ім літаратуры. Усе наяўныя выданні (194 асобнікі) апісалі і загрузілі ў аўтамабіль. Працэс вынятку здымалі на відэакамеру. Сп. Булгакава таксама затрымалі і адвезлі ў падатковую інспекцыю, адкуль адпусцілі прыкладна праз 2 гадзіны, узяўшы тлумачэнні.

**18 кастрычніка** Гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці аштрафаваў былога рэдактара культурніцкага навукова-папулярнага часопіса "ARCHE. Пачатак" Валера Булгакава на 5 базавых велічынь. Таксама канфіскаваны ўвесь прыбытак ад продажу часопіса на агульную суму 875 тысяч рублёў. У судзе прадстаўнік Кастрычніцкай падатковай інспекцыі г. Гродна патлумачыў, што Булгакаў прадаваў кнігі, але не меў рэгістрацыі прадпрымальніка і не выдаваў чэкі альбо талоны.

**17 верасня** ў Мінску супрацоўнік службы бяспекі парваў рэдакцыйнае пасведчанне журналісту недзяржаўнай афіцыйна зарэгістраванай газеты «Новы час» Мікіту Броўку. Журналіст здымаў для сайта газеты вулічнае апытанне на вул. Чырвонаармейскай непадалёк ад будынку прэзідэнцкай адміністрацыі. У гэты момант да яго падышоў невядомы чалавек у цывільным, ён назваўся супрацоўнікам службы бяспекі, але свае дакументы паказаць адмовіўся. «Ён паводзіў сябе агрэсіўна, пачаў пытацца, што мы тут здымаем, запатрабаваў пасведчанне. Пабачыўшы назву «Новы час», ён заявіў, што такога выдання не існуе, парваў пасведчанне і сышоў», - распавёў М. Броўка.

**18 верасня** ў Мінску невядомыя ў цывільным у грубай форме затрымлівалі журналістаў, якія асвятлялі перадвыбарчы пікет моладзевага крыла кампаніі "Гавары праўду". Падчас інцыдэнту фотакарэспандэнта Associated Press Сяргея Грыца ўдарылі па галаве, разбілі акуляры і рассеклі да крыві твар. Пад затрыманне трапілі таксама: незалежны тэлеаператар Аляксандр Баразенка, фатографы Reuters Васіль Фядосенка,

ЕРА (Еўрапейскае прэс-фотаагенцтва) Таццяна Зяньковіч, карэспандэнт БелаПАН Павел Падабед, а таксама здымачная група нямецкага тэлеканала ZDF - аператар Зміцер Рудакоў і прадзюсар Аляксей Акулаў.

Усіх запіхалі ў мікрааўтобус і адвезлі ў Фрунзенскае РУУС. Спачатку каля 20 хвілін трымалі ў актавай зале, потым развялі па кабінетах, дзе журналісты сядзелі ў чаканні рашэння. Ім патлумачылі, што затрымалі для “высвятлення асобаў” на акцыі, якую супрацоўнікі міліцыі “палічылі несанкцыянаванай”. Адпусцілі прыкладна праз 2 гадзіны. У РУУС Сяргею Грыцу з фотаапарата выдалілі ўсе здымкі з акцыі.

**19 верасня** фотакарэспандэнт Associated Press наведаў Фрунзенскае РУУС і напісаў заяву пра нанясенне яму траўмы.

**18 верасня** ў Мінску каля плошчы Калініна былі затрыманыя незалежныя тэлежурналісты Вячаслаў Пяшко і Валянцін Міхальцоў. Яны вялі здымкі на вуліцы, калі да іх падышлі міліцыянты. Журналістаў спачатку даставілі ў апорны пункт аховы парадку для высвятлення асобаў, прыкладна праз 3 гадзіны адвезлі ў Першамайскае РУУС. Там у Міхальцова ўзялі адбіткі пальцаў (адбіткі Пяшко ў базе ўжо былі) і сфатаграфавалі яго. Забралі відэакамеру “для праверкі”, пра што склалі пратакол вынятку. Відэазапіс таксама застаўся ў міліцыі. Адпусцілі позна ўвечары.

**21 верасня** ў аэрапорце «Мінск-2» аўстралійскага тэлежурналіста Амаса Робертса спынілі пры праходжанні мытнага кантролю, калі ён збіраўся пакінуць нашу краіну. Прадстаўнікі мытні і невядомыя людзі ў цывільным, якія прысутнічалі пры гэтым, забралі ў яго ўсю наяўную апаратуру і носьбіты інфармацыі – аж да мабільнага тэлефона (у пераліку: HD-відэакамера Panasonic HPX-170, HD-відэакамера Go-Pro Hero, лічбавая фотакамера Canon G12, ноўтбук Macbook, Apple DVD-drive, лічбавыя носьбіты інфармацыі, мабільны тэлефон (iPhone), некалькі DVD, некалькі дакументаў з архіву SBS і плюшавы мядзведзік з парашутам).

Назваць сябе людзі ў цывільным адмовіліся. Амас Робертс, у сваю чаргу, адмовіўся падпісваць акт вынятку апаратуры, паколькі не разумеў, што за дакументы ў яго патрабуюць падпісаць. У выніку яму не выдалі на рукі ніякіх дакументаў, якія б пацвярджалі, што нешта забралі. Пазней, калі ў аэрапорт прыехалі перакладчык і прадстаўнік ГА “БАЖ”, сп. Робертс пайшоў падпісваць паперы, але мытнікі ўжо адмаўлялі, што забіралі апаратуру. Увесь час за журналістамі сачылі невядомыя людзі ў цывільным.

Даведка: Амас Робертс – прадстаўнік аўстралійскага тэлеканала SBS, меў афіцыйную акрэдытацыю пры беларускім МЗС і працаваў тут на працягу тыдня. Журналіст, у прыватнасці, здымаў у Беларусі сюжэт пра шведскі "плюшавы дэсант".

**22 верасня** раніцай аўстралійскага журналіста Амаса Робертса па тэлефоне запрасілі ў КДБ на размову, але ён адмовіўся. Журналіст скіраваўся ў аэрапорт “Мінск-2” і гэтым разам бесперашкодна пакінуў нашу краіну. Беларускую сім-картку Амас Робертс набыў 21 верасня, менавіта на гэты нумар яму і патэлефанавалі з КДБ.

**23 верасня**, у дзень парламентскіх выбараў, у Мінску на ўчастку №704 (Партызанская выбарчая акруга) быў затрыманы фотакарэспандэнт «"Комсомольской правды" в Белоруссии» Зміцер Ласько. Міліцыянт (супрацоўнік крымінальнага вышуку) затрымаў журналіста пасля таго, як ён адмовіўся выдаліць зробленыя на ўчастку фотаздымкі. Змітра Ласько адпусцілі адразу, як толькі пытанне пра яго затрыманне калегі ўзнялі на прэс-канферэнцыі Цэнтральнай выбарчай камісіі, што адбывалася ў той дзень.

**23 верасня** ў Мінску затрымалі фатографа інтэрнэт-газеты "Салідарнасць" Сяргея Балая. Інцыдэнт адбыўся каля 18.40, калі журналіст рабіў фотаздымкі на пустой

Кастрычніцкай плошчы. Да яго падышлі людзі ў цывільным, спыталі, чаму ён тут здымае, а потым выклікалі патрульную машыну. Прад'яўленне рэдакцыйнага пасведчання не падзейнічала - журналіста адвезлі ў Цэнтральнае РУУС нібыта для праверкі дакументаў. Тлумачэнняў не бралі, пратакола затрымання не складалі, але ўсе фота, што былі на флэш-карце фотаапарата, выдалілі. Адпусцілі прыкладна праз 2,5 гадзіны.

**9 кастрычніка** ў Мінску была затрыманая відэаапературатар газеты "Наша Ніва" Таццяна Гаўрыльчык. Супрацоўнікі міліцэйскага спецназу схапілі журналістку, калі яна рабіла здымкі мастацкай акцыі на Кастрычніцкай плошчы. Адпусцілі прыкладна праз 3 гадзіны пасля затрымання. Ніякага пратакола ў дачыненні да журналісткі супрацоўнікі міліцыі не складалі, аднак выдалілі з апаратуры ўсе зробленыя ёй здымкі.

**1 снежня** ў Мінску затрымалі журналістаў інтэрнэт-газеты "Салідарнасць" за фатаграфаванне ў нефармальнай абстаноўцы былога міністра культуры, цяперашняга амбасадара Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі.

Інцыдэнт здарыўся ў клубе "Цэнтр", дзе ў той момант адбываўся канцэрт. Карэспандэнтка "Салідарнасці" Алена Якжык папрасіла фатографа зрабіць здымак чыноўніка, які прысутнічаў сярод гледачоў. Адразу пасля гэтага фатографа і Алену Якжык затрымалі ахоўнікі клуба. Як высветлілася, госць не хацеў, каб яго здымкі патрапілі ў СМІ. Прадстаўнік адміністрацыі клуба запатрабаваў, каб фатограф выдаліў здымкі і паабяцаў іх не публікаваць, а таксама перапісаў яго кантактныя дадзеныя. Якжык адпусцілі толькі пасля размовы з Латушкам. Журналісты знаходзіліся на мерапрыемстве паводле акрэдытацыі.

"Я сказала, што з'яўляюся журналістам, што прадстаўнікі клуба ствараюць перашкоды маёй прафесійнай дзейнасці, і што Латушка – гэта публічная асоба ў публічным месцы. У адказ прагучала нешта з серыі: "Толькі не трэба нам вось гэтых журналісцкіх штучак", "Вы наогул не маеце права тут здымаць". І гэта не лічачы завуаляваных зняваг і пагроз", – распавяла потым Алена Якжык.

**3 снежня** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі на пэўны час затрымалі рэдактара сайта "Народныя Навіны Віцебску" Сяргея Серабро, калі ён фатаграфаваў укладку асфальту непадалёк дрэваапрацоўчага камбіната. Міліцыянтаў выклікала ахова прадпрыемства. Пазней стала вядома, што камбінат рыхтуецца да візіту Аляксандра Лукашэнкі.

**24 снежня** раніцай у г. Смалявічы (Мінская вобласць) супрацоўнікі міліцыі затрымалі незалежных журналістаў, сябраў БАЖ: Сяргея Вазняка, Мікалая Петрушэнку, рэпарцёра Лолу Бурыеву, аператара Вячаслава Пяшко і кіроўцу машыны. Журналісты прыехалі з Мінска асвятляць сустрэчу дэпутата Смалявіцкага райсавета Ягора Лебядка з жыхарамі раёна. Затрыманне адбылося адразу ж пасля праверкі дакументаў на ўваходзе ў залу Дома культуры. Журналістаў даставілі ў мясцовы РАУС нібыта для праверкі асобаў, забралі пашпарты і склалі пратаколы апытання. Гутаркі вёў начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі падпалкоўнік Андрэй Мартысюк.

У Лолы Бурыевай пасля асабістага дагляду забралі ўсе носьбіты інфармацыі, у тым ліку мабільны тэлефон, нібыта для праверкі "на прадмет законнасці". На патрабаванне журналісткі прад'явіць пратакол вобшуку, міліцыянты пагражалі "пасадзіць", але журналістка ўсё ж запісала свае заўвагі ў дакумент. У выніку носьбіты інфармацыі Бурыевай аддалі. Прыкладна праз 4 гадзіны пасля затрымання адпусцілі ўсіх журналістаў. На момант, калі затрыманыя знаходзіліся ў аддзяленні міліцыі, дзяжурны РАУС у тэлефоннай гутарцы з намеснікам старшыні БАЖ Андрэем Бастунцом адмаўляў, што ў іх пастарунку знаходзяцца затрыманыя журналісты.

Журналісты абскардзілі дзеянні супрацоўнікаў міліцыі.

## Вынятак тэхнікі, пашкоджанні, канфіскацыя

**18 студзеня** журналістка недзяржаўнай газеты «Наша Ніва» Таццяна Гаўрыльчык і фотарэпарцёр-фрылансер Юлія Дарашкевіч нарэшце змаглі забраць адабраную ў іх месяц таму прафесійную тэхніку. Таццяне Гаўрыльчык міліцыянты вярнулі відэакамеру, Юліі Дарашкевіч – фотакамеру з аб'ектывам і нэтбук. З абедзвюх журналістак узялі распіскі, што яны не маюць прэтэнзій да стану тэхнікі. Паводле іх слоў, на першы погляд рэчы выглядаюць некранутымі, але з іх сцерлі ўсю інфармацыю, датычную акцыі Femen у Мінску на прыступках будынку КДБ 19 снежня 2010 года.

Нагадаем, раніцай 19 снежня Ю. Дарашкевіч і Т. Гаўрыльчык былі затрыманыя ў момант выканання прафесійных абавязкаў – калі рабілі здымкі акцыі ўкраінскай арганізацыі Femen каля будынку КДБ. Пасля затрымання журналістак даставілі ў памяшканне КДБ, потым у Цэнтральнае РУУС, дзе адабралі апаратуру і пратрымалі да вечара.

Месяц журналісткі былі пазбаўленыя магчымасці выконваць прафесійныя абавязкі, чакаючы, калі МУС скончыць праверку іх прафесійнай тэхнікі.

**30 красавіка** ў Мінску затрымалі незалежных тэлежурналістаў Вікторыю Колчыну і Сяргея Краўчука. Яны прысутнічалі на паказе дакументальнага фільма «Апошні дыктатар Еўропы», арганізаваным прадстаўнікамі «Свабоднага тэатра».

Праз 5 хвілін пасля пачатку ў памяшканне ўварваліся байцы спецназу міліцыі. Усіх 20 гледачоў паставілі тварам да сцяны, а потым адвезлі ў РУУС Савецкага раёна. Там затрыманых апыталі, сфатаграфавалі і ўзялі ў іх адбіткі пальцаў. Адпусцілі прыкладна праз 3 гадзіны.

Падчас затрымання ў Сяргея Краўчука выбілі з рук камеру, ад чаго на ёй засталіся пашкоджанні. Пасля вызвалення і вяртання тэхнікі ён заўважыў знікненне карты памяці. Вікторыя Колчына пасля вызвалення не змагла ўключыць уласны камп’ютар – ён аказаўся заблакаваны.

**2 траўня** каля 20-й гадзіны ў мінскі офіс “Радыё Рацыя” (ў раёне плошчы Перамогі) завіталі ўчастковыя міліцыянты. Паводле іх слоў, яны аглядалі ўсе памяшканні ў сувязі з рэпетыцыяй святочнага параду да 9 траўня. На той момант у офісе знаходзіўся адзін супрацоўнік, які адчыніў дзверы. Убачыўшы сімволіку радыё і апаратуру, міліцыянты выклікалі для далейшага разбіральніцтва калег з Цэнтральнага РУУС. Пасля агляду памяшкання было прынятае рашэнне забраць “на праверку” аргтэхніку: ноўтбук і сістэмны блок. Пратакол вынятку складаў старшы оперупаўнаважаны Бабкоў. Кіраваў аперацыяй намеснік начальніка Цэнтральнага РУУС Арцём Шахлай.

**4 чэрвеня** міліцыя вярнула “Радыё Рацыя” тэхніку, забраную “для праверкі” з мінскага офіса радыёстанцыі 2 мая. Пра вынікі гэтай праверкі, якая доўжылася больш за месяц, праваахоўнікі нічога не паведамілі.

**12 траўня** супрацоўнікі мытні аэрапорта “Мінск-2” правялі 4-гадзінны дагляд дацкаму журналісту Йенсу Нільсану. Пасля дагляду ў яго адабралі электронныя носьбіты інфармацыі, ноўтбук, матэрыялы для публікацыі пра прафсаюзы Беларусі, а таксама кнігу Роя Мядзведзева “Аляксандр Лукашэнка. Контуры беларускай мадэлі”. На якой падставе адабралі рэчы, Йенсу Нільсану не патлумачылі.

Пакуль журналіста даглядалі, яго самалёт паляцеў. Але вылет іншым рэйсам Йенсу Нільсану не прапанавалі, і ён быў вымушаны тэрмінова дабірацца да Вільнюса цягнікам, каб не парушыць візавы рэжым.

**25 траўня** ўвечары на беларуска-літоўскай мяжы ў пункце пропуску “Гудагай” была затрыманая рэдактарка прафсаюзнага сайта praca-by.info Наталля Верашчагіна. Яе знялі з цягніка разам з лідэрамі прафсаюза РЭП, калі яны вярталіся з Вільнюса пасля сустрэчы з літоўскімі прафсаюзамі. Журналістку адвялі на асабісты дагляд: спачатку праверылі змесціва яе сумкі, потым прымусілі распранууцца да бялізны. У выніку амаль 3-гадзіннай працэдуры дагляду забралі грошы, ноўтбук і флэш-картку. Іх паабяцалі вярнуць цягам месяца, пасля “праверкі”.

**31 траўня** ў Светлагорскім раёне (Гомельская вобласць) затрымалі журналістаў: Сяргея Балая (інтэрнэт-газета "Салідарнасць"), Іну Студзінскую (Радыё “Свабода”), а таксама незалежных тэлежурналістаў Аліну Радачынскую і Алеся Баразенку. Яны вярталіся з асвятлення сходу жыхароў вёскі Якімава Слабада, якія пратэстуюць супраць будаўніцтва побач з вёскай завода беленай цэлюлёзы. Разам з журналістамі былі таксама затрыманыя сябры БАЖ Сяргей Вазняк, Аляксандр Уліцёнак і актывісты кампаніі “Гавары праўду” Ганна Курыловіч і Міхаіл Пашкевіч.

Аўтамабіль, у якім яны ехалі, спынілі на выездзе з вёскі супрацоўнікі ДАІ і заявілі, што кіроўца машыны нібыта парушыў правілы дарожнага руху. Усіх даставілі ў Светлагорскі РАУС для дачы тлумачэнняў, дзе пратрымалі калі 2 гадзін.

У Сяргея Балая міліцыянты адабралі флэш-карту фотакамеры. Маўляў, здымкі будуць выкарыстаныя як доказ супраць удзельнікаў несанкцыянаванага мерапрыемства ў вёсцы. Сяргея Вазняка прымусілі прайсці тэст на ўжыванне алкаголю.

**21 чэрвеня** ў Гродне ў кватэру да сябра БАЖ Андрэя Пачобута, карэспандэнта польскай “Gazety Wyborczej”, прыйшоў следчы па найважнейшых справах Гродзенскай абласной пракуратуры Арсень Нікольскі разам з міліцыянтамі. Следчы паведаміў, што супраць журналіста распачата новая крымінальная справа па арт. 368 ч. 2 (паўторна здзейсненая знявага). Падставай нібыта сталі публікацыі Андрэя Пачобута на інфармацыйных сайтах «Хартыя’97» і «Белорусский партизан».

У хаце журналіста правялі ператрус, у выніку якога забралі працоўны камп'ютар. Самога Пачобута міліцыянты павезлі на допыт, але ён адмовіўся размаўляць са следчым, і яго адвезлі ў гродзенскую турму.

Нагадаем, 5 ліпеня 2011 года Андрэй Пачобут быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на 2 гады паводле арт. 367 ч. 1 (паклёп на прэзідэнта). Рашэнне прыняў суддзя Ленінскага райсуда Гродна Віталь Ляцко. Журналіста, які правёў некалькі месяцаў за кратамі, вызвалілі ў зале суда. Першапачаткова Пачобута вінавацілі ў парушэнні двух артыкулаў Крымінальнага кодэкса: 368 (частка I) — «знявага» і 367 (частка I) — «паклёп» у дачыненні да прэзідэнта. У выніку па артыкуле за знявагу журналіста апраўдалі.

**27 чэрвеня** ў Гродне ў офісе незарэгістраванага "Саюза палякаў Беларусі" адбыўся ператрус. Увечары міліцыя з дапамогай слесараў узламала дзверы ў памяшканне. Абшуквалі не толькі офіс СПБ, але і іншыя памяшканні будынку, дзе месціцца арганізацыя. Паводле тлумачэнняў міліцыянтаў, яны шукалі прэсу, "якая ўтрымлівае антыдзяржаўныя заклікі". У выніку забралі камп'ютары.

Журналістам, што прыехалі да офісу, забаранялі фатаграфаваць падзеі.

Арандатар офіса - старшыня Рады СПБ, журналіст Андрэй Пачобут, які на той момант знаходзіўся ў турме.

**13 ліпеня** ў Мінску супрацоўнікі КДБ зладзілі ператрус на здымнай кватэры рэдактара сайта Belarusian News Photos (bnp.by), 20-гадовага студэнта 4-га курса Інстытута журналістыкі БДУ, сябра БАЖ Антона Сурапіна. Спецслужбы цікавіла, адкуль на сайце з’явіліся фотаздымкі цацачных мядзведзяў, што былі скінутыя **4 ліпеня**

над Івянцом і Мінскам са шведскага лёгкаматорнага самалёта. Між тым, пад здымкамі Антон Сурапін тлумачыў, што іх даслаў чалавек, які жыве не ў Мінску і пажадаў застацца ананімным. Пасля перагрусу Сурапіна забралі на допыт.

**14 ліпеня** следчы КДБ патэлефанаваў бацькам Антона і паведаміў, што абвінавачанне іх сыну не выстаўленае, і яго затрымалі на 72 гадзіны для высвятлення яго спрычыненасці да плюшавых мядзведзяў, скінутых са шведскага самалёта.

Адабраную тэхніку не вярнулі дагэтуль.

**17 ліпеня** ў Оршы супрацоўнікі міліцыі правяліператрусы ў кватэры стваральніка і рэдактара сайта orsha.eu Ігара Казмерчака, а таксама ў кватэры яго бацькоў. Забралі сістэмны блок ад камп’ютара, 2 флэш-карткі і 3G мадэм. Самога Казмерчака дапыталі на прадмет распаўсюду парнаграфіі праз сайт. Усё гэта здарылася праз пару дзён пасля таго, як ён зарэгістраваўся назіральнікам за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ у межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

Рэдактар заяўляе, што ніякай парнаграфічнай інфармацыі на сайце orsha.eu не выстаўлялася. Ён не выключае, што пэўныя структуры вельмі цікавіць інфармацыя з яго камп’ютара, таму і была прыдуманая зачэпка з "распаўсюдам парнаграфіі".

**24 ліпеня** раніцай на літоўска-беларускай мяжы (пераход “Гудагай”) памежнікі затрымалі на 3 гадзіны карэспандэнта мінскага офіса “Еўрапейскага радыё для Беларусі” Віталя Ругайна. Журналіст ехаў цягніком Вільнюс – Мінск, вяртаючыся ў краіну пасля месячнай адсутнасці. У памяшканні памежнай службы ў журналіста забралі ноўтбук, склаўшы пратакол вынятку. Аднак пасля камп’ютар аддалі.

Нагадаем, пасля затрымання раніцай 22 чэрвеня журналіста “Еўрарадыё” Паўла Свярдлова невядомыя ў цывільным чакалі каля офіса Віталя Ругайна (яны паказвалі фотаздымак журналіста вахцёру). Але Віталю Ругайну пры дапамозе калег удалося застацца на волі і з'ехаць з краіны ў Польшчу.

**30 жніўня** ў Мінску і Віцебску супрацоўнікі сілавых органаў затрымалі і дапыталі адміністратараў інтэрнэт-суполак “Ляпіс Трубяцкой - бясплатны канцэрт у Мінску”, “Толькі ШОС!”, "Надакучыў нам гэты Лукашэнка". (*Больш падрабязна чытайце ў раздзеле “Затрыманні журналістаў, судовы адміністратыўны пераслед”.*) У некаторых з іх забралі кампутары.

Паўла Еўціхіева людзі ў цывільным дапыталі дома ў прысутнасці маці. Іх цікавілі дачыненне да інтэрнэтаўскай суполкі “Вконтакте” “Ляпіс Трубяцкой - бясплатны канцэрт у Мінску”, а таксама паролі ад суполкі. Хлопец адмовіўся адказваць на пытанні, і яго забралі ў Кастрычніцкае РУУС Мінска, з кватэры вынеслі яго камп’ютар. На пярэчанні маці ёй прад’явілі пасведчанне на імя капітана міліцыі Аляксандра Макарава. Ніякіх папераў пры гэтым не складалася. З міліцыі Паўла Еўціхіева адвезлі ў суд Кастрычніцкага раёна і абвінавацілі ў дробным хуліганстве. Прысуд – 5 сутак арышту.

Адміністратара інтэрнэт-групы «Толькі ШОС!» Андрэя Ткачова затрымалі ў кватэры яго сяброўкі і адвезлі на допыт. Пасля таксама асудзілі на 7 сутак арышту “за дробнае хуліганства”. У кватэры дзяўчыны адбыўсяператрус – забралі камп’ютар.

**18 верасня** ў Мінску каля плошчы Калініна былі затрыманыя незалежныя тэлежурналісты Вячаслаў Пяшко і Валянцін Міхальцоў. Яны вялі здымкі на вуліцы, калі да іх падышлі міліцыянты. Журналістаў спачатку даставілі ў апорны пункт аховы парадку для высвятлення асобаў, прыкладна праз 3 гадзіны адвезлі ў Першамайскае РУУС. Там у Валянціна Міхальцова ўзялі адбіткі пальцаў (адбіткі Вячаслава Пяшко ў базе ўжо былі) і сфатаграфавалі яго.

Забралі відэакамеру “для праверкі”, пра што склалі пратакол вынятку. Відэазапіс таксама застаўся ў міліцыі. Адпусцілі позна ўвечары.

**21 верасня** ў аэрапорце «Мінск-2» аўстралійскага тэлежурналіста Амаса Робертса спынілі пры праходжанні мытнага кантролю, калі ён збіраўся пакінуць нашу краіну. Прадстаўнікі мытні і невядомыя людзі ў цывільным, якія прысутнічалі пры гэтым, забралі ў яго ўсю наяўную апаратуру і носьбіты інфармацыі – аж да мабільнага тэлефона (у пераліку: HD-відэакамера Panasonic HPX-170, HD-відэакамера Go-Pro Hero, лічбавая фотакамера Canon G12, ноўтбук Macbook, Apple DVD-drive, лічбавыя носьбіты інфармацыі, мабільны тэлефон (iPhone), некалькі DVD, некалькі дакументаў з архіву SBS і плюшавы мядзведзік з парашутам).

Назваць сябе людзі ў цывільным адмовіліся. Амас Робертс, у сваю чаргу, адмовіўся падпісваць акт вынятку апаратуры, паколькі не разумеў, што за дакументы ў яго патрабуюць падпісаць. У выніку яму не выдалі на рукі ніякіх дакументаў, якія б пацвярджалі, што нешта забралі. Пазней, калі ў аэрапорт прыехалі перакладчык і прадстаўнік ГА “БАЖ”, сп. Робертс пайшоў падпісваць паперы, але мытнікі ўжо адмаўлялі, што забіралі апаратуру. Увесь час за журналістамі сачылі невядомыя людзі ў цывільным.

Даведка: Амас Робертс – прадстаўнік аўстралійскага тэлеканала SBS, меў афіцыйную акрэдытацыю пры беларускім МЗС і працаваў тут на працягу тыдня. Журналіст, у прыватнасці, здымаў у Беларусі сюжэт пра шведскі "плюшавы дэсант".

**29 лістапада** Аршанскі гарадскі аддзел Следчага камітэта вярнуў рэдактару незалежнага інтэрнэт-сайта orsha.eu Ігару Казмерчаку камп’ютар і флэш-карты, якія былі адабраныя ў яго 5 месяцаў таму - падчасператрусу 17 ліпеня.

Як паведамлялася раней, прычынай ціску сілавікоў на сайт стала нібыта спасылка на ім на іншы інтэрнэт-рэсурс, які, сярод іншага, утрымліваў матэрыялы парнаграфічнага характару.

Па вынятай тэхніцы была прызначаная экспертыза. З яе вынікамі Казмерчака не азнаёмілі. Ён мяркуе, што эксперты пацвердзілі, што рэдакцыя сайта да распаўсюджвання падобнай інфармацыі ніякага дачынення не мае. Незалежныя назіральнікі звязвалі ціск на інтэрнэт-выданне з кампаніяй па выбарах у Палату прадстаўнікоў. Бо сайт, у адрозненне ад дзяржаўных СМІ, асвятляў дзейнасць і апазіцыйных кандыдатаў.

## Пагрозы на адрас журналістаў і СМІ

**3 траўня** невядомыя асобы зладзілі правакацыю супраць гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута. На пад'ездах дома, дзе ён жыве, яны расклеілі плакаты з фотаздымкам журналіста і подпісам «Асцярожна, педафіл!»

Андрэй Пачобут аднёс адну з улётак у міліцыю і напісаў заяву. Ён мяркуе, што такім чынам яму ў чарговы раз помсцілі за ягоную грамадзянскую пазіцыю і журналісцкую дзейнасць. Журналіст не выключае, што за правакацыяй можа стаяць КДБ.

Нагадаем, Андрэй Пачобут быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на 2 гады па артыкуле «паклёп ў дачыненні да прэзідэнта» (ч. 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса). Суд прызнаў журналіста вінаватым за шэраг артыкулаў з крытыкай дзейнай улады. Судовы працэс быў закрыты. Журналіст правёў за кратамі 3 месяцы. Зараз яму забаронены выезд за мяжу.

**22 чэрвеня** ў Мінску журналістцы Ірыне Халіп, жонцы экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава, невядомыя падкінулі ў паштовую скрыню адрэзаную курыную галаву. Яна была загорнутая ў цырату і запячатаная ў канверт без паштовага штампу. Тобок, пакет кінулі непасрэдна ў скрыню, а не даслалі па пошце.

"Я разглядаю гэта як прамую пагрозу жыццю", - паведаміла Ірына Халіп. З нагоды гэтага інцыдэнту журналістка звярнулася з заявай у РУУС Партызанскага раёна Мінска.

Нагадаем, Ірына Халіп асуджаная да 2 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай па абвінавачанні ва ўдзеле ў акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Яна не мае права выязджаць з краіны і пакідаць кватэру пасля 22.00. Пры гэтым яна пастаянна знаходзіцца пад наглядам міліцыі.

**11 верасня** журналістка Ірына Халіп паведаміла, што невядомыя "атакуюць" яе тэлефоны. Званкі паступаюць амаль бесперапынна, з-за гэтага карыстацца тэлефонамі практычна немагчыма. На нумары журналісткі робяцца аб'явы пра продаж аўтамабіляў ці арэнды кватэры.

"Раніцай мне давялося адключыць тэлефоны, а калі ўвечары ўключыла, каб патэлефанаваць, прыйшло паведамленне ад аператара мабільнай сувязі, што тэлефанавалі 223 разы", - распавядае Ірына. Журналістка перакананая, што гэта справа рук беларускіх спецслужбаў.

**25 верасня** рэдактар сайта "Хартыя'97" Наталля Радзіна, якая знаходзіцца ў Польшчы, паведаміла, што на яе мабільныя тэлефоны бясконца паступаюць званкі, і з-за гэтага карыстацца імі немагчыма. Тэлефанаванні нібыта паступаюць з нумару галоўнага рэдактара расійскай "Новой газеты" Дзмітрыя Муратава. Сам Муратаў, які добра знаёмы з журналісткай, аказаўся не ў курсе. Наталля Радзіна ўпэўненая, што тэлефоны такім чынам блакуюць беларускія спецслужбы. Яна не выключае, што будзе звяртацца ў польскую пракуратуру з просьбай правесці расследаванне.

## Папярэджанні, адміністрацыйны ціск

**10 студзеня** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовае папярэджанне рэдакцыі недзяржаўнага часопіса “Arche. Пачатак”. Выданне звінавацілі ў парушэнні арт. 22 закона “Аб СМІ”. Мініфармацыі знайшло, што ў выходных дадзеных часопіса №10 за 2011 г. няправільна ўказаныя “найменне рэспубліканскага органа дзяржаўнага ўпраўлення ў сферы масавай інфармацыі, які зарэгістраваў дадзенае друкаванае СМІ” (г. зн. – Мініфармацыі), а таксама “нумар і дата выдачы пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі”.

Нагадаем, што паводле арт. 51 п. 2.2. закона «Аб СМІ», вынясенне рэдакцыі альбо заснавальніку СМІ на працягу года двух і больш папярэджанняў можа пацягнуць за сабой спыненне выпуску гэтага СМІ. Прычым, лічыцца не каляндарны год (з 1 студзеня па 31 снежня), а год ад даты вынясення папярэджання.

**30 студзеня** гродзенскую карэспандэнтку "Радыё Рацыя" Гражыну Шалкевіч ў КДБ вусна папярэдзілі пра крымінальную адказнасць за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь і абразу прэзідэнта.

Журналістка прыйшла на “размову” разам з адвакатам. Але супрацоўнік КДБ (які не паказаў свайго пасведчання) настаяў на тым, што спн. Шалкевіч не з’яўляецца ні абвінавачанай, ні сведкай, і таму прысутнасць яе прадстаўніка не патрэбная. Спачатку пытанні тычыліся ў асноўным леташніх “маўклівых” акцый, у часе адной з якіх Шалкевіч затрымалі і аштрафавалі як удзельніцу. Журналістка адмовілася адказваць на пытанні, патлумачыўшы, што не ведае, як гэтая інфармацыя будзе выкарыстаная пазней.

Пасля гэтага суразмоўца пераключыўся на тэму журналісцкай дзейнасці без акрэдытацыі і папярэдзіў Гражыну Шалкевіч пра адказнасць. На патрабаванне журналісткі па выніках гутаркі быў аформлены пратакол.

**16 лютага** Гродзенская абласная пракуратура вынесла незалежнаму тэлеаператару Мікалую Дзятчэню пісьмовае папярэджанне аб недапушчальнасці працы на замежнае СМІ без акрэдытацыі. У пракуратуры Дзятчэню паказалі фотаздымак, на якім ён стаіць з відэакамерай падчас ўрачыстасцяў у гонар братоў Каліноўскіх у пасёлку Свіслач, і стоп-кадр з сюжэта на гэтую тэму ў навінах незалежнага спадарожнікавага тэлеканала “Белсат”.

**17 лютага** міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі паведаміў, што ў 2011 годзе Міністэрства інфармацыі вынесла 83 пісьмовыя папярэджанні 57 СМІ. Інфармацыя была агучаная на калегіі ведамства па выніках 2011 года.

**21 лютага** гродзенскага карэспандэнта "Радыё Рацыя” Віктара Парфёненку выклікалі ў пракуратуру Гродзенскай вобласці і ўручылі пісьмовае папярэджанне за супрацоўніцтва з замежным СМІ, якое не мае акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі. Намеснік начальніка пракуратуры Валерый Павядайка ў якасці пацверджання паказаў журналісту раздрукоўкі публікацый з сайта "Радыё Рацыя”.

Пракурор заявіў, што наступным разам Парфёненка будзе пакараны адпаведна арт. 22.9 ч. 2 КаАП (незаконны распаўсюд інфармацыі). На довады Віктара Парфёненкі, што МЗС ужо тройчы адмаўляў яму ў акрэдытацыі, пракурор прапанаваў паскардзіцца на міністэрства ў суд.

**21 лютага** пісьмовае папярэджанне за супрацоўніцтва з тэлеканалам “Белсат” без акрэдытацыі пры МЗС атрымаў таксама гродзенскі журналіст Алесь Дзянісаў. Яму

намеснік гродзенскай абласной пракуратуры Валерый Павядайка наогул не прадстаўляў ніякіх доказаў.

**22 лютага** ў Полацку стваральнік сайта «Свабодны рэгіён» Яўген Парчынскі атрымаў вуснае папярэджанне ад мясцовага Упраўлення КДБ. Актывіста, якога выклікалі "для гутаркі", распытвалі пра дзейнасць нядаўна створанага сайта, а таксама пра ўдзел у акцыі "Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку". Супрацоўнік КДБ зачытаў Парчынскаму некалькі артыкулаў Крымінальнага кодэкса і папярэдзіў, што журналісцкая дзейнасць без акрэдытацыі забароненая - асабліва праца без акрэдытацыі на замежныя СМІ.

**24 лютага** Міністэрства інфармацыі зрабіла пісьмовае папярэджанне рэдакцыі недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Информ-прогулка» (г. Лунінец). За "распаўсюд няпраўдзівых звестак" (арт. 4 закона "Аб СМІ"), - паведамлялася ў дакуменце за подпісам міністра Алега Праляскоўскага.

Падставай для санкцыі стаў артыкул "У незалежны прафсаюз…" (нумар ад 29 снежня 2012 года - так пазначана ў тэксце дакумента). Няпраўдзівымі звесткамі Мініфармацыі палічыла сказ "Каля 600 работнікаў РУПП "Граніт" выйшлі з прафсаюзнай арганізацыі прадпрыемства".

**27 лютага** карэспандэнтцы "Радыё Рацыя" Гражыне Шалкевіч у Гродзенскай абласной пракуратуры ўручылі афіцыйнае папярэджанне за супрацоўніцтва з замежным сродкам масавай інфармацыі без акрэдытацыі. У якасці пацверджання намеснік начальніка пракуратуры Гродзенскай вобласці Валерый Павядайка паказаў журналістцы раздрукоўкі публікацый з сайта "Радыё Рацыя". Пракурор таксама папярэдзіў Г. Шалкевіч, што пры выкрыцці новых фактаў супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі ёй пагражае ад 20 да 50 базавых велічынь згодна з Адміністратыўным кодэксам.

Нагадаем, **30 студзеня** Гражыну Шалкевіч вусна папярэдзілі ў КДБ аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

**28 лютага** гродзенскі журналіст Андрэй Мялешка атрымаў вуснае папярэджанне Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці. У камітэт журналіст хадзіў па афіцыйнай павестцы, якую прынёс яму ўчастковы міліцыянт увечары 27 лютага. Ісці туды па тэлефонным запрашэнні, што паступіла раніцай таго ж дня, сп. Мялешка адмовіўся. Паводле Мялешкі, размова тычылася яго журналісцкай дзейнасці. Супрацоўніка КДБ па прозвішчы Жукаў цікавілі артыкулы, якія Андрэй Мялешка рыхтаваў для гродзенскага сайта «Твой Стыль». "Спадар Жукаў папрасіў мяне не дапускаць ніякіх журналісцкіх памылак і прытрымліватца законаў РБ. Калі ж гэтага не адбудзецца, будуць «выкарыстаныя меры». Размова доўжылася ўсяго хвілін 20-25", - распавёў журналіст.

**21 сакавіка** незалежных журналістаў Вольгу Чайчыц і Змітра Краўчука па тэлефоне выклікалі ў пракуратуру. Вольгу – у Пракуратуру РБ, а Змітра – у пракуратуру г. Мінска.Вольга Чайчыц адмовілася ісці "на гутарку" да пракурора без афіцыйнай позвы.

**22 сакавіка** незалежны тэлеаператар Зміцер Краўчук, наведаўшы па тэлефонным запрашэнні сталічную пракуратуру, атрымаў пісьмовае пракурорскае папярэджанне аб недапушчальнасці ажыццяўлення прафесійнай дзейнасці журналіста замежнага СМІ на тэрыторыі Беларусі без акрэдытацыі (п.4 арт. 35 закона "Аб СМІ"). Дакумент падпісаны намеснікам пракурора г. Мінска Казімірам Кежуном.

**28 сакавіка** незалежныя журналісткі, сябры БАЖ Аліна Радачынская і Вольга Чайчыц атрымалі пракурорскія папярэджанні аб недапушчальнасці ажыццяўлення

прафесійнай дзейнасці журналістаў замежных СМІ на тэрыторыі РБ без акрэдытацыі (п. 4 арт. 35 закона "Аб СМІ"). Пад дакументамі стаіць подпіс намесніка пракурора г. Мінска Казіміра Кежуна. Абедзвюх журналістак звінавачваюць у супрацоўніцтве са спадарожнікавым тэлеканалам “Белсат”. У пракуратуру г. Мінска іх выклікалі афіцыйнымі позвамі.

**9 красавіка** генеральны дырэктар сталічнага прадпрыемства «Амкадор» Валерый Кандратчык накіраваў ліст міністру інфармацыі Алегу Праляскоўскаму, у якім «пераканаўча просіць» вынесці газеце «Наша Ніва» папярэджанне за распаўсюд недакладнай інфармацыі і прыняць «іншыя меры, прадугледжаныя заканадаўствам».

Абурэнне сп. Кандратчыка выклікала публікацыя «Мільянер са скальпелем» (№ 13 «НН» ад 04.04.2012), прысвечаная старшыню рады дырэктараў «Амкадора», сенатару Аляксандру Шакуціну. У лісце пералічаны цэлы шэраг прэтэнзій да выдання. У рэдакцыйным артыкуле з гэтай нагоды “Наша Ніва” падала грунтоўныя тлумачэнні па кожнай з іх.

**29 траўня** Гомельская абласная пракуратура вынесла папярэджанне незалежнай тэлежурналістцы, сябры БАЖ Ларысе Шчыраковай з фармулёўкай “за дзейнасць на карысць прадзюсарскай кампаніі N.E.W.S. Informacja (Польша)”. У пракуратуры палічылі, што прадзюсарская кампанія – гэта замежны сродак масавай інфармацыі, і, каб мець з ёй стасункі, патрэбная акрэдытацыя ў Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Дакумент падпісаў намеснік пракурора Гомельскай вобласці, старшы дарадца юстыцыі Генадзь Раманюк.

Падставай для санкцыі сталі скаргі на журналістку двух грамадзян, пасля таго як яна зрабіла відэасюжэт пра сход жыхароў вёскі Якімава Слабада Светлагорскага раёна, якія выступалі супраць будаўніцтва побач з вёскай завода беленай цэлюлёзы. На сход Шчыракову запрасілі чальцы ініцыятыўнай групы. Свае відэаматэрыялы яна размясціла на відэапартале youtube.com. Пазней іх распаўсюдзілі і на іншыя сайты.

У пракуратуры, куды выклікалі позвай, Л. Шчыраковай паведамілі, што на яе паступілі скаргі ад Уладзіміра Ахрэмкіна і Зінаіды Хмарун. Першы пісаў, што Ларыса Шчыракова “абманным шляхам праводзіла інтэрв’ю сярод жыхароў вёскі, якія думалі, што яна прадстаўляе афіцыйны орган масавай інфармацыі і жадае асвяціць праблему будаўніцтва завода, данесці яе да прэзідэнта”. “А на самай справе скарысталася нашымі праблемамі і зняла выгадны для апазіцыі сюжэт”, - даводзіць у скарзе У. Ахрэмкін і сцвярджае, што толькі пасля дэманстрацыі відэасюжэта па тэлеканале “Белсат”, ён даведаўся, што Шчыракова “апазіцыйны журналіст”. Другая скарга была падобнага зместу і сэнсу.

Нагадаем, у 2011 годзе Ларысу Шчыракову ўжо выклікалі ў пракуратуру. Тады пракурор Алеся Рабцава цікавілася – ці не супрацоўнічае журналістка з тэлеканалам «Белсат». Але на той час абышлося без афіцыйнага папярэджання. Л. Шчыракова шмат разоў падвяргалася прэсінгу з боку ўладаў: яе неаднойчы затрымлівалі міліцыянеры, а пасля прэзідэнцкіх выбараў 2011 годзе ў журналісткі адбыўся ператрус, у выніку якога яна пазбавілася прафесійнай тэхнікі.

**14 чэрвеня** Міністэрства інфармацыі паведаміла, што ад пачатку года вынесла 25 пісьмовых папярэджанняў. Паводле міністра інфармацыі Алега Праляскоўскага, санкцыі прымененыя ў дачыненні да 24-х СМІ. Большасць папярэджанняў зроблена за невыкананне сродкамі масавай інфармацыі ўмоваў дзяржаўнай рэгістрацыі. У прыватнасці, за непаведамленне заснавальнікамі СМІ пра змену адрасу рэдакцыі, спецыялізацыі, перыядычнасці выхаду і інш., а таксама за невыкананне парадку размяшчэння выходных дадзеных. Акрамя таго папярэджанні выносіліся за распаўсюд

недакладнай інфармацыі і парушэнне парадку рассылкі абавязковых бясплатных асобнікаў.

Між тым, паводле арт. 51 п. 2.2. закона «Аб СМІ», вынясенне рэдакцыі альбо заснавальніку СМІ на працягу года двух і больш папярэджанняў можа пацягнуць за сабой прыпыненне выпуску гэтага СМІ.

**25 ліпеня** стала вядома, што блогер Яўген Ліпковіч накіраваў скаргі на вайсковую газету «Во славу родины» ў Генеральную пракуратуру і Міністэрства інфармацыі. Спадар Ліпковіч просіць вынесці выданню афіцыйнае папярэджанне за парушэнне арт. 44 Закона аб СМІ.

Падставай для зваротаў стала ігнараванне рэдакцыяй права грамадзяніна на абвяржэнне няпраўдзівай інфармацыі. 18 ліпеня Яўген Ліпковіч накіраваў заяву з патрабаваннем абвергнуць у газеце няпраўдзівыя звесткі. Закон дае рэдакцыям пяць дзён на адказ заяўніку. Аднак ніякага адказу ў вызначаны тэрмін сп. Ліпковіч не атрымаў. Нагадаем, дзяржаўная газета «Во славу родины» рэгулярна публікавала пра Яўгена Ліпковіча сатырычныя артыкулы за подпісам палкоўніка Макарава.

**10 жніўня** Мінская гарадская пракуратура вынесла пісьмовае папярэджанне незалежнай тэлежурналістцы Таццяне Белашовай аб недапушчальнасці парушэння закона "Аб СМІ" - працы без акрэдытацыі на карысць замежнага СМІ.

Папярэджанне падпісана намеснікам пракурора г. Мінска Казімірам Кежуном. У пракуратуру журналістку выклікалі ў сувязі з праверкай дзейнасці польскага спадарожнікавага тэлеканала "Белсат". Пракурор Дзмітрый Пастаялка прыгадаў Белашовай яе затрыманне ў Парку Горкага ў Мінску 1 чэрвеня падчас падрыхтоўкі відэасюжэта. Паводле пракуратуры, здымкі, зробленыя Таццянай, выйшлі ў эфір "Белсата".

Нагадаем, што цягам года падобныя пракурорскія папярэджанні былі вынесеныя цэламу шэрагу незалежных журналістаў, а ў чэрвені Следчы камітэт Беларусі афіцыйна заявіў пра пачатак праверкі дзейнасці тэлеканала "Белсат".

**14 жніўня** Мінская гарадская пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне аб забароне працаваць без акрэдытацыі на замежныя СМІ журналісту "Радыё Рацыя" Генадзю Барбарычу. Дакумент падпісаны намеснікам пракурора г. Мінска Казімірам Кежуном.

Журналіста выклікалі ў пракуратуру з нагоды праверкі, што праводзілася ў сувязі з ягонай працай на "Рацыі" пасляператрусу ў офісе радыёстанцыі 2 мая. У размове пракурор Дзмітрый Пастаялка назваў Генадзя Барбарыча сталым супрацоўнікам "Рацыі" і паведаміў, што праслухаў многія яго матэрыялы ў эфіры радыёстанцыі і камп'ютарах, забраных падчасператрусу. "У адказ на абвінавачанні я заявіў, што з'яўляюся вольным журналістам: кожны дзень магу пісаць у розныя СМІ, а працоўным кантрактам з імі не звязаны. Спаслаўшыся на канстытуцыйнае права, я адмовіўся сведчыць супраць сябе самога", - распавёў Г. Барбарыч.

Нагадаем, рэдакцыя "Радыё Рацыя" знаходзіцца ў Польшчы. У Беларусі журналісты "Рацыі" вымушаны працаваць нелегальна, бо Міністэрства замежных спраў неаднаразова адмаўляла радыёстанцыі ў афіцыйнай акрэдытацыі.

**15 жніўня** ў Барысаве працаўнікі ЖЭУ-1 Барысаўскага ўнітарнага прадпрыемства «Жыллё» па распараджэнні з выканкама знялі шыльду недзяржаўнай мясцовай газеты «Борисовские новости» над уваходам у пад'езд жылога дома, дзе размешчаная рэдакцыя выдання. Пры гэтым ніякіх пісьмовых прадпісанняў на дэмантаж у працоўных не было.

**16 жніўня** раніцай камунальнікі паспрабавалі разабраць металічны каркас, на які мацавалася шыльда. Галоўны рэдактар газеты Анатоль Букас быў вымушаны выклікаць міліцыю і напісаць заяву. Пры з'яўленні міліцыянта працоўныя сабралі свае інструменты і сышлі, дэмантаваўшы каркас напалову.

**17 жніўня** раніцай сябру Рады праваабарончага цэнтра “Вясна”, сябру БАЖ Таццяну Равяка па тэлефоне запрасілі ў КДБ для гутаркі. Праваабаронца запатрабавала даслаць ёй афіцыйную позву. З паперы, якую ў хуткім часе прывезлі, вынікала, што Таццяну Равяка выклікаюць як асобу, "осведомленную об обстоятельствах, имеющих значение для обеспечения национальной безопасности Республики Беларусь".

Падчас размовы супрацоўнік КДБ цікавіўся размешчанай на сайце spring96.org 15 жніўня інфармацыяй пад назвай “У Магілёве КДБ умешваецца ў выбарчы працэс”. У Таццяны Равяка пыталіся пра тое, адкуль была атрыманая інфармацыя, ці з’яўляецца яна аўтарам публікацыі і г.д. Тацяна Равяка была папярэджаная пра тое, каб неправераная інфармацыя пра органы дзяржбяспекі не змяшчалася на сайце арганізацыі.

Праваабаронца не пагадзілася, што публікацыя падобнага матэрыялу на сайце можа неяк дыскрэдытаваць КДБ. Яшчэ да візіту ў КДБ Таццяна Равяка выказала меркаванне, што гэты выклік звязаны з яе прафесійнай дзейнасцю і з ціскам на закрыты ўладамі праваабарончы цэнтр “Вясна”.

**20 жніўня** Віцебская абласная пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне незалежнай журналістцы Алене Сцяпанавай за працу без акрэдытацыі на замежны СМІ. З дакумента, падпісанага намеснікам пракурора вобласці Георгія Каранько, вынікае, што журналістку вінавацяць у супрацоўніцтве з рэдакцыяй, якой не існуе з 2002 года.

Паводле паперы, пракуратура падпільнавала журналістку на “неаднаразовым ажыццяўленні падрыхтоўкі аўдыё- і відэаматэрыялаў, а таксама інтэрв’юяванні насельніцтва з мэтай падрыхтоўкі рэпартажаў, якія размяшчаліся ад імя чэшскай рэдакцыі Радыё Свабодная Еўропа - Радыё Свабода на адпаведным інтэрнэт-сайце”. Пракурор Зайцаў, які выклікаў да сябе А. Сцяпанаву і ўручыў ёй папярэджанне, не пажадаў патлумачыць журналістцы пра тое, хто праводзіў праверку і якім чынам здабываліся звесткі.

Алена Сцяпанава заявіла пра намер абскардзіць папярэджанне. “Чэшская служба Радыё “Свабода”, наколькі мне вядома, спыніла працу ў 2002 годзе. Таму я фізічна не магу з ёй супрацоўнічаць”, - кажа яна.

**28 верасня** рэдактар недзяржаўных рэгіянальных газет «Борисовские новости» і «Рекламный БорЖоМи» Анатоль Букас паведаміў, што на выданні працягваецца ціск з боку мясцовых уладаў. У прыватнасці, каля 60 асобнікаў газеты «Рекламный БорЖоМи» было выдалена з прылаўкаў адной з крамаў на запатрабаванне работнікаў санэпідэмстанцыі. Па звестках А. Букаса, работнікі санслужбы выконваюць вусныя распараджэнні кіраўніцтва Барысаўскага гарвыканкама, якое імкнецца эканамічна задушыць незалежнае выданне. Таксама стала вядома, што пракуратура Барысаўскага раёна не ўгледзела парушэнняў законнасці па скарзе Анатоля Букаса на работнікаў УП “Жыллё”, якія дэмантавалі шыльду з назвай газеты «Борисовские новости» 15-16 жніўня.

**17 кастрычніка** рэдактар недзяржаўных газет «Борисовские новости» і «Рекламный БорЖоМи» паведаміў, што Барысаўскі выканкам дае ўказанні камерцыйным структурам здымаць сваю рэкламу са старонак гэтых газет. І яны вымушаныя падпарадкоўвацца, каб пазбегнуць ціску ў выглядзе падатковых і іншых праверак.

Напрыклад, два дырэктары гандлёвых прадпрыемстваў, якія адмовіліся выконваць распараджэнні выканкама, былі аштрафаваныя на некалькі мільёнаў рублёў кожны. Па словах Анатоля Букаса, за кароткі передвыбарны перыяд ад распаўсюду газеты «Борисовские новости» адмовіліся 15 гандлёвых кропак, што стала вынікам высілкаў мясцовай вертыкалі ўлады.

**22 кастрычніка** Гомельская абласная пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне за парушэнне закона "Аб СМІ" незалежнай тэлежурналістцы, сябру БАЖ Ларысе Шчыраковай. Яе вінавацяць у працы на замежны СМІ без акрэдытацыі. Гэта другое папярэджанне журналістцы за 2012 год.

"Пракуратурай вобласці праведзена праверка па матэрыялах УКДБ па Гомельскай вобласці, у часе якой устаноўлена, што Вы ажыццяўляеце дзейнасць на карысць прадзюсарскай кампаніі N.E.W.S. Informacja (г. Варшава), а таксама займаецеся зборам інфармацыі, якая тычыцца спартовых, культурных і грамадска-палітычных падзей вобласці", - гаворыцца ў тэксце папярэджання за подпісам намесніка абласнога пракурора Васіля Броўкі.

Перад гэтым **22 кастрычніка** супрацоўніца аддзела барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю пракуратуры Ірына Макарэвіч узяла ў журналісткі тлумачэнне з нагоды паказу **26 верасня** на спадарожнікавым тэлеканале "Белсат" сюжэту пра арышт старшыні Гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца. Сюжэт быў зроблены ад імя Шчыраковай. "Я патлумачыла, што падрыхтавала сюжэт на просьбу журналіста "Белсата". Працоўных дамоваў са спадарожнікавым тэлеканалам "Белсат" я не маю. А прадзюсарская кампанія N.E.W.S. Informacja не з'яўляецца сродкам масавай інфармацыі", – паведаміла Шчыракова.

Нагадаем, **29 траўня** Гомельская абласная пракуратура вынесла папярэджанне Шчыраковай "за дзейнасць на карысць прадзюсарскай кампаніі N.E.W.S. Informacja", пасля таго як яна ў сакавіку размясціла на відэапартале youtube.com відэаматэрыялы пра жыхароў вёскі Якімава Слабада Светлагорскага раёна, які выказваліся супраць будаўніцтва побач з населеным пунктам завода беленай сульфатнай цэлюлозы.

**12 снежня** Міністэрства інфармацыі адмовіла ў перарэгістрацыі незалежнаму часопісу "ARCHE. Пачатак". Прычына адмовы – неадпаведнасць заяўленага галоўнага рэдактара (цяперашняга выконваючага абавязкі галоўнага рэдактара Arche Алеся Пашкевіча) кваліфікацыйным патрабаванням. Маецца на ўвазе 5-гадовы стаж працы на кіраўнічых пасадах адпаведнага профілю (патрабаванні Дадатку да пастановы Мінпрацы РБ ад 31.08.2000 №120). Дакументы на перарэгістрацыю журналісты, што працавалі над выданнем часопіса, накіравалі ў лістападзе.

"Мы падалі на перарэгістрацыю ў сувязі з сумнавядомымі падзеямі, што прывялі да блакавання рахунку рэдакцыі. Пасля гэтага выхад часопіса быў паралізаваны. Па факце дзейнасці "старой" рэдакцыі вядзецца праверка Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК, і чым усё скончыцца – пакуль невядома. Таму мы і вырашылі абнавіць рэдакцыю – у надзеі аднавіць нармальны выхад часопіса", – распавёў сп. Пашкевіч.

**18 снежня** Брэсцкая абласная пракуратура вынесла пісьмовае папярэджанне аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі незалежнай журналістцы Аліне Літвінчук. У пракуратуры палічылі, што матэрыялы на сайце "Радыё Рацыя" за подпісам Алісы Поль насамрэч належаць А. Літвінчук.

Намеснік пракурора Брэсцкай вобласці Аляксандр Точка, які ўручыў журналістцы папярэджанне, не змог патлумачыць, якім чынам пракуратура прыйшла да такой высновы.

**28 снежня** грамадскага актывіста з Рагачова Дзяніса Дашкевіча выклікалі ў раённую пракуратуру, дзе вынеслі афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Гутарку, якая доўжылася каля 2 гадзін, праводзіла пракурор Святлана Чуешава.

Дзяніса Дашкевіча папярэдзілі, што ў выпадку, калі на інфармацыйным сайце vrogacheve.ru з’явяцца артыкулы, якія будуць змяшчаць недакладныя звесткі пра палітычнае і эканамічнае становішча краіны, альбо ганьбіць прадстаўнікоў улады, ён можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці па арт. 369-1 (“дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь”), арт. 188 ч. 2 (“паклёп”) і арт.189 ч. 2 (“знявага”).

## Звальненні

**31 ліпеня** стала вядома, што ў Магілёве грамадскага актывіста Уладзіміра Трызунова звольнілі з Магілёўскага хлебазавода №4, дзе ён працаваў грузчыкам. Афіцыйная прычына – прагул. Між тым, незадоўга да гэтага спадар Трызуноў зрабіў у адным з цэхаў прадпрыемства здымкі на мабільны тэлефон. На іх было відаць, як сотні кілаграмаў сапсаванага маргарыну і дражджэй супрацоўнікі прадпрыемства працягвалі выкарыстоўваць для вытворчасці печыва. Здымкі трапілі ў інтэрнэт і былі апублікаваныя на незалежных сайтах. Адміністрацыя прадпрыемства даволі хутка вылічыла “народнага карэспандэнта”. У гутарках з ідэолагам завода і дырэктарам Уладзіміру Трызунову сапраўдную прычыну звальнення агучылі.

На прадпрыемстве каментаваць СМІ сітуацыю са звальненнем супрацоўніка адмовіліся.

**2 жніўня** намесніца старшыні Рагачоўскага раённага суда Марына Дамасевіч адхіліла зыск былога рэдактара аддзела сельскага жыцця мясцовай дзяржаўнай газеты “Свабоднае слова” Сяргея Сяргіенкі аб выплаце кампенсацыі за незаконнае звальненне. Спадар Сяргіенка патрабаваў спагнаць з рэдакцыі сярэдні 10-месячны заробак. Суддзя ж не ўгледзела парушэнняў пры яго звальненні на пачатку ліпеня.

Сяргей Сяргіенка да звальнення пяць гадоў працаваў у гэтай газеце. 15 чэрвеня ён дзве гадзіны знаходзіўся ў рэдакцыі і, пакінуўшы заяву на адгул, сышоў па сваіх справах. Гэта і стала афіцыйнай прычынай для звальнення за прагул. У той дзень у рэдакцыі не было ні галоўнага рэдактара газеты Андрэя Шышкіна, ні яго намесніцы – заяву не разгледзелі. Арыгіналу заявы ў рэдакцыі не знайшлі. І хаця Сяргіенка прад’явіў копію паперы, суд  гэта не прыняў да ўвагі.

Па словах звольненага журналіста, у яго даўно склаліся напружаныя ўзаемадачыненні з кіраўніком рэдакцыі Шышкіным з прычыны розных поглядаў на эканоміку і палітыку. У рэдакцыі з-за гэтага Сяргіенку часам называлі “апазіцыянерам”, яго пазбаўлялі прэміяльных, выносілі вымовы.

## Спробы цэнзуры

**1 лютага** стала вядома, што беларускім адвакатам рэкамендавана ўзгадняць інтэрв’ю, якія яны даюць журналістам, з кіраўніцтвам сваіх юрыдычных кансультацый.

Гэта вынікае з ліста старшыні Рэспубліканскай калегіі адвакатаў (РКА) Віктара Чайчыца ва ўсе абласныя і Мінскую гарадскую калегіі адвакатаў. Кіраўнікі калегій, у сваю чаргу, абавязаныя вывучаць інтэрв'ю, якія ўжо выйшлі, і накіроўваць інфармацыю пра іх у РКА па электроннай пошце.

Рэкамендацыі тлумачацца тым, што "часта ў СМІ, часцей электронных, з'яўляюцца інтэрв'ю асобных адвакатаў са скажонай, у тым ліку па віне журналістаў, інфармацыяй", - паведамляецца ў лісце за подпісам В. Чайчыца.

На думку старшыні юрыдычнай камісіі РПГА "Беларускі Хельсінскі камітэт" Гары Паганяйлы, такія рэкамендацыі супярэчаць гарантаванай Канстытуцыяй свабодзе слова. Фігура адваката і яго праца з'яўляюцца публічнымі, таму абмяжоўваць яго ў падаванні інфармацыі могуць толькі "правілы прафесійнай этыкі і закон", - упэўнены юрыст.

**3 жніўня** беларускі дзяржаўны канал ОНТ (ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал") адцэнзураваў выпуск навінаў расійскага тэлеканала ОРТ. Беларускі канал спыніў трансляцыю расійскай праграмы навін «Время» а 20.19 (звычайна гэтая штодзённая паўгадзінная перадача транслюецца з 20.00 да 20.30) – менавіта ў гэты час на першым расійскім канале, з якога беларускі канал рэтранслюе гэтую праграму, паказалі сюжэт «Пасля дэсанту плюшавых мядзведзяў беларускі і шведскі паслы страцілі працу». У ім паведамлялася пра высылку з Беларусі шведскага амбасадара.

**28 жніўня** ў Бабруйску не пусцілі ў эфір перадвыбарчы выступ кандыдата ў дэпутаты ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Мацвея Хатары. У сваім звароце кандыдат заклікаў выбарцаў байкатаваць выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Замест выступу эфірны час тэлеканала «Беларусь 2» быў запоўнены тэлезамалёўкай пра добраўпарадкаванасць Бабруйска.

**28 жніўня** пасля заканчэння відэазапісу выступу кандыдата ў дэпутаты ад АГП Анжалікі Камбалавай супрацоўнікі тэлерадыёкампаніі "Брэст" паведамілі кандыдатцы, што будуць узгадняць з Цэнтральнай выбарчай камісіяй выпуск у эфір яе выступу. А. Камбалава, якая балатавалася па Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акрузе № 5, свой зварот да выбарцаў прысвяціла праблеме палітвязняў і пералічыла іх прозвішчы. Кандыдатка таксама заклікала грамадзян не галасаваць датэрмінова і да актыўнага байкоту.

**28 жніўня** па гомельскім тэлебачанні не паказалі зварот да выбарцаў актывіста АГП Васіля Палякова, які балатаваўся па Гомельскай-Савецкай акрузе №34. Запісы выступаў іншых кандыдатаў у дэпутаты прагучалі. У 19.25 замест выступу апазіцыянера гледачам распавялі пра прадпрыемства "Гомельскія цеплавыя сеткі".

**29 жніўня** выступ Васіля Палякова не прагучаў таксама ў радыёэфіры. У адведзеныя яму 5 хвілін па правадной сетцы круцілі музыку. На думку В. Палякова, яго выступы адцэнзуравалі, паколькі ён заклікаў не хадзіць на выбары.

**29 жніўня** на тэлеканале "Беларусь 2" не паказалі выступ кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акрузе №36, сябра АГП Уладзіміра Няпомняшчых. 27 жніўня спадар Няпомняшчых прыйшоў у студыю мясцовага тэлебачання запісаць свой відэазварот да выбарцаў у футболцы з надпісам "За Беларусь без Лукашэнкі". Намесніца дырэктара тэлерадыёкампаніі Святлана Яўрасава прапанавала кандыдату пераапрануцца, але той адмовіўся. У адказ яна папярэдзіла Уладзіміра Няпомняшчых, што будзе кансультавацца з акруговай камісіяй – пускаць у эфір запісаны відэазварот з такім надпісам на майцы ці не.

**31 жніўня** стала вядома, што ў Магілёўскай вобласці ў тэле- і радыёэфір не прайшлі выступы ўсіх кандыдатаў ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі. У рэгіёне

балатаваліся 5 сябраў партыі. Таксама галоўны рэдактар магілёўскай раённай газеты “Прыдняпроўская ніва” Святлана Дзядушка адмовіла ў публікацыі звароту да выбарцаў кандыдату ў дэпутаты ад АГП Аляксандру Шаўцову. У сваім афіцыйным адказе С. Дзядушка заявіла, што праграма кандыдата не адпавядае Выбарчаму кодэксу.

**3 верасня** тэлеканал "Беларусь 2" адмяніў запіс дэбатаў кандыдатаў у дэпутаты - лідара Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі з кандыдатам у дэпутаты і дзейным дэпутатам Мікалаем Самасейкам. “З-за паломкі абсталявання”, - паведамілі раніцай па тэлефоне Анатолю Лябедзьку. На думку палітыка, запіс не адбыўся з-за цэнзурных, а не тэхнічных прычын.

**4 верасня** намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Марат Маркаў заявіў, што запісы дэбатаў не адмененыя, а перанесеныя па прычыне “тэхнічнай прафілактыкі”.

**5 верасня** кандыдат у дэпутаты ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі, кінарэжысёр Юрый Хашчавацкі атрымаў адмову ў публікацыі сваёй перадвыбарчай праграмы ў дзяржаўных газетах "Звязда" і “Рэспубліка”.

“Ёсць рашэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі, якая зацвердзіла рашэнне Назіральнага савета па выкарыстанні СМІ падчас падрыхтоўкі і правядзення выбараў. У ім дакладна вызначана: байкот не забаронены, але для гэтага не прадастаўляецца бясплатны час на тэлебачанні і радыё, і бясплатныя плошчы ў газетах”, - пракаментаваў адмову сакратар ЦВК Мікалай Лазавік.

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі (адмовы ў прадстаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі)

**3 студзеня** кіраўніцтва сацыяльна-педагагічнага цэнтра з дзіцячым прытулкам Лунінецкага раёна адмовілася супрацоўнічаць з недзяржаўнай мясцовай газетай “Информ-прогулка”. Дагэтуль штогод журналісты выдання напярэдадні Калядаў праводзілі дабрачынныя акцыі для выхаванцаў цэнтра. Але на гэты раз дырэктарка установы Наталля Ціхая ад супрацоўніцтва адмовілася. Яна патлумачыла, што супрацоўнічаць з незалежнай газетай і даваць якую-небудзь інфармацыю ёй забаронена. Кім забаронена – паведаміць адмовілася.

**6 студзеня** стала вядома, што рэзка пагоршыліся ўмовы доступу да інфармацыі журналістаў незалежнай рэгіянальнай газеты “Intex-press”. У прыватнасці, на 2012 год для ўдзелу ў пасяджэннях Баранавіцкага гарвыканкама акрэдытаваны толькі адзін чалавек ад выдання – галоўны рэдактар Уладзімір Янукевіч. У мінулыя гады такога абмежавання не існавала.

Таксама ў выдання нечакана ўзніклі складанасці ў супрацоўніцтве з Баранавіцкім гарадскім аддзелам унутраных спраў. Карэспандэнтку “IP” Наталлю Семяновіч 6 студзеня паінфармавалі, што міліцыя больш не будзе даваць інфармацыі незалежнаму выданню. Неафіцыйна журналістцы сказалі, што на спыненні супрацоўніцтва гарадскога аддзела ўнутраных спраў з газетай настойваў Баранавіцкі гарвыканкам.

**24 студзеня** ў Мінскім гарадскім судзе фотарэпарцёрам забаранілі рабіць здымкі падчас разгляду касацыйнай скаргі па крымінальнай справе праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

**25 студзеня** стала вядома, што чыноўнікаў Лунінецкага райвыканкама адмысловым дакументам абавязалі па графіку выступаць у дзяржаўных рэгіянальных СМІ. Згодна з "Праграмай узаемадзеяння і інфармацыйнага супрацоўніцтва райвыканкама з рэдакцыяй газеты “Лунінецкія навіны”, мясцовым радыёвяшчаннем на 2012 год”, кожны кіраўнік, пачынаючы са старшыні райвыканкама, павінен друкавацца ў розных рубрыках “раёнкі” ў вызначаныя тэрміны. Дакумент узгоднены з галоўным рэдактарам “Лунінецкіх навін” Таццянай Вайцяхоўскай і зацверджаны намеснікам старшыні райвыканкама Віктарам Рафаловічам.

Між тым, прадстаўляць інфармацыю ў недзяржаўнае мясцовае выданне “Информ-прогулка” раённым чыноўнікам забаронена.

**30 студзеня** ў зале суда Цэнтральнага раёна г. Мінска, дзе разглядалася адміністратыўная справа кіраўніка праваабарончага цэнтра "Прававая дапамога насельніцтву" Алега Воўчака, на аператара тэлеканала "Белсат" накінуўся невядомы чалавек у штацкім. Яму не спадабалася, што журналісты незалежнага тэлеканала перад пачаткам судовага пасяджэння бралі інтэрв'ю ў Воўчака. Незнаёмец груба схапіў аператара за руку і паспрабаваў выхапіць камеру. Праваабаронцу судзілі па абвінавачанні ў тым, што ён нецэнзурна лаяўся і размахваў рукамі.

Суддзя Аляксандр Якунчыхін забараніў аўдыёзапіс у зале суда. Журналістку з дыктафонам вывелі з залы, а астатніх папярэдзілі аб адказнасці за непавагу суду, у выпадку, калі будзе весціся запіс.

**1 лютага** стала вядома, што беларускім адвакатам рэкамендавана ўзгадняць інтэрв’ю, якія яны даюць журналістам, з кіраўніцтвам сваіх юрыдычных кансультацый. Гэта вынікае з ліста старшыні Рэспубліканскай калегіі адвакатаў (РКА) Віктара Чайчыца ва ўсе абласныя і Мінскую гарадскую калегіі адвакатаў. Кіраўнікі калегій, у сваю чаргу, абавязаныя вывучаць інтэрв’ю, якія ўжо выйшлі, і накіроўваць інфармацыю пра іх у РКА па электроннай пошце.

Рэкамендацыі тлумачацца тым, што “часта ў СМІ, часцей электронных, з’яўляюцца інтэрв’ю асобных адвакатаў са скажонай, у тым ліку па віне журналістаў, інфармацыяй”, - паведамляецца ў лісце за подпісам В. Чайчыца.

На думку старшыні юрыдычнай камісіі РПГА “Беларускі Хельсінскі камітэт” Гары Паганяйлы, такія рэкамендацыі супярэчаць гарантаванай Канстытуцыяй свабодзе слова. Фігура адваката і яго праца з’яўляюцца публічнымі, таму абмяжоўваць яго ў падаванні інфармацыі могуць толькі “правілы прафесійнай этыкі і закон”, - упэўнены юрыст.

**9 лютага** начальнік спецыяльнага аддзела Магілёўскай папраўчай калоніі №15 Людміла Гуркова адмовілася паведаміць журналістам пра вынікі разгляду справы Змітра Бандарэнкі. У прыёмным пакоі начальніка калоніі Сяргея Маханькова карэспандэнта недзяржаўнага інфармагенцтва БелаПАН не злучылі з кіраўніцтвам. Пытанні такога кшталту варта падаваць у пісьмовым выглядзе і звяртацца ў дзень прыёму грамадзян, - паведамілі ў прыёмным пакоі.

**10 лютага** генеральны дырэктар КУМПП «Брэсцкая гарадская жыллёва-камунальная гаспадарка» Уладзімір Аутка паабяцаў прыцягнуць карэспандэнта “Брэсцкай газеты” Станіслава Коршунава да судовай адказнасці, калі будзе надрукавана яго інтэрв’ю.

Журналіст паспрабаваў атрымаць каментар у кіраўніка брэсцкай жыллёва-камунальнай гаспадаркі наконт таго, наколькі падвысіцца аплата за ацяпленне ў сувязі з маразамі. Уладзімір Аутка спачатку паведаміў, што пакуль “гэтыя лічбы не пралічваў ніхто”. Але калі журналіст збіраўся задаць наступнае пытанне, датычнае лічыльнікаў

цяпла, гендырэктар заўважыў, што ён адказвае, “не даючы згоды на нейкае інтэрв'ю”. “У першую чаргу вы павінны былі спытаць як карэспандэнт, ці згодны я на інтэрв'ю. Дык вось, на інтэрв'ю я не згодны. Я проста вам адказаў на ваша пытанне. Я ніякіх каментароў да гэтага афіцыйна не даю», - заявіў Аутка. На пытанне, што будзе, калі журналіст не прыслухаецца да гэтай “парады”, чыноўнік адказаў: “Калі вы надрукуеце, што я даў інтэрв'ю, будзем разбірацца праз суд".

**16 лютага** ў Гродне незалежную журналістку Таццяну Бублікаву супрацоўнікі аховы выдалілі з залы Гродзенскага раённага суда, дзе слухалася крымінальная справа былога міліцыянта Дзінаса Лінкуса, якога звінавачвалі ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў. Журналістка яшчэ да пачатку слуханняў зрабіла некалькі здымкаў у зале суда на свой мабільны тэлефон. Пасля гэтага ахоўнікі запатрабавалі, каб яна пакінула памяшканне. Аргументы Таццяны Бублікавай наконт таго, што забараніць здымаць можа толькі суддзя і толькі пасля пачатку працэсу, не падзейнічалі.

Юрысты ГА “БАЖ” нагадваюць, што паводле Крымінальна-працэсуальнага Кодэкса РБ (п. 6 арт. 287 - «Забеспячэнне галоснасці судовага працэсу»), «прысутныя на адкрытым судовым пасяджэнні маюць права весці пісьмовы і магнітафонны запісы». Дазвол асобы, якая старшынюе ў судовым пасяджэнні, сапраўды патрабуецца на фота-, кіна- і відэаздымкі, але ўсё гэта – пасля пачатку працэсу.

**17 лютага** старшыня Брэсцкага гарвыканкама Аляксандр Палышэнкаў спрабаваў выдаліць фотакарэспандэнтку Мілану Харытонаву з паседжання горадабудаўнічай Рады, што ладзілася ў выканкаме. Журналістка на замову рэдакцыі газеты “Брестский курьер” прыйшла, каб зрабіць некалькі фотаздымкаў. Праз некаторы час пасля пачатку мерапрыемства А. Палышэнкаў пачаў высвятляць, якое выданне прадстаўляе фотакарэспандэнка, і заявіў, што ў М. Харытонавай няма акрэдытацыі, каб прысутнічаць на гэтым пасяджэнні. На пытанне журналісткі, ці праводзілася адмысловая акрэдытацыя на дадзенае паседжанне, чыноўнік заявіў, што такая акрэдытацыя патрэбная на ўсе мерапрыемствы, што ладзяцца ў гарвыканкаме, і, маўляў, “без яе нельга на іх прысутнічаць”. Калі гэтыя словы выклікалі ўсмешку ў некаторых прысутных журналістаў, Аляксандр Палышэнкаў прапанаваў ім таксама пакінуць залу. Зразумеўшы, што самастойна фотакарэспандэнтка з памяшкання не пойдзе, старшыня Брэсцкага гарвыканкама праз некалькі хвілін працягнуў паседжанне.

**21 лютага** супрацоўнікі міліцыі прымусілі траіх журналістаў недзяржаўных СМІ пакінуць вёску Нязнанава Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці, дзе па непацверджанай афіцыйна інфармацыі была выяўленая афрыканская чума свіней. Карэспандэнт інтэрнэт-газеты “Салідарнасць” Сяргей Балай і карэспандэнты газеты “Обозреватель” Аляксей Мацюшкоў і Дзмітрый Корсак спрабавалі высветліць прычыны прымусовага знішчэння ўсяго пагалоўя свіней у гэтым населеным пункце. Але ў хуткім часе пасля іх прыезду ў вёску, там з’явіліся супрацоўнікі Навагрудскага РАУС. Два міліцыянты ў чыне падпалкоўнікаў заявілі, што на тэрыторыі, дзе праводзяцца "ветэрынарныя вучэнні", журналістам знаходзіцца нельга. У выпадку непадпарадкавання ім прыгразілі даставіць у пастарунак “для высвятлення абставін”. Таксама міліцыянты ў катэгарычнай форме запатрабавалі выдаліць усе фотаздымкі, на якіх прысутнічалі.

**22 лютага** ў Гомелі карэспандэнтку недзяржаўнага інфармагенцтва БелаПАН Алену Германовіч не дапусцілі на афіцыйны семінар па ўзаемадзеянні ўлады і бізнесу. Супрацоўніца аддзела ідэалогіі аблвыканкама Вольга Рабікава запатрабавала ад журналісткі пакінуць памяшканне. Фармальная падстава – адсутнасць акрэдытацыі на мерапрыемства. Паводле Алены Германовіч, дзяржаўных журналістаў з тэлеканалаў СТБ, ОНТ і газеты “Гомельская праўда” ніхто не чапаў, яны спакойна запісвалі каментары ўдзельнікаў.

У семінары прымалі ўдзел старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон, старшыня аблвыканкама Уладзімір Дворнік, генеральны пракурор Аляксандр Канюк.

**22 лютага** ахоўнікі суда Першамайскага раёна Віцебска не дапусцілі журналістаў прысутнічаць на працэсе грамадскага актывіста Сяргея Каваленкі. Алену Сцяпанаву (незалежная журналістка), Валера Каліноўскага (Радыё "Свабода"), відэаапаратара Багдана Арлова, Сяргея Серабро (рэдактар сайта "Народныя навіны Віцебску") міліцыянты спынілі на ўваходзе ў залу суда і заявілі, што ў суд нельга праходзіць "з любой тэхнікай". У Алены Сцяпанавай быў пры сабе толькі дыктафон, у Валера Каліноўскага – камп'ютар. Сп. Каліноўскі паскардзіўся на дзеянні ахоўнікаў старшыню Першамайскага райсуда Уладзіміру Бяссмертнаму, але той заявіў, што "не мае права аддаваць міліцыі загады". Таксама ў журналістаў, якія зафіксавалі на фота і відэа канфлікт паміж міліцыянтамі і сваякамі Каваленкі да пачатку суда, запатрабавалі сцерці запісы. У прыватнасці, у Багдана Арлова.

Між тым, паводле Крымінальна-працэсуальнага кодэкса (п. 6 арт. 287 - «Забеспячэнне галоснасці судовага працэсу»), «прысутныя на адкрытым судовым пасяджэнні маюць права весці пісьмовы і магнітафонны запісы». Дазвол асобы, якая старшынюе ў судовым пасяджэнні, патрабуецца на фота-, кіна- і відэаздымкі, але ўсё гэта – пасля пачатку працэсу. Пра "прэвентыўны" нядопуск журналістаў на слуханні, абвешчаныя адкрытымі, гаворкі наогул не вядзецца.

**23 лютага** супрацоўнікі міліцыі таксама не пусцілі журналістаў незалежных СМІ ў суд над Сяргеем Каваленкам і груба перашкаджалі ім працаваць. Журналістам нават не дазволілі знаходзіцца і ў калідоры памяшкання суда. Алену Сцяпанаву трое спецназаўцаў груба выштурхнулі на вуліцу. Карэспандэнту Радыё "Свабода" Валеру Каліноўскаму не давалі здымаць нават перад будынкам суда – білі па руках, захіналі аб'ектыў фотаапарата. Пасля пачатку слуханняў журналістам паведамілі, што суддзя Алена Жук адхіліла хадайніцтва С. Каваленкі пра допуск на працэс прадстаўнікоў СМІ. Як высветлілася пазней, сярод прысутных у зале былі загадзя запрошаныя журналісты мясцовых дзяржаўных выданняў - у прыватнасці, газеты "Віцебскі рабочы".

**24 лютага** - на чацвёрты дзень суда над Сяргеем Каваленкам - журналістаў недзяржаўных СМІ ізноў не пусцілі ў залу пасяджэнняў, спаслаўшыся на адсутнасць вольных месцаў. На працэс не змаглі трапіць журналісты Радыё "Свабода", газеты "Витебский курьер", інтэрнэт-рэсурса "Народныя Навіны Віцебску", карэспандэнты Польскага грамадскага радыё і інфармацыйнага агенцтва PAP. Карэспандэнт Радыё "Свабода" Валер Каліноўскі пакінуў скаргу на дзеянні міліцыі ў кнізе водгукаў і прапаноў Першамайскага райсуда Віцебска.

**1 сакавіка** карэспандэнтцы баранавіцкай недзяржаўнай газеты "Intex-press" Наталлі Саламянка адмовіліся даць інфармацыю ў мясцовым аддзеле ЗАГС. Журналістка хацела даведацца пра колькасць зарэгістраваных у горадзе шлюбаў. У адказ на пытанне Н. Саламянкі начальніца аддзела ЗАГС Баранавіцкага гарвыканкама Святлана Валынец заявіла, што гэтыя звесткі паведамяць на наступны дзень на пасяджэнні гарвыканкама. 5 сакавіка чыноўніца зноў адмовілася падаць журналістцы па тэлефоне дадзеныя, на гэты раз параіўшы звярнуцца па неабходную інфармацыю да дзяржаўнай газеты "Наш край".

У выніку рэдакцыя "ІР" накіравала пісьмовы запыт у аддзел ЗАГС і заяву пра садзейнічанне ў атрыманні інфармацыі ад гэтай інстанцыі ў пракуратуру. У афіцыйным адказе начальніца ЗАГС С. Валынец заявіла, што аддзел ЗАГС "не валодае паўнамоцтвамі па распаўсюдзе статыстычнай інфармацыі, якая тычыцца колькасці зарэгістраваных шлюбаў у г. Баранавічы". Пры гэтым спаслалася не на нарматыўны акт, які забараняе ЗАГС распаўсюджваць такую інфармацыю, а на Указ Прэзідэнта РБ

ад 26.08.2008 г. №445, які надзяляе функцыямі збору, апрацоўкі і г.д. зводных статыстычных дадзеных органы дзяржаўнай статыстыкі.

**2 сакавіка** ў Мінску журналістам абмежавалі доступ на пасяджэнне аргкамітэта па правядзенні мерапрыемстваў з нагоды юбілеяў беларускіх паэтаў-класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Літаральна за паўгадзіны да пачатку мерапрыемства стала вядома, што яго вырашылі зрабіць закрытым для шырокага кола СМІ. Прэс-сакратар Міністэрства культуры Ганна Смольская не змагла патлумачыць прычыны такога рашэння, адзначыўшы, што для асвятлення запрошаны "толькі адзін тэлеканал". У мерапрыемстве пад старшынствам віцэ-прэм'ера Анатоля Тозіка прымалі ўдзел чыноўнікі з Мінкульта, МЗС, Мінінфарма, Мінадукацыі і інш.

**6 сакавіка** стала вядома, што галоўны ўрач Цэнтральнай дзіцячай гарадской бальніцы г. Баранавічы Эльміра Багдановіч адмовіла ў інфармацыі недзяржаўнай газеце "Intex-press". На просьбу журналіста выдання паведаміць дадзеныя пра тое, як змянілася колькасць дзяцей з дрэнным зрокам за апошнія гады, урач параіла звярнуцца ў ідэалагічны аддзел гарвыканкама.

**13 сакавіка** стала вядома, што журналісту Беларускай службы Радыё "Свабода" Сяргею Шупе, які жыве і працуе ў Празе, не далі беларускую візу. У беларускай амбасадзе ў Чэхіі журналіст атрымаў свой пашпарт з пазнакай "адмоўлена". Планавалася, што Сяргей Шупа будзе весці ў Мінску прэзентацыю рамана Альгерда Бахарэвіча "Шабаны. Гісторыя аднаго знікнення".

**22 сакавіка** БФСТ "Дынама" – заснавальнік хакейнага клуба "Дынама-Мінск" – адмовіў у акрэдытацыі на прэс-канферэнцыю журналістам недзяржаўнай спартыўнай газеты "Прессбол". У рэдакцыі "Прессбола" мяркуюць, што кіраўніцтва клуба перасцерагаецца, такім чынам, ад "няправільных" пытанняў.

**4 красавіка** пазаштатнаму карэспандэнту недзяржаўнай газеты «Бобруйский курьер» Вользе Асокінай адмовіліся даць інфармацыю ў Бабруйскім краязнаўчым музеі. Журналістка хацела ўдакладніць звесткі пра выставу, што праходзіла ў фае музея і прысвячалася «візітнай картцы» Бабруйска – знакамітай крэпасці напалеонаўскіх часоў. Супрацоўніца музея паведаміла, што іх установе загадана не даваць «Бобруйскому курьеру» ніякай інфармацыі і параіла звярнуцца з гэтай нагоды ў аддзел ідэалагічнай работы Бабруйскага гарвыканкама.

**13 красавіка** пазаштатнаму карэспандэнту "Бобруйского курьера" Вользе Асокінай адмовілі ў інфармацыі ў гарадскім Дзіцяча-юнацкім цэнтры падарожжаў і краязнаўства "Бабраня". Журналістка спрабавала ўдакладніць інфармацыю пра вынікі праведзенай там навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай Бабруйску і яго "крэпасці на Бярэзіне". Метадыст Цэнтра адмовіўся даць такую інфармацыю, спаслаўшыся на негалосную забарону. Ён растлумачыў, што работнікам цэнтра прадпісалі даваць інфармацыю пра канферэнцыю толькі для сайта Бабруйскага гарвыканкама.

**13 красавіка** стала вядома, што недзяржаўнай баранавіцкай газеце "Intex-press" у чарговы раз адмовілі ў інфармацыі. Выданне не змагло атрымаць афіцыйнага каментару на пытанне, ўзнятае гараджанамі. Чытачы газеты паскардзіліся ў рэдакцыю з нагоды нерацыянальнага, на іх думку, пераразмеркавання тэрыторый абслугоўвання жыхароў горада той ці іншай паліклінікай.

З просьбай патлумачыць, па якім прынцыпе праводзілася замацаванне жыхароў за ўстановамі аховы здароўя і г.д., журналісты "Intex-press" звярнуліся ў аддзел ідэалогіі Баранавіцкага гарвыканкама, а таксама ў Баранавіцкую цэнтральную паліклініку. Аддзел ідэалогіі гарвыканкама адказаў, што не валодае такой інфармацыяй. А галоўны

ўрач Баранавіцкай цэнтральнай паліклінікі Аляксандр Стэцко паведаміў "IР", што «інфармацыя па закранутых пытаннях адлюстраваная ў дзяржаўнай прэсе».

**18 красавіка** ў Віцебскі абласны суд (суддзя Святлана Іванова) не дапусцілі незалежных журналістаў, якія прыйшлі асвятляць разгляд касацыйных скаргаў сябраў БАЖ Аляксандра Атрошчанкава і Валерыя Шчукіна, абвінавачваных у хуліганстве. Журналістам было заяўлена, што вольных месцаў няма. Судовыя залы запоўнілі супрацоўнікамі міліцыі ў форме і ў цывільным.

Нагадаем, уначы на **28 сакавіка** ў Оршы разам з іншымі палітыкамі Аляксандра Атрошчанкава знялі з цягніка Мінск — Масква. Мытнікі заявілі, што падазраюць іх у транспартыроўцы наркотыкаў. Назаўтра Аршанскі гарадскі суд абвінаваціў затрыманых у хуліганстве і аштрафаваў на 350 тысяч рублёў.

Валерыя Шчукіна **30 сакавіка** аштрафавалі за хуліганства і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі ў часе працэсу па справе затрыманых палітыкаў. (На знак пратэсту супраць таго, што працэс практычна зрабілі закрытым, спадар Шчукін заблакаваў праход на трэці паверх суда, сеўшы ў дзвярах.)

**27 красавіка** стала вядома, што пракурор Крычаўскага раёна Уладзімір Трывайла адмаўляецца даваць інфармацыю недзяржаўнай маланакладнай газеце "Вольны горад". Журналісты выдання некалькі разоў звярталіся да пракурора з просьбай распавесці пра сітуацыю, якая склалася ў раёне па выніках 2011 года па пытаннях барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю, аднак адказу на свае запыты так і не атрымалі.

**5 траўня** стала вядома, што карэспандэнту мінскага офіса "Еўрапейскага радыё для Беларусі" Змітру Лукашуку адмовіліся даць інфармацыю ў Міністэрстве ўнутраных спраў і прэс-службе Савета Міністраў. Рыхтуючы матэрыял пра недахоп у беларускай міліцыі супрацоўнікаў, журналіст звярнуўся з пісьмовым запытам у галоўнае ўпраўленне кадраў МУС. Праз тыдзень першы намеснік начальніка ўпраўлення Алег Кручынскі адказаў, што такія звесткі "абмежаваныя для распаўсюду".

У прэс-сакратаркі Савета Міністраў Вольгі Доўгай журналіст хацеў даведацца пра прычыны павелічэння платы ў 4 разы за пасведчанне кіроўцы, якое было ініцыяванае Саўмінам. На пісьмовы зварот В. Доўгая адказала адпіскай, што ўся запатрабаваная інфармацыя бліжэйшым часам з'явіцца на сайце МУС.

**7 траўня** гродзенскі журналіст "Радыё Рацыя" Віктар Парфёненка атрымаў чарговую адмову ў акрэдытацыі ад Міністэрства замежных спраў Беларусі. За два месяцы да гэтага журналіст накіраваў ужо чацвёртую па ліку заяўку на акрэдытацыю ва ўпраўленне інфармацыі МЗС. Прыкладна праз месяц пасля падачы па тэлефоне яму паведамілі, што рашэнне яшчэ не прынятае. А зараз на тэлефанаванне В. Парфёненкі ў прэс-службу, адказалі, што ў акрэдытацыі адмоўлена паводле 1 і 4 пунктаў у Парадку акрэдытацыі.

Журналіст абскардзіў адмову ў магчымасці легальна працаваць на тэрыторыі Беларусі. Але Міністэрства замежных спраў не задаволіла скаргу Віктара Парфёненкі. У адказе з МЗС паведамляецца, што такія скаргі не падлягаюць кампетэнцыі міністэрства.

Нагадаем, супрацоўнікі "Радыё Рацыя" неаднойчы рабілі спробы атрымаць акрэдытацыю ў МЗС Беларусі, але да гэтага часу безвынікова.

**1 чэрвеня** ў Віцебску фотакарэспандэнту недзяржаўнага інфармагенцтва БелаПАН і рэдактару сайта "Народныя Навіны Віцебску" Сяргею Серабро кіраўніцтва завода буйнапанэльнага домабудаўніцтва РУП "ДСК" не дазволіла сустрэцца з удзельнікамі страйку на прадпрыемстве ў той дзень.

Журналіста не прапусцілі яшчэ на прахадной завода і выклікалі намесніка генеральнага дырэктара па прамысловай вытворчасці Мікалая Мачыху. Ён пагутарыў з журналістам, але да рабочых, каб пагаварыць пра ўмовы працы і пра тое, ці задаволеныя яны вынікам стыхійнага страйку, так і не прапусціў. Страйкавалі рабочыя з-за таго, што ім не выплацілі своечасова заробак за красавік.

**5 чэрвеня** лідары беларускай апазіцыі не дапусцілі незалежных журналістаў на "круглы стол" па абмеркаванні падрыхтоўкі да парламенцкіх выбараў 2012 года. У пасяджэнні прымалі ўдзел Уладзімір Колас (Рада беларускай інтэлігенцыі), Сяргей Калякін (партыя левых "Справядлівы свет"), Віктар Івашкевіч, Юры Губарэвіч (рух "За Свабоду"), Віталь Рымашэўскі (аргкамітэт па стварэнні партыі БХД). Удзельнікі большасцю галасоў вырашылі выдаліць журналістаў з мерапрыемства. На думку Калякіна, у прысутнасці журналістаў палітыкі стануць выказвацца для прэсы, а не гаварыць тое, што насамрэч думаюць.

Супраць выдалення СМІ выказаліся толькі Рымашэўскі і Лябедзька.

**12 чэрвеня** ў судзе Ленінскага раёна г. Гродна журналістаў не пусцілі на працэс па адміністратыўнай справе святара Мікалая Гайдука, якога вінавацілі ў непадпарадкаванні міліцыі за адмову здаць адбіткі пальцаў. Карэспандэнтам незалежных СМІ забаранілі прысутнічаць на фармальна адкрытым судовым працэсе. Прадстаўнікі грамадскасці і вернікі ў залу суда былі дапушчаныя.

**15 чэрвеня** ў г. Ліда журналістам недзяржаўных СМІ: фатографу інфармагенцтва БелаПАН Аляксандра Саенку і незалежным тэлежурналістам Мікалаю Дзятчэню і Андрэю Фралову не дазволілі зрабіць журналісцкія матэрыялы з цырымоніі развітання з загінуўшым лётчыкам Мікалаем Грыднёвым.

Праз 1,5 гадзіны працы на авіяцыйнай базе да журналістаў падышлі вайскоўцы часткі і пацікавіліся, хто яны і ці маюць дазвол рабіць фота і відэаздымкі. Праўдзіўшы пасведчанне фатографа, адзін з вайскоўцаў загадаў Аляксандру Саенку выдаліць з фотаапарата ўсе кадры пахавальных урачыстасцяў. Затым вайсковец узяў у рукі фотаапарат сам, што ён націскаў, фатограф не бачыў. З відэакамерай Міколы Дзятчэні і Андрэя Фралова было зроблена тое самае. Журналістаў забралі ў аддзяленне міліцыі, дзе пратрымалі больш за 2 гадзіны і адпусцілі без складання пратакола.

**22 чэрвеня** раніцай было немагчыма атрымаць якую-кольвек афіцыйную інфармацыю пра лёс гродзенскага журналіста, карэспандэнта польскай "Gazety Wyborczej" Андрэя Пачобута, затрыманага **21 чэрвеня** ў сваёй кватэры. На запыт супрацоўніка БАЖ па тэлефоне інспектар аддзела сувязі з грамадскасцю цэнтральнага апарата Следчага камітэта Юлія Ганчарова параіла "чакаць афіцыйнага паведамлення, якое найбліжэйшым часам мусіць з'явіцца на стужках дзяржаўных інфармагенцтваў".

Следчы па найважнейшых справах Гродзенскай абласной пракуратуры Арсень Нікольскі, заявіў па тэлефоне, што даваць інфармацыю СМІ не ўпаўнаважаны. І параіў звяртацца па яе ў Следчы камітэт РБ альбо ва Упраўленне ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама.

**26 ліпеня** ў Мінску журналістаў не дапусцілі ў суд Цэнтральнага раёна на разгляд адміністратыўнай справы карэспандэнта "Еўрапейскага радыё для Беларусі" Віталя Ругайна. Слуханні праходзілі ў кабінеце суддзі, прайсці змог толькі адвакат.

Журналіста абвінавачвалі ў парушэнні арт. 17.1 КаАП - нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы. Напярэдадні В. Ругайна ў цэнтры Мінска затрымалі група супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным. (Паколькі сведкі-міліцыянты блыталіся ў паказаннях, суддзя накіравала справу на дапрацоўку, а Віталя вызвалілі ў зале суда.

**27 ліпеня** недзяржаўная газета спартовай тэматыкі “Прессбол” звярнулася ў пракуратуру Цэнтральнага раёна г. Мінска са скаргай на ЗАТ “Хакейны клуб “Дынама-Мінск”. Нагода – неабгрунтаваныя, на думку рэдакцыі, адмовы ў акрэдытацыі журналістаў газеты на прэс-канферэнцыі, спаборніцтвы і іншыя мерапрыемствы клуба. Рэдакцыя “Прессбола” бачыць у дзеяннях спартыўнага клуба парушэнне артыкулаў 7, 35 і 48 “Закона аб СМІ”, а таксама парушэнне Адміністратыўнага і Крымінальнага кодэксаў.

Газета просіць пракуратуру вынесці прадпісанне хакейнаму клубу “Дынама-Мінск” на неадкладнае выпраўленне парушэнне заканадаўства, а таксама вынесці афіцыйнае папярэджанне генеральнаму дырэктару клуба Аляксею Торбіну.

**8 жніўня** амбасадар Беларусі ў Берліне паведаміў, што карэспандэнтцы “Нямецкага радыё” (Deutschlandradio) Гезіне Дорнблют адмоўлена ў акрэдытацыі. Журналістка, якая ад пачатку года працуе ў Маскве, яшчэ ў сакавіку запытала гадавую беларускую візу, але праз некалькі месяцаў беларускае МЗС адхіліла яе запыт без тлумачэння прычын. Гезіна Дорнблют планавала асвятляць ход парламенцкіх выбараў у Беларусі. Амбасадар прапанаваў акрэдытаваць на вераснёўскія выбары іншага карэспандэнта.

Паводле Г. Дорнблют, у 2011 годзе яна наведвала Беларусь і паведамляла "пра напружаную сацыяльную сітуацыю і як вынік — незадаволенасці ў краіне", а таксама давала слова крытыкам ураду. Цалкам магчыма, гэта раззлавала чыноўнікаў, - лічыць журналістка.

**9 жніўня** большасць журналістаў не дапусцілі ў будынак суда Савецкага раёна Мінска на адміністратыўны працэс над фотажурналісткамі Юліяй Дарашкевіч і Ірынай Козлік. Журналісткі былі затрыманыя **8 жніўня** ўвечары ў цэнтры Мінска, калі фатаграфаваліся з цацачным мядзведзем. У момант затрымання Юлія трымала ў руках фотаапарат, а Ірына – плюшавага мядзведзіка з парашутам і надпісам “No Picture - No Troubles?». Журналістак адвезлі ў Савецкае РУУС, дзе склалі адміністратыўныя пратаколы за незаконнае пікетаванне (арт. 23.34 - КаАП). Ноч перад судом дзяўчаты правялі ў ізалятары для правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна.

Суд прайшоў фактычна за зачыненымі дзвярыма. У выніку суддзя Дзмітрый Паўлючэнка прызнаў журналістак вінаватымі ў несанкцыянаваным пікетаванні і пакараў кожную штрафам у 30 базавых велічынь (3 млн. рублей).

**23 жніўня** галоўны інжынер упраўлення капітальнага будаўніцтва г. Баранавічы Уладзімір Весялоў адмовіўся даць інфармацыю карэспандэнту незалежнай газеты “Intex-press”. Юлія Харкевіч цікавілася ў інжынера пра тэмпы і тэрміны будоўлі новага мікрараёна Бараўкі. Не даслухаўшы пытання журналіста, Уладзімір Весялоў заявіў, што “не дае інтэрв’ю недзяржаўным газетам”.

У рэдакцыі “ІР” адзначаюць, што інфармацыя, звязаная з будаўніцтвам у Баранавічах журналістам газеты практычна недаступная. Карэспандэнты неаднаразова звярталіся ў аддзел жыллёва-камунальнай гаспадаркі, а таксама ва ўпраўленне архітэктуры і горадабудаўніцтва, аднак ні інфармацыі, ні каментароў там атрымаць не ўдаецца. Разам з тым чыноўнікі даюць разгорнутыя інтэрв’ю дзяржаўнай раённай газеце.

**18 верасня** баранавіцкай недзяржаўнай газеце “Intex-press” адмовілі ў інтэрв'ю па прафілактыцы зніжэння зроку ў дзяцей. Карэспандэнт выдання Наталля Саламянка звярнулася да намесніцы галоўнага ўрача дзіцячай паліклінікі Людмілы Ляшчыны з прапановай зняць відэасюжэт на тэму папярэджання зніжэння зроку ў дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту. Аднак дазволу на здымкі лекар не дала, заявіўшы, што на мінулым тыдні яны ўжо выступілі па тэлебачанні, запісалі інтэрв'ю на радыё,

далі артыкул у раённую газету. “Таму ваша выданне ўжо ніяк не ўпісваецца ў нашы планы”, – заявіла доктарка.

**19 верасня** карэспандэнту газеты “Intex-press” Юліі Харкевіч не ўдалося атрымаць дадзеных пра тых, хто датэрмінова прагаласаваў у Баранавічах у першы дзень галасавання на парламенцкіх выбарах. Дзяжурныя ў абедзвюх гарадскіх акруговых камісіях адказалі, што не валодаюць інфармацыяй і прапанавалі звярнуцца да старшыняў камісій. Старшыня камісіі Баранавіцкай-Усходняй акругі №6 Тамара Шукала таксама заявіла, што не валодае гэтымі звесткамі і параіла карэспандэнту самой сабраць гэтую інфармацыю па выбарчых участках, якіх у Баранавічах больш за 60. Старшыня другой акруговай камісіі горада – Баранавіцкай-Заходняй акругі №5 Таццяна Латышава не дала ніякай інфармацыі, спаслаўшыся на занятасць.

Між тым, у Брэсцкім аблвыканкаме “Intex-press” запэўнілі, што дадзеныя пра тых, хто датэрмінова прагаласаваў, ёсць у акруговых камісіях. Гэта ж пацвердзіў і прэс-сакратар ЦВК Мікалай Лазавік.

**19 верасня** старшыня суда Фрунзенскага раёна г. Мінска Іосіф Міхонскі забараніў журналістам прысутнічаць на адміністратыўным працэсе над затрыманымі 18 верасня актывістамі моладзевага крыла кампаніі “Гавары праўду” (Zмена). Спачатку, калі журналісты паспрабавалі патрапіць у судовую залу, ім заявілі, што працэс адкрыты, але праходзіць за зачыненымі дзвярыма. Пасля гэтага некалькі карэспандэнтаў засталіся ў будынку і паспрабавалі запісаць хаця б каментар родных абвінавачаных. У адказ на гэта суддзя Міхонскі выклікаў нарад міліцыі і забараніў журналістам праводзіць здымкі і наогул прысутнічаць у будынку суда. На просьбу спаслацца на які-кольвек нарматыўны дакумент Міхонскі заявіў, што гэта яго асабістае рашэнне.

**20 верасня** стала вядома, што шэраг фотарэпарцёраў незалежных выданняў і замежных інфармагенцтваў не атрымалі акрэдытацыю на асвятленне фестывалю «Дажынкі» ў г. Горкі **21-22 верасня**. У прыватнасці, магчымасці працаваць на святце ўраджаю пазбавілі фотакарэспандэнтаў: Сяргея Гудзіліна («Наша Ніва»), Сяргея Грыца (Associated Press), Таццяну Зяньковіч (EPA), Віктара Драчова (AFP).

Нагадаем, год таму на «Дажынках» у Маладзечне забаранілі ўваход на тэрыторыю гулянняў з фота- і відэаапаратурай з аб’ектывам звыш 4 см. Гэта было патрабаванне службы бяспекі прэзідэнта. Працаваць на святце змаглі толькі акрэдытаваныя пры адміністрацыі Лукашэнкі здымачныя групы і фотарэпарцёры.

**21 верасня** ў Мінску з участка №350 Фрунзенскай выбарчай акругі міліцыя выдаліла фотакарэспандэнта газеты “Новы час”, нягледзячы на наяўнасць у яго службовага пасведчання. Такое распараджэнне зрабіў старшыня камісіі Анатоль Касцяневіч.

Ён заявіў, што зробленых фотаздымкаў для рэпартажу дастаткова, і забараніў здымаць участак без ягонага асабістага дазволу. Але журналіст працягнуў выконваць сваю працу. Пасля кансультацый па тэлефоне А. Касцяневіч загадаў міліцыі выдаліць журналіста.

**20 верасня** ў Брэсце сябры ўчастковай камісіі №44 у Брэсцкай-Заходняй акрузе №1 Валянціна Тараданава і Вольга Тараданава перашкаджалі фотакарэспандэнтцы недзяржаўнай газеты “Брестский курьер” Мілане Харытонавай выконваць прафесійныя абавязкі, прадугледжаныя арт. 13 Выбарчага кодэкса. Паводле Харытонавай, яна адразу паказала сябрам камісіі сваё пасведчанне, адкуль яны перапісалі дадзеныя, а пасля пачала рабіць здымкі на выбарчым участку. Але, калі журналістка запыталася ў аднаго з выбаршчыкаў (ён ужо кінуў бюлетэнь і накіраваўся да выхаду), чаму ён галасаваў датэрмінова, жанчыны пачалі абурацца і казаць, што журналістка не мае права задаваць

пытанні. Маўляў, у пасведчанні напісана, што – фотакарэспандэнт, а таму нельга задаваць пытанні і рабіць відэазапіс, а можна толькі фатаграфаваць.

З гэтай нагоды Мілана Харытонава звярнулася са скаргай у акруговы выбаркам. У сваю чаргу, сябры камісіі таксама паскардзіліся на журналістку. З тэксту іх заявы вынікае, што ў першы дзень датэрміновага галасавання на ўчастку журналістка нібыта “непасрэдна каля выбарчай урны пачала ладзіць апытанне выбаршчыкаў, што прагаласавалі, і тым самым перашкаджала іншым выбаршчыкам прайсці ў памяшканне для галасавання”.

**21 верасня** беларуская амбасада ў Маскве адмовіла ў візах здымачнай групе шведскага тэлебачання TV4 журналісту Стэфану Боргу і аператару, што працуе з ім. Паводле Стэфана Борга, запыты ў МЗС на акрэдытацыю для працы падчас беларускіх парламенцкіх выбараў яны зрабілі яшчэ ў сярэдзіне жніўня, але дазвол атрымалі толькі праз месяц. Адразу звярнуліся ў беларускую амбасаду, дзе ў іх прынялі дакументы і ўзялі грашовы збор за візы.

Раніцай **21 верасня** шведскім журналістам вярнулі пашпарты, замест візы ім паставілі штамп “Адмоўлена”. Стэфан Борг адзначае, што вяшчанне тэлеканала TV4 не мае пэўнай палітычнай афарбоўкі, і ніякія сюжэты з негатыўнай ацэнкай сітуацыі ў Беларусі там не выходзілі.

**21 верасня** ў ноч на 22-е шведскіх журналістаў Эрыка Ван Платэна (Erik Von Platen) і Густава Андрэсана (Gustaff Andresson) 16 гадзін пратрымалі ў нацыянальным аэрапорце «Мінск-2». Ім адмаўляліся выдаць візы.

Яшчэ падчас знаходжання ў Швецыі журналісты падалі заяўкі на акрэдытацыю ў МЗС Беларусі. Прыляцеўшы ў Мінск, яны патэлефанавалі прадстаўніку беларускага МЗС, той паведаміў, што акрэдытацыі ім будуць дастаўленыя ў аэрапорт 22 верасня а 10 гадзіне, а пасля ім адкрыюць візы.

Але раніцай **22 верасня** акрэдытацыі не былі дастаўленыя, а прадстаўнік «Белавія» сказаў, што журналістам адмоўлена ў візах і прапанаваў вярнуцца ў Швецыю. У выніку шведы ўсё ж атрымалі экспрэс-візы і прэс-карту, паколькі былі афіцыйна акрэдытаваныя на асвятленне выбараў.

**22 верасня** ў г. Крычаў падчас датэрміновага галасавання старшыня выбарчай камісіі Сожнеўскага ўчастку для галасавання №33 па Крычаўскай выбарчай акрузе Вольга Юрэнкова забараніла фатаграфаваць на ўчастку рэдактару недзяржаўнай маланакладнай газеты “Вольны горад” Сяргею Няроўнаму.

**23 верасня** ў Мінску старшыня ўчастковай выбарчай камісіі №752 Вольга Смірнова выдаліла журналіста газеты "Новы час" Мікіту Броўку з памяшкання для галасавання. Журналіст вёў здымкі на выбарчым участку пасля яго закрыцця і планаваў зафіксаваць на відэа працэс падліку галасоў. Нягледзячы на тое, што журналіст ужо быў запісаны ў адпаведны журнал уліку прадстаўнікоў СМІ, напрыканцы дня парламенцкіх выбараў Вольга Смірнова не хацела пускаць яго ў памяшканне для галасавання. Яна спасылалася на нейкае «рашэнне акруговай камісіі», згодна з якім прысутнасць на ўчастках пазаштатных карэспандэнтаў СМІ не дазваляецца.

Нагадаем, паводле арт. 13 Выбарчага кодэкса, прадстаўнікі СМІ маюць права прысутнічаць у памяшканнях для галасавання. Весці відэаздымкі журналістам дазваляе закон «Аб СМІ». Такім чынам, старшыня ўчастковай камісіі непасрэдна парушыла выбарчае заканадаўства і прафесійныя правы журналіста.

**18 кастрычніка** карэспандэнту мінскай рэдакцыі “Еўрапейскага радыё для Беларусі” Змітру Лукашуку адмовілі ў акрэдытацыі на першае паседжанне Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу новага склікання. Запыт на акрэдытацыю

рэдакцыя накіравала своечасова. Аднак, як паведаміў начальнік упраўлення інфармацыйна-аналітычнай работы Палаты прадстаўнікоў НС Мікалай Ліс, у допуску журналіста ў будынак адмовіла Служба бяспекі прэзідэнта.

**25 кастрычніка** дзяржаўная “Народная газета” паведаміла, што намесніку старшыні Дзятлаўскага райвыканкама Аляксандру Ляннаму аб’явілі вымову за тое, што ён адмовіўся сустракацца з журналістам газеты. Як вынікае з публікацыі, карэспандэнт Алена Сямёнава скіравалася ў рэгіён разабрацца са скаргай жыхароў інтэрната, якіх збіраюцца высяляць. Напярэдадні паездкі яна атрымала ад А. Ляннага, які курыруе жыллёвую сферу, папярэднюю згоду на сустрэчу. Аднак, калі журналістка прыехала, ён перадумаў і прапанаваў ёй даслаць пісьмовы запыт. Пасля гэтага “Народная газета” паскардзілася старшыню Гродзенскага аблвыканкама Сямёну Шапіру, і раённаму чыноўніку вынеслі вымову.

Нагадаем, што журналісты недзяржаўных СМІ, якія цалкам падзяляюць абурэнне калегі з дзяржаўнага СМІ, рэгулярна сутыкаюцца не толькі з адмовамі ў сустрэчах з афіцыйнымі асобамі, але і ў прадастаўленні элементарнай інфармацыі з афіцыйных крыніц – аж да ЗАГСаў.

**25 кастрычніка** стала вядома, што фотакарэспандэнт недзяржаўнай газеты "Брестский курьер" Мілана Харытонава так і не атрымала афіцыйнага адказу на сваю заяву, дасланую кіраўніцтву Брэсцкай-Заходняй выбарчай акругі №1. Яшчэ 20 верасня журналістка паскардзілася на дзеянні прадстаўнікоў камісіі выбарчага ўчастку №44, якія падчас датэрміновага галасавання перашкодзілі ёй выконваць прафесійныя абавязкі.

Нагадаем, М. Харытонава скардзілася, што сябры камісіі Валянціна Тараданава і Вольга Тараданава забаранілі ёй запісваць інтэрв'ю з адным з выбарцаў. Яны заявілі, што нібыта фатограф мусіць займацца толькі здымкамі і ні ў якім разе не запісваць людзей на дыктафон.

Даць прававую ацэнку дзеянням старшыні акруговай камісіі журналістка у выніку запатрабавала ў брэсцкай пракуратуры.

**31 кастрычніка** ў судзе Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы журналістам забаранілі прысутнічаць на працэсе па рэзанансным дарожна-транспартным здарэнні, у якім загінулі людзі. Па просьбе абвінавачванага і яго адваката, суддзя Станіслаў Півавар прымусіў журналістаў пакінуць залу. «Мой падабаронны будзе хвалявацца. Гэта яму не патрэбна», – растлумачыла суду адвакат абвінавачванага.

Юрыст БАЖ Андрэй Бастунец лічыць, што суддзя парушыў гарантаваныя правы журналістаў. На думку юрыста, суд мог альбо забараніць прадстаўнікам СМІ выкарыстоўваць аўдыё і відэатэхніку, альбо абвясціць пасяджэнне закрытым, хоць зрабіць гэта таксама можна толькі пры вызначаных акалічнасцях. Напрыклад, калі матэрыялы справы датычаць асабістага жыцця кагосьці з удзельнікаў.

**12 лістапада** карэспандэнцкаму пункту “Еўрапейскага радыё для Беларусі” працягнулі акрэдытацыю ў Беларусі на 1 год - да 10 лістапада 2013 года. Адпаведную пастанову падпісаў першы намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Сямашка.

Нагадаем, “Еўрарадыё” існуе ад 2005 года, вяшчанне распачалося з лютага 2006-га. Афіцыйны дазвол на працу ў Беларусі радыёстанцыя атрымала ў лістападзе 2009 года. Паводле пастановы, дазвол быў на акрэдытацыю 10 журналістаў.

**21 лістапада** стала вядома, што беларускае консульства ў Беластоку (Польшча) адмовіла ў выдачы візы Яўгену Вапу, старшыню Управы “Радыё Рацыя”, лідару Беларускага саюза ў Польшчы. Нагадаем, што ў траўні 2011 года супрацоўнікі

беларускай памежнай службы анулявалі Яўгену Вапу дзейную беларускую візу і не пусцілі на тэрыторыю краіны.

**26 лістапада** стала вядома, што баранавіцкай недзяржаўнай газеце “Intex-press” адмовілі ў інфармацыі пра ход прызыўной кампаніі ў раёне. Карэспандэнт выдання Канстанцін Літвін звярнуўся па тэлефоне за звесткамі да начальніка аддзела прызыву Баранавіцкага аб’яднанага гарадскога ваеннага камісарыята падпалкоўніка Аляксандра Барчанкова. Той адказаў, што гэтая інфармацыя – для ўнутранага карыстання і перанакіраваў да ваеннага камісара. Аднак ваенны камісар Вадзім Каролік, спаслаўшыся на адсутнасць у “Intex-press” акрэдытацыі пры Міністэрстве абароны, адмовіўся даць гэтую грамадска важную інфармацыю. Ён таксама дабавіў, што дадзеная інфармацыя “ёсць у інтэрнэце”, а звесткі пра баранавіцкі рэгіён былі прадастаўленыя тэлекампаніі “Інтэкс”, таму газета можа звярнуцца за інфармацыяй туды.

Нагадаем, што рэдакцыя “Intex-press” ужо рабіла спробу атрымаць акрэдытацыю пры Мінабароны, але ёй там адмовілі, паведаміўшы пры гэтым, што гатовыя да супрацоўніцтва з выданнем і без акрэдытацыі. У Баранавіцкім аб’яднаным ваенным камісарыяце “Intex-press” таксама адмовілі ў акрэдытацыі, прычым па прычыне, якая супярэчыць дзеючаму заканадаўству – з-за недзяржаўнай формы ўласнасці.

**30 лістапада** Міністэрства замежных спраў пазбавілі акрэдытацыі для працы ў Беларусі карэспандэнта «Еўрапейскага радыё для Беларусі» Паўла Свярдлова. Падставай для адпаведнага рашэння МЗС стаў адміністратыўны арышт журналіста летам 2012 года. Камісія МЗС спаслалася на п. 15.2 Палажэння аб парадку акрэдытацыі журналістаў замежных СМІ, згодна з якім міністэрства мае права пазбавіць акрэдытацыі карэспандэнта ў выпадку парушэння ім “заканадаўства Рэспублікі Беларусь”. Павел Свярдлоў меў акрэдытацыю да 30 красавіка 2013 года. МЗС акрэдытаваў яго пры мінскім карпункце “Еўрарадыё” ў 2010 годзе і потым двойчы працягваў акрэдытацыю.

Нагадаем, раніцай **22 чэрвеня** супрацоўнікі міліцыі затрымалі Паўла Свярдлова ля пад’езда, як толькі ён выйшаў з дома. У той жа дзень суддзя Маскоўскага раёна Таццяна Матыль пакарала яго 15 суткамі арышту за нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы, хаця сам карэспандэнт сваю віну катэгарычна адмаўляе. У судзе сведчылі два міліцыянты, якія блыталіся ў паказаннях – паводле іх слоў, Свярдлоў лаяўся адначасова на дзвюх розных вуліцах. Затрыманне і разгляд справы адбыліся з такой хуткасцю, што адвакат не паспела даехаць да суда.

**6 ліпеня** Мінскі гарадскі суд пакінуў рашэнне па справе журналіста без зменаў. *Вярхоўны суд рашэннем ад **14 студзеня 2013 года** (намеснік старшыні Валерый Калінковіч) таксама не задаволіў скаргі П. Свярдлова на папярэднія судовыя рашэнні.*

**1 снежня** ў Мінску затрымалі журналістаў інтэрнэт-газеты “Салідарнасць” за фатаграфаванне ў нефармальнай абстаноўцы былога міністра культуры, цяперашняга амбасадара Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі.

Інцыдэнт здарыўся ў клубе “Цэнтр”, дзе ў той момант адбываўся канцэрт. Карэспандэнтка “Салідарнасці” Алена Якжык папрасіла фатографа зрабіць здымак чыноўніка, які прысутнічаў сярод гледачоў. Адразу пасля гэтага фатографа і Алену Якжык затрымалі ахоўнікі клуба. Як высветлілася, госць не хацеў, каб яго здымкі патрапілі ў СМІ. Прадстаўнік адміністрацыі клуба запатрабаваў, каб фатограф выдаліў здымкі і паабяцаў іх не публікаваць, а таксама перапісаў яго кантактныя дадзеныя. Якжык адпусцілі толькі пасля размовы з Латушкам. Журналісты знаходзілася на мерапрыемстве паводле акрэдытацыі.

“Я сказала, што з’яўляюся журналістам, што прадстаўнікі клуба ствараюць перашкоды маёй прафесійнай дзейнасці,  і што Латушка – гэта публічная асоба ў публічным месцы. У адказ прагучала нешта з серыі: “Толькі не трэба нам вось гэтых журналісцкіх штучак”, “Вы наогул не маеце права тут здымаць”. І гэта не лічачы завуаляваных зняваг і пагроз”, – распавяла потым Алена Якжык.

**16 снежня** тэлеканал “СТВ” у праграме “Тыдзень” прысвяціў цэлы сюжэт праблеме доступу журналістаў да інфармацыі з афіцыйных крыніц. Акцэнт быў зроблены на хібы ў працы прэс-сакратароў дзяржаўных органаў.

На сістэматычныя праблемы з доступам да афіцыйнай інфармацыі паскардзіўся калегам журналіст ЗАТ “Другі нацыянальны тэлеканал” (ОНТ) Дзмітрый Семчанка. У прыватнасці, нядаўна ён сутыкнуўся з адмовай пры спробе ўзяць каментар у чыноўнікаў Міністэрства адукацыі. “Пра якую аператыўнасць у прынцыпе можа ісці гаворка, калі ў асобных ведамствах прэс-сакратарамі нібыта працуюць муляры – сцены ад журналістаў выбудоўваюць сумленна?..”, – гучыць у сюжэце.

Журналістка “СТВ” Вольга Петрашэўская патэлефанавала таксама ў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і паспрабавала дамовіцца наконт аператыўнага каментару на гэты ж дзень, але беспаспяхова – ёй параілі пісаць афіцыйны запыт на імя намесніка міністра. Трапіць да чыноўніка ўдалося, толькі запісаўшыся на прыём (відэазапіс на прыёме вёўся схаванай камерай).

“Журналіст — прафесія кругласуткавая, і прэс-сакратар таксама прафесія кругласуткавая”, – зазначыў начальнік Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязяў ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі, які прысутнічаў у праграме ў якасці станоўчага прыкладу.

Нагадаем, што недзяржаўныя СМІ рэгулярна сутыкаюцца з адмовамі ў інфармацыі з афіцыйных крыніц, пра што неаднаразова паведамляла служба маніторынгу ГА «БАЖ».

## Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў

**12 студзеня** галоўны рэдактар «Бобруйского курьера» Анатоль Санаценка паведаміў, што некаторы час таму яго прозвішча было ўключанае ў спісы «парушальнікаў грамадскага парадку і бяспекі», якімі кіруюцца ўчастковыя інспектары для пакватэрнага абходу з мэтай «грамадскай прафілактыкі». У сваёй скарзе ў пракуратуру журналіст паведаміў, што толькі за апошні месяц у адсутнасць гаспадара міліцыя двойчы наведвалася да ягодахаты. Санаценка лічыць, што гэта робіцца з мэтай ціску на яго як незалежнага журналіста.

«Паводле маёй інфармацыі, у спісах «нядобранадзейных» ёсць таксама прозвішчы іншых незалежных журналістаў, якія працуюць у Бабруйску. Уключаны ў іх і найбольш актыўныя мясцовыя праваабаронцы. У сваім звароце ў пракуратуру я прапанаваў правесці праверку па гэтых фактах і аднавіць законнасць на падведамаснай пракуратуры тэрыторыі», - кажа кіраўнік незалежнага выдання.

**На пачатку лютага** Анатоль Санаценка атрымаў адказ на скаргу з пракуратуры Ленінскага раёна г. Бабруйска. Пракурор Артур Карапецян запэўнівае журналіста, што ў дачыненні да яго ніякіх прафілактычных мерапрыемстваў не праводзіцца, а неаднаразовыя візіты да яго дадому работнікаў міліцыі звязаныя з праходжаннем «абавязковай дактыласкапічнай рэгістрацыі».

Анатоль Санаценка лічыць адказ пракурора не адпаведным наяўным фактам. "Па-першае, дакумент, які ўключае спіс асоб, што падлягаюць прафілактыцы, бачылі і чыталі. Па-другое, наяўнасць своеасаблівых «чорных спісаў», куды ўключылі мяне, пацвярджаецца фактамі прыходу работнікаў міліцыі да грамадзян, якія не падлягаюць праходжанню дактыласкапіі з-за свайго ўзросту альбо полу, але маюць дачыненне да незалежнай журналістыкі ці грамадскіх арганізацый", - кажа журналіст.

**5 лютага** ўвечары па першым канале беларускага дзяржаўнага тэлебачання "Беларусь 1" быў прадэманстраваны паклёпніцкі фільм пра грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў". Ён анансаваўся як "журналісцкае расследаванне".

Асновай відэастужкі пад назвай "Баш на БАЖ" стаў ананімны ліст нібыта сябра БАЖ, у якім гаварылася, што "ў кіраўніцтва арганізацыі адна мэта – прага нажывы і асабістае абагачэнне", і што аўтар "больш маўчаць не можа" і просіць "раскалупаць гэтае залатое асінае гняздо".

Ананім спасылаецца на "сакрэтныя дакументы брытанскай амбасады", якія ён выклаў у інтэрнэце. З іх вынікае, што БАЖ нібыта атрымаў ад амбасады Вялікабрытаніі ў Беларусі сродкі на праект "садзеяння паляпшэнню заканадаўства аб СМІ ў Беларусі". (У фільме фігуравалі раздрукоўкі сродкаў, нібыта атрыманых журналісцкай арганізацыяй, - без подпісаў і пячатак).

Відэашэраг фільма быў "аздоблены" кадрамі са схаванай камеры, на якіх бачны працэс сачэння за сябрамі журналісцкай арганізацыі. Стужка пачалася і скончылася расповедам пра маленькіх пацыентаў Рэспубліканскага цэнтра дзіцячай анкалогіі, якіх можа выратаваць толькі перасадка органаў, што каштуе вялікіх грошай.

Дакументы, паказаныя ў эфіры тэлеканала "Беларусь 1", якія нібыта тычацца дзейнасці ГА "БАЖ", з'яўляюцца "сфабрыкаванай фальшыўкай", - пракаментавала відэастужку "Баш на БАЖ" старшыня незалежнай журналісцкай арганізацыі Жанна Літвіна. "Паглядзеўшы гэты твор, я разумею, што людзей, якіх працуюць на БТ, трэба вучыць прафесіі, пачынаючы з самых асноваў…"

**7 лютага** Амбасада Вялікабрытаніі, каментуючы фільм «Баш на БАЖ», выказала расчараванне стандартамі журналісцкай дзейнасці пры падрыхтоўцы рэпартажу на тэлеканале «Беларусь 1» (Белтэлерадыёкампанія). "Гэтая праграма, судзячы па ўсім, з'яўляецца адной з серыі пастаянных нападаў на еўрапейскія дыппрадстаўніцтвы ў Беларусі. Амбасада Вялікабрытаніі працягне выконваць свае звычайныя функцыі, якія заключаюцца, у тым ліку, у падтрымцы адносін як з ўрадавымі, так і з няўрадавымі арганізацыямі Беларусі", - падкрэслілі ў дыпмісіі.

У гэты ж дзень, **7 лютага**, Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі выказала абурэнне з нагоды "паклёпніцкай і зневажальнай атакі дзяржаўнай прапаганды" супраць ГА "БАЖ" у фільме дзяржаўнага тэлеканала «Беларусь 1». Асамблея разглядае гэты сюжэт "не толькі як выпад супраць вядомага грамадскага аб'яднання, але і як небяспечны сігнал пра магчымы пачатак новага наступу дзяржаўных органаў на свабодную прэсу і журналістаў".

**8 лютага** з заявай у абарону ГА "БАЖ" выступіла міжнародная праваабарончая арганізацыя "Рэпарцёры без межаў". Яна асудзіла спробу дзяржаўнага беларускага тэлебачання зганьбіць "Беларускую асацыяцыю журналістаў", якая з'яўляецца адзінай аўтаномнай арганізацыяй працаўнікоў медыя ў Беларусі, партнёрам арганізацый "Рэпарцёры без межаў" і "Міжнароднай федэрацыі журналістаў".

**14 лютага** студэнтцы 2-га курса дзённага аддзялення Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта Настассі Шулейцы паведамілі, што яна адлічаная. Дагэтуль

дзяўчыну некалькі разоў затрымлівалі супрацоўнікі праваахоўных органаў за актыўную грамадскую дзейнасць.

**16 лютага** незалежнага журналіста з Гродна Алеся Дзянісава па тэлефоне выклікалі ў Гродзенскую абласную пракуратуры "для гутаркі". Дзянісаў адказаў, што не супраць паразмаўляць, але папрасіў даслаць павестку. З пракуратуры запэўнілі, што неўзабаве ён атрымае афіцыйны дакумент. Алесь Дзянісаў лічыць, што яго выклікаюць у сувязі з яго журналісцкай дзейнасцю.

**16 лютага** ў Віцебску рэдактара сайта "Народныя Навіны Віцебску" Сяргея Серабро выклікалі ў транспартную міліцыю. Прычына выкліку – інфармацыя пра вывешаны 8 лютага бел-чырвона-белы сцяг на знак салідарнасці са зняволеным у СІЗА сябрам КХП БНФ Сяргеем Каваленкам, а таксама фотаздымкі, змешчаныя на сайце. Сяргей Серабро быў пазначаны як аўтар інфармацыі.

Падчас тэлефоннай размовы з начальнікам транспартнай міліцыі Сяргей Серабро зазначыў, што хоча скарыстацца правам журналіста не выдаваць крыніцы канфідэнцыйнай інфармацыі, пакуль справа не дайшла да суда. У адказ міліцыянт заявіў, што гэта трэба занатаваць, і журналіста ўсё адно чакаюць у міліцыі для тлумачэнняў.

**29 лютага** журналістам стала вядома, што беларускія ўлады ствараюць спіс на абмежаванне выезду з тэрыторыі Беларусі, у які папярэдне ўвайшлі прозвішчы 108 грамадзян. Сярод іх фігуруе і прозвішча старшыні грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Жанны Літвіной. Як паведамляецца з блізкіх да кіраўніцтва краіны крыніц, крытэрам унясення асобаў у гэты спіс былі прамыя заклікі да ўвядзення санкцый супраць беларускіх уладаў.

**12 сакавіка** ў рэдакцыю недзяржаўнай баранавіцкай газеты "Intex-press" наведаўся ўчастковы міліцыянт Віталь Дабрачынскі, каб "пагутарыць" з журналістамі. У якой справе і ў якасці каго фігуруюць журналісты выдання, маёр міліцыі не патлумачыў, афіцыйных позваў пры сабе не меў. Дырэктар ТАА «Выдавецкі дом «Інтэкс-прэс» Уладзімір Янукевіч прапанаваў яму прыйсці з дакументамі 14 сакавіка і выказаў гатовасць прадаставіць памяшканне для гутарак з журналістамі, а таксама садзейнічаць іх прысутнасці ў рэдакцыі.

**14 сакавіка** маёр Дабрачынскі зноў прыйшоў у "Intex-press" без павестак і зноў не патлумачыў, у сувязі з чым у міліцыі такая цікавасць да карэспандэнтаў незалежнага выдання. Журналісты адмовіліся мець дачыненні з міліцыяй на неафіцыйнай аснове.

**14 сакавіка** раніцай шэф-рэдактара недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты «Наша Ніва» Андрэя Дынько не выпусцілі з Беларусі, ссадзіўшы з цягніка Мінск — Вільнюс. Памежнікі заявілі, што ён знаходзіцца ў спісах невыязных з Беларусі. Прычыну абмежавання права на выезд не ўдакладнілі, параілі звяртацца ў Аддзел па грамадзянству і міграцыі Міністэрства ўнутраных спраў па месцы жыхарства.

**15 сакавіка** з Беларусі не выпусцілі старшыню грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Жанну Літвіну. Раніцай яна збіралася вылецець у Варшаву з аэрапорта "Мінск-2". Пры праходжанні пашпартнага кантролю памежнікі заявілі спн. Літвіной, што яна "часова невыязная", а таксама паставілі ў яе пашпарт штамп аб адмове ў выездзе з краіны.

**15 сакавіка** таксама адмовілі ў выездзе з тэрыторыі Беларусі афіцыйнаму прадстаўніку тэлеканала "Белсат" у Беларусі Міхасю Янчуку. Яму таксама паставілі адпаведны штамп у пашпарце.

Усяго цягам некалькіх дзён каля 15 чалавек - грамадскіх дзеячаў і журналістаў - не змаглі пакінуць краіну па прычыне адмовы ў выездзе.

**15 сакавіка** грамадскае аб'яднанне “Беларуская асацыяцыя журналістаў” распаўсюдзіла заяву з нагоды абмежавання права на выезд з краіны журналістаў і сяброў арганізацыі. БАЖ выказаў рашучы пратэст супраць увядзення абмежавання журналісцкай дзейнасці, правоў і законных інтарэсаў сяброў асацыяцыі.

Журналісцкая арганізацыя запатрабавала ад шэрагу дзяржаўных органаў адказаць на пытанне - якая дзяржаўная ўстанова і на якой падставе прымала рашэнне абмежаваць грамадзянам выезд з краіны. "Гэтыя абмежаванні наўпрост парушаюць артыкул 30 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, паводле якога грамадзяне краіны маюць права свабодна пакідаць Беларусь, - гэтак жа як і закон “Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян Рэспублікі Беларусь”. Абмежаванне права журналістаў і сяброў БАЖ на выезд з краіны супярэчыць таксама арт.арт. 33 і 34 Канстытуцыі краіны, якія гарантуюць грамадзянам свабоду выказвання і свабоду распаўсюду інфармацыі", - звяртае ўвагу ГА "БАЖ".

**16 сакавіка** ГА “БАЖ” накіравала афіцыйныя звароты кіраўнікам Генеральнай пракуратуры РБ, Дэпартамента па грамадзянству і міграцыі МУС РБ, а таксама Дзяржаўнага памежнага камітэта РБ. Да ўсіх лістоў прыкладаўся тэкст заявы БАЖ ад 15 сакавіка з нагоды абмежавання выезду за межы РБ шэрагу сяброў арганізацыі.

**16 сакавіка** старшыня ГА “БАЖ” Жанна Літвіна наведала Аддзел па грамадзянству і міграцыі Савецкага раёна г. Мінска. Адказу на галоўнае пытанне – кім прынятае рашэнне пра абмежаванне ёй выезду з тэрыторыі Беларусі і на якой падставе – яна так і не атрымала. Журналістцы выдалі даведку - выпіску з банка дадзеных аб грамадзянах РБ, права якіх на выезд з РБ часова абмежаваны. З дакумента вынікае, што звесткі, якія сталі падставай для абмежавання яе выезду, падало Міністэрства юстыцыі РБ 5 сакавіка.

“Такія звесткі могуць быць пададзеныя Міністэрствам юстыцыі толькі ў тым выпадку, калі судом распачатая справа аб банкруцтве альбо эканамічнай нядзатнасці юрыдычнай асобы, - пракаментаваў змест “выпіскі” намеснік старшыні ГА “БАЖ”, юрыст Андрэй Бастунец. - Але гэта нонсэнс - каб сам даўжнік не ведаў пра пачатак такога працэсу. Таму накіраванне звестак Мінюстам, мякка кажучы, памылковае”.

**19 сакавіка** шэф-рэдактару газеты “Наша Ніва” Андрэю Дынько ў Аддзеле па грамадзянству і міграцыі па месцы жыхарства выдалі даведку, што ён уключаны ў спіс невыязных з Беларусі за «ўхіленне ад яўкі на мерапрыемствы па прызыву». Пры гэтым ніякіх позваў у ваенкамат спадар Дынько не атрымліваў. 38-гадовы Андрэй Дынько — старшы лейтэнант запасу. Таму такая прычына адмовы на выезд — юрыдычны нонсэнс, не можа быць прызваны на службу той, хто ўжо звольнены ў запас.

**20 сакавіка** падобную даведку выдалі афіцыйнаму прадстаўніку тэлеканала “Белсат” Міхасю Янчуку ў Аддзеле па грамадзянству і міграцыі (АГіМ) Маскоўскага раёна Брэста – па месцы жыхарства. Паводле дакумента, выезд Янчуку абмежавалі на падставе звароту Міністэрства абароны ад 5 сакавіка аб яго “ўхіленні ад яўкі на мерапрыемствы па прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве”. Журналіст адразу накіраваўся высвятляць сітуацыю ў ваенкамат. Ваенны камісар г. Брэста Сіжук паведаміў Янчуку, што ў базе яго няма. Акрамя таго, па словах ваенкама, 5 сакавіка па лініі Мінабароны ніякіх абмежаванняў на выезд з краіны не накладалася. Міхасю Янчуку 39 гадоў, і з прызыўнога ўзросту ён выйшаў 12 гадоў таму, а на вайсковыя “зборы” яго ніхто не прызываў.

**20 сакавіка** даведку аб абмежаванні выезду за мяжу ў сувязі з «ухіленнем ад мерапрыемстваў па прызыву на вайсковую службу, службу ў рэзерве» ў АГіМ Партызанскага раёна г. Мінска атрымаў таксама адзін з лідараў праваабарончага цэнтра «Вясна», сябра БАЖ Валянцін Стэфановіч. У той жа час у раённым ваенкамаце сп.

Стэфановічу паведамілі, што апошнім часам на службу яго не прызывалі, і адносна яго ніякіх папер нікуды не дасылалі.

Валянцін Стэфановіч заявіў пра намер абскарджваць гэтае рашэнне ў судзе. Адначасова праваабаронца накіраваў скаргу ў Генпракуратуру. Ён патрабаваў устанавіць асобаў, якія прынялі неправамернае рашэнне аб абмежаванні яго права на выезд з Рэспублікі Беларусь, а таксама прыняць неадкладныя меры па аднаўленні парушаных правоў.

**20 сакавіка** на тэрыторыю Беларусі не пусцілі ўкраінскага медыяэксперта і трэнера з Інстытута развіцця рэгіянальнай прэсы Алега Хаменку. Супрацоўнікі беларускай памежнай службы паведамілі яму, што ён у спісе асобаў, якім забаронены ўезд у Беларусь.

**2 красавіка** БАЖ атрымаў афіцыйны адказ з Генпракуратуры на зварот наконт абмежавання права на выезд шэрагу журналістаў за межы краіны. У дакуменце (ад **29 сакавіка**) за подпісам начальніка Упраўлення па нагляду за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Паўла Радзівонава заяўляецца, што пракуратура не знайшла падстаў для правядзення праверкі па звароце ГА "БАЖ".

“Вывучэнне Вашай заявы паказала, што ў ёй не ўтрымліваюцца звесткі аб тым, дзеяннямі якіх дзяржаўных органаў і іх службовых асоб парушаны правы і законныя інтарэсы названых грамадзян. Адсутнасць такіх звестак з’яўляецца фактарам, які перашкаджае правядзенню ўсебаковай і аб’ектыўнай праверкі па закранутых пытаннях”, - піша сп. Радзівонаў.

Нагадаем, **16 сакавіка** БАЖ накіраваў звароты ў Генпракуратуру, Дэпартамент па грамадзянству і міграцыі МУС РБ, а таксама Дзяржаўны памежны камітэт з нагоды абмежавання выезду за межы РБ шэрагу сябраў арганізацыі – у прыватнасці, Жанне Літвіной, Андрэю Дынько, Міхасю Янчуку, Валянціну Стэфановічу і Гары Паганяйлу.

**5 красавіка** супрацоўнікі КДБ пагражалі “крымінальнай справай за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь” галоўнаму рэдактару "Бобруйского курьера" Анатолю Санаценку. Інцыдэнт адбыўся ў памяшканні падатковай інспекцыі. Перад гэтым журналіста па тэлефоне запрасіла на прыём падатковы інспектар Галіна Танвірава, якая абслугоўвае яго рэкламна-выдавецкае прадпрыемства. Падчас іх размовы ў кабінет увайшлі двое супрацоўнікаў КДБ, якія назваліся падпалкоўнікам Дзмітрыем Леанідавічам і проста Дзмітрыем Генадзьевічам. Гутарка працягвалася 2,5 гадзіны.

Дзмітрый Леанідавіч паказаў А. Санаценку ксеракопіі шэрагу яго журналісцкіх публікацый за 2011 і 2012 гады, размешчаных у электронным “Бобруйском курьере”, на сайце ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” і на “Белорусском партизане”. Супрацоўнік КДБ заявіў, што публікацыі неаб'ектыўныя, скажаюць сутнасць таго, што адбываецца ў Беларусі, і таму з часам у дачыненні да журналіста можа быць ужыты арт. 369 ч. 1 Крымінальнага кодэкса “Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь”. Па словах афіцэра КДБ, паколькі журналісцкія матэрыялы Санаценкі публікуюцца ў сетцы інтэрнэт – іх могуць чытаць і замежнікі.

Анатоль Санаценка прапанаваў работнікам КДБ аформіць заўвагі да яго ў пісьмовым выглядзе. Ён абскардзіў дзеянні падатковай інспекцыі і супрацоўнікаў Бабруйскага КДБ. Ад падаткавікоў Санаценка прапанаваў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды прынесці яму афіцыйныя выбачэнні, замяніць падатковага інспектара, які «вядзе» яго прадпрыемства, а таксама звярнуць увагу на Працоўны кодэкс, паколькі падчас яго «гутаркі» з супрацоўнікамі КДБ падатковыя інспектары пакінулі свае працоўныя месцы больш чым на дзве гадзіны.

**5 траўня** Анатоль Санаценка атрымаў адказ на свой зварот у інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах РБ па г. Бабруйску. Першы намеснік начальніка інспекцыі Юрый Тарабуеў прызнаў факт запрашэння журналіста ў падатковую, але ні слова не напісаў пра «эпізод» з супрацоўнікамі КДБ.

**23 траўня** А. Санаценка атрымаў адказ з пракуратуры Магілёўскай вобласці на сваю скаргу наконт незаконных дзеянняў супрацоўнікаў Бабруйскага КДБ. У сваім адказе (ад 16 траўня) старшы памочнік пракурора Магілёўскай вобласці М. А. Раманоўскі паведаміў, што пракуратура Магілёўскай вобласці ўстанавіла, што ў шэрагу матэрыялаў Анатоля Санаценкі «змяшчаюцца неабгрунтаваныя звесткі і здагадкі, накіраваныя на дыскрэдытацыю беларускага грамадства і дзяржавы», што нібыта з'яўляецца следствам зняважлівага стаўлення журналіста да закона «Аб СМІ». Далей пракурор Раманоўскі напісаў аб праве «органаў дзяржаўнай бяспекі» праводзіць прафілактычныя мерапрыемствы і аб тым, што гутарка работнікаў КДБ з журналістам, маўляў, з'яўляецца «самай мяккай з мер індывідуальнай прафілактыкі правапарушэнняў».

Гэты адказ Анатоль Санаценка абскардзіў у Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Адказ на скаргу ён атрымаў напрыканцы жніўня з магілёўскага абласнога КДБ. Высветлілася, што Генпракуратура пераслала скаргу пракурору Магілёўскай вобласці, той - ва Упраўленне КДБ па Магілёўскай вобласці. У сваім адказе намеснік начальніка Упраўлення КДБ І. П. Сяргеенка праінфармаваў Анатоля Санаценку, што праведзеная праверка прызнала дзеянні супрацоўнікаў Бабруйскага аддзела КДБ законнымі і абгрунтаванымі.

“Калі я звяртаўся ў Генеральную пракуратуру са скаргай, то меў на ўвазе, што давяраю яе разгляд менавіта пракуратуры, а не органу, супрацоўнікі якога і парушылі мае правы”, - кажа Санаценка.

**11 красавіка** каардынатара кампаніі “Еўрапейская Беларусь”, сябра БАЖ Аляксандра Атрошчанкава не выпусцілі з тэрыторыі Беларусі. На беларуска-літоўскай мяжы (чыгуначнай станцыі “Гудагай”) супрацоўнікі памежнай службы знялі яго з жонкай з цягніка, забралі пашпарт і пасля праверкі дадзеных заявілі, што выезд з краіны яму забаронены. У пашпарт паставілі адпаведны штамп.

Гэта адбылося нягледзячы на тое, што напярэдадні Аляксандр Атрошчанкаў атрымаў у Аддзеле па грамадзянству і міграцыі Цэнтральнага раёна г. Мінска даведку, што выезд за межы краіны яму дазволены.

Пасля гэтага інцыдэнту ў аддзеле па грамадзянстве і міграцыі Аляксандру Атрошчанкаву паведамілі, што ў спіс невыязных ён уключаны судом г. Орша ў сувязі з накладзеным на яго штрафам пасля разгляду адміністратыўнай справы **29 сакавіка**. “Гэта абсалютна незаконна, паколькі рашэнне суда не ўступіла ў сілу”, - зазначыў сп. Атрошчанкаў.

**3 траўня** невядомыя асобы зладзілі правакацыю супраць гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута. На пад’ездах дома, дзе ён жыве, яны расклеілі плакаты з фотаздымкам журналіста і подпісам «Асцярожна, педафіл!».

Андрэй Пачобут аднёс адну з улётак у міліцыю і напісаў заяву. Ён мяркуе, што такім чынам яму ў чарговы раз помсцілі за ягоную грамадзянскую пазіцыю і журналісцкую дзейнасць. Журналіст не выключае, што за правакацыяй можа стаяць КДБ.

Нагадаем, А. Пачобут быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 2 гады па артыкуле «паклёп ў дачыненні да прэзідэнта» (ч. 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса). Суд прызнаў журналіста вінаватым за шэраг артыкулаў з крытыкай дзейнай

улады. Судовы працэс быў закрыты. Журналіст правёў за кратамі 3 месяцы, зараз яму забаронены выезд за мяжу.

**25 траўня** ўвечары на беларуска-літоўскай мяжы ў пункце пропуску "Гудагай" была затрыманая рэдактарка прафсаюзнага сайта praca-by.info Наталля Верашчагіна. Яе знялі з цягніка разам з лідарамі прафсаюза РЭП, калі яны вярталіся з Вільнюса пасля сустрэчы з літоўскімі прафсаюзамі. Журналістку адвялі на асабісты  дагляд: спачатку праверылі змесціва яе сумкі, потым прымусілі распранууцца да бялізны. У выніку амаль 3-гадзіннай працэдуры дагляду забралі грошы, ноўтбук і флэш-картку. Іх паабяцалі вярнуць цягам месяца, пасля "праверкі".

**26 траўня** ўвечары на беларуска-літоўскай мяжы ў пункце пропуску "Гудагай" з цягніка Вільнюс – Мінск знялі намесніцу галоўнага рэдактара недзяржаўнай газеты "Народная воля" Марыну Коктыш. На мытным кантролі яе даглядзелі і абшукалі. Прычыну такіх дзеянняў ёй ніхто не патлумачыў. Ніякіх носьбітаў інфармацыі журналістка з сабой не брала, таму вымаць у яе не было чаго. Дамоў Марына Коктыш дабіралася на наступным цягніку. Квіток давялося купляць за свае грошы, - распавяла яна пазней.

**11 чэрвеня** стала вядома, што Анатоль Санаценка, галоўны рэдактар «Бобруйского курьера», які скардзіўся ў пракуратуру на дзеянні мясцовай міліцыі, атрымаў адказ з той самай міліцыі. Падставай для скаргі стала інфармацыя пра тое, што журналіст незаконна ўключаны міліцыяй у спісы «парушальнікаў грамадскага парадку і бяспекі».

Пераканаўшыся, што раённая пракуратура праводзіць праверку фармальна, Анатоль Санаценка накіраваў скаргу ў Магілёўскую абласную пракуратуру. Тая даручыла разгледзець зварот журналіста (паўторна) пракуратуры Ленінскага раёна г. Бабруйска. У выніку чарговы адказ Санаценка атрымаў з Бабруйскага УУС – на дзеянні супрацоўнікаў якога ён і скардзіўся.

У лісце начальнік Бабруйскага УУС, палкоўнік міліцыі Аляксандр Васільеў запэўнівае, што Санаценка не знаходзіцца «на якім-небудзь прафілактычным уліку». І тут жа – пагражае журналісту санкцыямі за непраходжанне працэдуры дактыласкапічнай рэгістрацыі і прапануе прайсці яе «добраахвотна».

**13 чэрвеня** намеснік старшыні праваабарончага цэнтра "Вясна", сябра БАЖ Валянцін Стэфановіч атрымаў адказ з Дэпартамента па грамадзянству і міграцыі  МУС на свой запыт пра прычыну ўнясення яго ў базу дадзеных грамадзян, якім часова абмежаванае права выезду з Беларусі.

З ліста за подпісам начальніка Дэпартамента Аляксея Бягуна вынікала, што ў базу дадзеных "невыязных" праваабаронцу ўнеслі, магчыма, памылкова па прычыне "тэхнічных збояў у перадачы інфармацыі".

Далей у адказе, якога давялося чакаць больш за 3 месяцы, паведамляецца, што Стэфановіч па-ранейшаму не зможа пакінуць межы Беларусі, паколькі зараз праводзіцца праверка базы дадзеных. "Па заканчэнні азначанай працы будуць прынятыя меры па выключэнні памылковых звестак з банка дадзеных", - піша сп. Бягун, але нічога не кажа пра тэрміны правядзення гэтай праверкі.

"Патрэбна адзначыць, што гэтыя "тэхнічныя збоі" насілі вельмі спецыфічны характар, паколькі "таемны вірус" зачапіў толькі вядомых грамадскіх дзеячаў, праваабаронцаў і журналістаў", - звяртаюць увагу праваабаронцы.

**22 чэрвеня** суд Маскоўскага раёна г. Мінска разглядзеў скаргу кіраўніка юрыдычнай службы праваабарончага грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінскі камітэт», сябра БАЖ Гары Паганяйлы на дзеянні Міністэрства ўнутраных спраў і

Міністэрства юстыцыі. Скарга датычылася незаконнага ўключэння Г. Паганяйлы ў спісы невыязных.

На слуханне (другое па ліку) з’явіўся прадстаўнік МУС, які прынёс даведку, што Гары Паганяйла выключаны са спісу невыязных. У выніку працэсу суд пастанавіў выдаліць спадара Паганяйлу з базы дадзеных грамадзян, якім часова абмежаванае права выезду з тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым суддзя Вольга Глушакова адмовілася задавальняць патрабаванне Гары Паганяйлы прызнаць незаконнасць уключэння яго ў спіс невыязных і прыцягнуць да крымінальнай адказнасці чыноўнікаў, вінаватых у парушэнні яго канстытуцыйных правоў.

Слуханне справы распачалося **19 чэрвеня** і было перанесенае з прычыны няяўкі ў суд прадстаўніка МУС. На першым слуханні выступіла прадстаўнік Міністэрства юстыцыі, якая пацвердзіла, што ні адным судом рашэнняў у дачыненні да Паганяйлы не выносілася, а сам Мінюст ніякіх дзеянняў па ўключэнні яго ў спісы невыязных не прымаў.

Нагадаем, у сярэдзіне сакавіка Гары Паганяйла ў раённым аддзеле па грамадзянству і міграцыі паведамілі, што ён пазбаўлены права выязджаць за мяжу. Як растлумачылі тады праваабаронцу, звесткі ў банк дадзеных былі пададзеныя Мінюстам на падставе нейкай справы аб неплацежаздольнасці, па якой Паганяйла праходзіў патэнцыйным даўжніком.

**2 жніўня** беларускія памежнікі не пусцілі ў Беларусь украінскага журналіста Сяргея Шаўчэнку. На ўкраінска-беларускім памежным пераходзе “Гута” яго без тлумачэння прычын высадзілі з аўтобуса. Журналіст у складзе ўкраінскай дэлегацыі ехаў у Карэлію (Расія) на ўрачыстасці, прысвечаныя памяці ахвяр палітычных рэпрэсій на Салаўках і ва ўрочышчы Сандармох. У склад дэлегацыі ўваходзілі былыя палітвязні, іх сваякі, грамадскія актывісты, пісьменнікі, журналісты. Сяргей Шаўчэнка з'яўляецца аўтарам публікацый і кніг пра Салавецкі лагер.

**13 жніўня** незалежнага журналіста Кастуся Шыталя выклікалі ў Глыбоцкую раённую пракуратуру і дапыталі адносна яго публікацыі на сайце westki.info. У матэрыяле паведамлялася пра прапанову мясцовага апазіцыйнага палітыка Яраслава Берніковіча дапамагчы актывістам, якія агітуюць за байкатаванне будучай парламенцкай кампаніі.

Нягледзячы на тое, што агітацыя за байкот не забаронена выбарчым заканадаўствам, супрацоўнікі пракуратуры забаранілі Кастусю Шыталю размяшчаць на сайце westki.info падобныя публікацыі. Журналіста папярэдзілі, што ў адваротным выпадку яго прыцягнуць як мінімум да адміністратыўнай адказнасці.

Карыстаючыся сваім правам, Кастусь Шыталь адмовіўся адказваць на пытанні пракурораў. Пагрозы з пракуратуры Глыбоцкага раёна журналіст лічыць незаконнымі.

**13 жніўня** старшыня ГА “БАЖ” Жанна Літвіна атрымала афіцыйны ліст з Міністэрства юстыцыі, у якім паведамляецца, што Мінюст не мае да яе ніякіх прэтэнзій і не звяртаўся ў Міністэрства ўнутраных спраў, каб забараніць журналістцы выезд з тэрыторыі Беларусі. Чыноўнікі Мінюста паабяцалі кіраўніцы БАЖ самім звярнуцца да праваахоўнікаў у праве скасавання ёй забароны на выезд.

Нагадаем, **15 сакавіка** ў аэрапорце “Мінск-2” пры праходжанні пашпартнага кантролю Жанне Літвіной паведамілі, што яна “часова невыязная”, а таксама паставілі ў пашпарт штамп аб адмове ў выездзе з краіны. Пазней спадарыня Літвіна атрымала даведку з Аддзела па грамадзянству і міграцыі Савецкага раёна Мінска пра тое, што выезд за межы Беларусі быў ёй забаронены па просьбе Мінюста "ў сувязі са справай аб банкруцтве".

Тыднем раней падобны адказ, але ўжо з Міністэрства абароны, атрымаў афіцыйны прадстаўнік тэлеканала “Белсат” Міхась Янчук. Начальнік галоўнага арганізацыйна-мабілізацыйнага ўпраўлення Сяргей Купрык паведаміў Янчуку, што Мінабароны не прызывала журналіста на службу і не абмяжоўвала яму выезд з тэрыторыі Беларусі.

**16 жніўня** Дэпартамент па грамадзянству і міграцыі МУС Беларусі паведаміў старшыні БАЖ Жанне Літвіной, што яе выключылі са спісу невыязных. У афіцыйным лісце (датаваны **10 жніўня**) чыноўнікі Дэпартамента спасласіся на камп’ютарны збой, які нібыта адбыўся ў іх з 24 лютага па 10 сакавіка. Сама кіраўніца журналісцкай праваабарончай арганізацыі лічыць названую прычыну надуманай і звязвае яе з канкрэтным палітычны рашэннем афіцыйнага Мінска.

**23 жніўня** Міхася Янчука, афіцыйнага прадстаўніка тэлеканала “Белсат” у Беларусі, выклікалі ў Дэпартамент па грамадзянству і міграцыі МУС і ўручылі даведку-выпіску, што ў яго «адсутнічаюць абмежаванні для выезду за мяжу». «Нават не ведаю, чаму вы ў гэтай базе апынуліся», - сказаў журналісту намеснік старшыні Дэпартамента Міхаіл Грыб, уручаючы паперу. Аднаўлення свайго канстытуцыйнага права журналіст дамагаўся амаль паўгода.

Як удалося перад гэтым высветліць М. Янчуку, у спісе насупраць кожнага “абмежаванага” чалавека пазначана прозвішча канкрэтнай службовай асобы, адказнай за забарону на выезд. У выпадку з Янчуком такой асобай апынуўся вайсковы камісар Рэчыцкага раёна, дзе журналіст ніколі не жыў і не працаваў. Міхась Янчук датэлефанаваўся да рэчыцкага чыноўніка, які пацвердзіў, што ў базе насупраць імя журналіста насамрэч стаіць ягонае прозвішча. Разам з тым камісар адзначыў, што ніколі не бачыў справу Янчука і не забараняў яму выезд з Беларусі.

**21 верасня** шэф-рэдактар газеты «Наша Ніва» Андрэй Дынько атрымаў ліст з Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, у якім выказваліся прабачэнні, што яго памылкова ўключылі ў спіс невыязных. Ліст датаваны **9 верасня**. Паводле журналіста, са спісу яго выключылі толькі пасля шэрагу скаргаў у розныя інстанцыі.

Нагадаем, А. Дынько ссадзілі з цягніка Мінск — Вільнюс **14 сакавіка**. Прычыну абмежавання права на выезд памежнікі не ўдакладнілі. Пазней у Аддзеле па грамадзянству і міграцыі журналісту выдалі даведку, што ён уключаны ў спіс невыязных з Беларусі нібыта за «ўхіленне ад яўкі на мерапрыемствы па прызыву». Спіс невыязных, у які трапілі два дзясяткі журналістаў, апазіцыйных палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, пачаў дзейнічаць з сакавіка. На канец жніўня ў спісе з гэтага ліку заставаўся Андрэй Дынько.

**2 лістапада** сябра БАЖ, юрыст і праваабаронца Леанід Судаленка атрымаў афіцыйны выклік у падатковую інспекцыю Савецкага раёна Гомеля на **9 лістапада** "для падпісання пратакола і ўдзелу ў адміністратыўным працэсе". Прычынай адміністратыўнай справы стала адмова Судаленкі падаць дэкларацыю пра прыбытак.

“Падатковая інспекцыя не забяспечвае канфідэнцыйнасць атрыманай інфармацыі. У 2008 годзе пасля падачы дэкларацыі звесткі пра мае прыбыткі патрапілі ў СМІ, у тым ліку і ў дзяржаўную абласную газету “Гомельская праўда”, - тлумачыць Леанід Судаленка. Ён заявіў таксама, што не падпіша пратакол, пакуль не атрымае адказы на ўсе свае пытанні. У прыватнасці, чаму і на якой падставе ягонае прозвішча прадстаўляе для падаткоўцаў такую цікавасць? Чаму нават у сына, які служыць у войску, запатрабавалі дэкларацыю?

Леанід Судаленка перакананы, што прычыны цікавасці да ягонай асобы з боку падатковай інспекцыі палітычна матываваныя.

## Перашкоды ў друку і распаўсюдзе прадукцыі СМІ

*Сітуацыя з распаўсюдам праз прадпрыемствы «Саюздруку» і «Белпошты» ў недзяржаўных грамадска-палітычных выданняў, выкінутых у 2005-2006 г.г. з дзяржаўнай сістэмы распаўсюду, істотна за 2012 год не змянілася.*

*Па-ранейшаму ў пераліку «праблемных» газет знаходзяцца агульнанацыянальныя: **«Новы Час»**, **«СНплюс. Свободные новости плюс»**, **«Товарищ»**, і рэгіянальныя: **«Борисовские новости»**, **«Вольнае Глыбокае»**, **«Газета Слонімская»**, **«Intex-press»**, **«Нясвіжскі час»**, **«Отдушина»**, **«Рэгіянальная газета»**.*

*Застаюцца па-за сістэмамі афіцыйнага распаўсюду ў Беларусі газеты **«Витебский курьер»** і **«Наш Дом-инфо»**, якія зарэгістраваны і друкуюцца ў Смаленску (РФ) .*

*Часопіс **«ARCHE-Пачатак»** у лістападзе быў вымушаны адмовіцца ад паслуг **РУП «Белпошта»**. Падставай стала блакаванне рахунку выдання Дэпартаментам фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю 4 кастрычніка. З гэтай прычыны рэдакцыя «Arche» не змагла выпусціць у свет некалькі цалкам падрыхтаваных да друку нумароў і выканаць свае абавязкі перад падпісчыкамі.*

**12 студзеня** ў Гомелі на вуліцы Карповіча спецназаўцы затрымалі старшыню абласной арганізацыі Аб’яднанай грамадзянскай партыі Васіля Палякова і сябра партыі Уладзіміра Няпомняшчых. Інцыдэнт адбыўся, калі грамадскія актывісты раздавалі мінакам партыйны інфармацыйны бюлетэнь “Голос разума”. У Цэнтральным РАУС Гомеля на затрыманых склалі пратакол за парушэнне заканадаўства аб СМІ (арт. 22.9 КаАП).

У бюлетэні былі надрукаваныя віншаванні з Новым годам і Калядамі, звароты кіраўнікоў партыі, інфармацыя пра эканамічную сітуацыю ў Беларусі. Выходныя звесткі ў бюлетэні былі пазначаныя.

**13 студзеня** ўначы супрацоўнікі міліцыі затрымалі 10-тысячны наклад чарговага нумару недзяржаўнай зарэгістраванай у Расіі газеты "Витебский курьер". Інцыдэнт адбыўся на трасе за 10 кіламетраў ад Віцебска (каля мясцовасці Вароны). Спачатку міліцыянты затрымалі і абшукалі машыну, у якой ехаў галоўны рэдактар газеты Алег Баршчэўскі. Нічога ў ёй не знайшоўшы, склалі пратакол за брудныя нумары на аўтамабілі. Праз 20 хвілін быў затрыманы аўтамабіль дырэктара выдання Віктара Рамнёва, у якім міліцыянты знайшлі газету. Машыну арыштавалі і адправілі на штраф-стаянку.

Нагадаем, выданне не змагло атрымаць згоду ні з адной беларускіх друкарняў, і таму друкуецца ў расійскім Смаленску.

**6 лютага** ў Віцебску супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі амаль на 4 гадзіны затрымалі журналістку газеты "Витебский курьер" Юлію Канаплёву. Міліцыянты Алег Лавейкін і Міхаіл Анюхоўскі спынілі аўтамабіль журналісткі на праспекце Перамогі і запатрабавалі адкрыць багажнік. У адказ Юлія Канаплёва прапанавала запрасіць панятых і запратакаліраваць працэдуру агляду машыны. Але замест гэтага міліцыянты сталі раіцца з некім па тэлефоне і выклікалі нарад міліцыі, таксама да месца інцыдэнту пад'ехаў аўтамабіль з людзьмі ў цывільным. Прыкладна праз гадзіну чакання інспектар Анюхоўскі ізноў прапанаваў журналістцы "проста, без пратакола, адчыніць багажнік" і атрымаў адмову. Яшчэ праз гадзіну прыехалі супрацоўнікі Першамайскага РАУС Віцебска, склалі пратакол і дагледзелі аўтамабіль - у выніку знайшлі адзін асобнік газеты "Витебский курьер". Толькі пасля гэтага цяжарную Ю. Канаплёву адпусцілі.

Трэба адзначыць, што ў той дзень на вуліцы было вельмі халоднае - больш за 20 градусаў марозу - надвор'е.

**12 сакавіка** ў Магілёве быў затрыманы грамадскі распаўсюднік незарэгістраваных СМІ Сяргей Нігацін. На вуліцы да яго падышлі двое міліцыянтаў, адзін з якіх назваўся прапаршчыкам Афанасьевым. На выкліканай міліцэйскай машыне спадара Нігаціна даставілі ў Ленінскі РАУС, дзе пры асабістым даглядзе ў яго сумцы знайшлі каля 30 асобнікаў незарэгістраваных газет “Выбар” і “Тут і Цяпер”. Прапаршчык Афанасьеў цікавіўся ў распаўсюдніка, дзе ён узяў гэтыя газеты, куды і каму нёс іх. У выніку амаль 2-х гадзіннага ўтрымання ў аддзяленні міліцыянты склалі пратакол вынятку газет, а таксама выдалі Сяргею Нігаціну павестку аб выкліку яго ў Ленінскі РАУС “у якасці сведкі”.

**12 красавіка** суд Ленінскага раёна г. Магілёва прысудзіў грамадскаму распаўсюдніку недзяржаўнага друку Сяргею Нігаціну штраф памерам у 3 млн. рублёў. Суддзя Аксана Ратнікава прызнала сп. Нігаціна вінаватым у адсутнасці дамовы на распаўсюд газет ад імя рэдакцый, якую ён нібыта павінен быў заключыць з імі як з юрыдычнымі асобамі. Аргументы Сяргея Нігаціна пра тое, што гаворка ідзе пра рэдакцыі незарэгістраваных выданняў “Выбар” і “Тут і Цяпер”, якія не з’яўляюцца юрыдычнымі асобамі, суддзя не ўспрыняла як апраўдальныя.

Сведкамі ў судзе выступілі міліцыянты, якія 12 сакавіка затрымалі распаўсюдніка, даставілі ў пастарунак.

**14 сакавіка** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі затрымалі грамадскага распаўсюдніка недзяржаўнай прэсы Барыса Хамайду. Прычынаў затрымання яму не патлумачылі, і толькі па дарозе ў Чыгуначны РАУС спадар Хамайда даведаўся, што яго вязуць «для высвятлення асобы». Актывіст зазначыў, што працэс затрымання здымаў міліцэйскі відэаапаратар. Апошні раз Барыса Хамайду затрымлівалі мінулай восенню.

**22 сакавіка** наклад газеты «Витебский курьер» у чарговы раз затрымала міліцыя. На трасе “Масква – Брэст” супрацоўнік ДАІ Васільеў спыніў аўтамабіль, за рулём якога знаходзіўся прадстаўнік рэдакцыі газеты. Пры праверцы дакументаў кіроўцу адразу ж было прапанавана ехаць у Дубровенскі РАУС. Пасля працэдуры вынятку 10-тысячнага накладу міліцыянеры таксама арыштавалі аўтамабіль. Праваахоўныя органы спаслаліся на неаплачаныя з 2009 года штрафы. Супрацоўнікі «Витебского курьера» ўжо звярнуліся са скаргай на дзеянні і рашэнне маёра міліцыі Сцепанькова С.С.

**14 красавіка** стала вядома, што суд Дубровенскага раёна (Віцебская вобласць) палічыў арышт аўтамабіля, у якім перавозілі апошні з затрыманых накладаў «Витебского курьера», незаконным. Пасля пасяджэння супрацоўнік рэдакцыі змог забраць нарэшце яго са штрафной стаянкі.

**27 сакавіка** стала вядома, што недзяржаўнаягазета  “Новы час” даходзіць не да ўсіх палітвязняў. У прыватнасці, канверты з укладзенымі ў іх газетамі вяртаюцца ад Мікалая Статкевіча (раней - Шклоўская калонія №17, цяпер - Магілёўская турма №4), Яўгена Васьковіча (Магілёўская турма №4), Арцёма Пракапенкі і Артура Кісялевіча (Шклоўская калонія №17), і а таксама ад Алеся Бяляцкага (Бабруйская калонія). Па словах шэф-рэдактара выдання Аляксея Караля, канверты вяртаюцца звычайна з пазнакамі “не положено” альбо “разрешено только по подписке”, са спасылкай на арт. 89 Крымінальна-выканаўчага кодэкса (КВК) РБ.

“У КВК няма нормаў, якія б абмяжоўвалі вязняў у праве атрымліваць прэсу, на якую іх падпісаў хтосьці іншы. У арт. 89 проста гаворыцца пра іх правы набываць альбо падпісвацца на СМІ самастойна. Так што вяртанне газеты гаворыць пра адвольную трактоўку заканадаўства”, - лічыць намеснік старшыні БАЖ, юрыст Андрэй Бастунец.

**28 сакавіка** Беларускі радыётэлевізійны цэнтр перадачы паведаміў пра тое, што на частаце 105,1 МГц (УКХ) - на якой раней працавала зачыненая праз суд недзяржаўная радыёстанцыя «Аўтарадыё» - будзе здзяйсняцца прыём гукавой эфірнай праграмы «Сталіца».

Нагадаем, 12 студзеня 2011 года рэдакцыя «Аўтарадыё» атрымала прадпісанне Мінсувязі аб спыненні дазволу на права выкарыстання частот. Загад аб спыненні вяшчання «Аўтарадыё» быў вынесены на падставе рашэння Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні за подпісам старшыні камісіі Алега Праляскоўскага.

Афіцыйнай прычынай пазбаўлення радыёстанцыі частот стала «невыкананне творчай канцэпцыі і распаўсюджванне інфармацыі, якая змяшчае публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці». Падчас выбарчай кампаніі «Аўтарадыё» пускала ў эфір ролікі кандыдатаў у прэзідэнты Саннікава і Някляева, дзе тыя заклікалі прыходзіць «на плошчу».

**19 красавіка** стала вядома, што галоўнае ўпраўленне юстыцыі Мінгарвыканкама разаслала сталічным юрыстам-ліцэнзіятам лісты, у якіх “рэкамендуе” падпісацца на «Юридическую газету» на 2-е паўгоддзе 2012 г. Звесткі пра падпіску неабходна прадаставіць ва ўпраўленне да 10 мая, - паведамлялася ў лісце за подпісам першай намесніцы галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама Вольгі Казловай.

“Нягледзячы на тое, што аўтары ліста нібыта акуратна “рэкамендуюць” аформіць падпіску, пацвярджэнне яе афармлення чамусьці ўжо “неабходна прадаставіць””, - звяртае ўвагу адзін з адрасатаў паслання.

Даведка: да “юрыстаў-ліцэнзіятаў” належаць індывідуальныя прадпрымальнікі і камерцыйныя прадпрыемствы, у якіх ёсць ліцэнзія на аказанне юрыдычных паслуг суб’ектам гаспадарання. Ліцэнзіі ім выдае Міністэрства юстыцыі, але статыстычную справаздачнасць яны здаюць ва ўпраўленне юстыцыі Мінгарвыканкама, дзе стаяць на ўліку.

**20 красавіка** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі затрымалі распаўсюдніка недзяржаўнай газеты «Наш Дом инфо» Сяргея Соўпеля. Яго даставілі ў Першамайскі РАУС, дзе пратрымалі больш за 3 гадзіны. На грамадскага актывіста склалі пратакол за “незаконны распаўсюд друкаваных СМІ на тэрыторыі РБ” (ч. 2 арт.29.9 КаАП). Напрыканцы лютага віцебскія міліцыянты таксама затрымлівалі за распаўсюд гэтага выдання дабравольную памочніцу грамадзянскай кампаніі “Наш Дом” Ганну Гадлеўскую.

**23 красавіка** стала вядома, што ў Магілёве гараджан прымушаюць дэмантаваць спадарожнікавыя антэны. У выпадку адмовы ім пагражалі штрафам і прымусовым дэмантажом. Адпаведныя папярэджанні распаўсюдзіла, у прыватнасці, ЖЭУ №1 Магілёва. Незадаволеным гэтым патрабаваннем магіляўчанам начальнік ЖЭУ Валер Зубрыцкі прапанаваў падключацца да кабельнага тэлебачання.

Між тым, у Беларусі забароненыя да трансляцыі аператарамі кабельнага тэлебачання незалежныя тэлеканалы, якія асвятляюць сітуацыю ў краіне.

**27 красавіка** ў горадзе Бярозаўка (Гродзенская вобласць) міліцыянты затрымалі мясцовых грамадскіх актывістаў Сяргея Трафімчыка і Вітольда Ашурка і забралі ў іх 800 асобнікаў недзяржаўнай зарэгістраванай газеты “Новы час”.

Між тым, затрыманыя з’яўляюцца афіцыйнымі грамадскімі распаўсюднікамі выдання. Іх завезлі ў мясцовы пастарунак і склалі акт вынятку газет. Супрацоўнікі міліцыі хацелі ўзяць у Трафімчыка і Ашурка тлумачэнні, але яны адмовіліся іх даваць, паколькі ніякіх абвінавачванняў у правапарушэнні не было.

**20 траўня** ў Аршанскім раёне міліцыянты больш чым на 3 гадзіны затрымалі журналістку недзяржаўнай газеты "Витебский курьер" Юлію Канаплёву. Трэба адзначыць, што Юлія знаходзілася на восьмым месяцы цяжарнасці.

Супрацоўнікі ДАІ спынілі яе аўтамабіль на трасе "Масква – Брэст", як толькі той ўехаў на тэрыторыю Аршанскага раёна. Міліцыянты не назвалі сябе і былі без форменных бэджаў. Не патлумачыўшы прычыны затрымання, яны загадалі Юліі Канаплёвай ехаць да мясцовага РАУС.

Пасля дагляду аўтамабіля журналісткі з яго забралі 8 сігнальных асобнікаў новага часопіса "Пол политики" (выдавец: Міжнародны Цэнтр гендэрных ініцыятыў "Адліга: жанчыны за роўнае грамадзянства"), а таксама 200 асобнікаў спецвыпуску коміксаў "Пра мясцовае самакіраванне" (выдавец: "Наш Дом").

І хоць адабраныя коміксы не з'яўляюцца перыядычным выданнем, у пратаколе пра адміністратыўнае правапарушэнне малодшы лейтэнант міліцыі Уладзімір Ларын пазначыў, што журналістка парушыла арт. 29.9 ч. 2 КаАП – "незаконны распаўсюд друкаваных СМІ на тэрыторыі РБ".

**25 траўня** Юлія Канаплёва накіравала скаргу ў суд Аршанскага раёна і горада Оршы на дзеянні супрацоўнікаў Аршанскага РАУС, якія 20 траўня затрымалі яе аўтамабіль і забралі з яго друкаваныя выданні. Журналістка даводзіла, што забраная друкаваная прадукцыя не з'яўляецца перыядычнымі выданнямі і таму складанне ў дачыненні да яе адміністратыўнага пратакола па арт. 29.9 ч.2 КаАП ("Незаконы распаўсюд друкаваных СМІ на тэрыторыі РБ") незаконнае. Звесткі пра адабраныя друкаваныя матэрыялы, іх назву і колькасць асобнікаў міліцыянты не ўнеслі ў пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, а таксама не склалі ніякага пратакола вынятку. На думку журналісткі, такі «вынятак» нічым не адрозніваецца ад звычайнага рабавання. Журналістка прасіла суд вярнуць ёй незаконна адабраную прадукцыю і прызнаць дзеянні супрацоўнікаў Аршанскага РАУС у дачыненні да яе неправамернымі.

**25 траўня** праваабаронца, актывіст кампаніі «Наш Дом» Мікалай Петрушэнка накіраваў ліст начальніку УУС Віцебскага аблвыканкама Аляксандру Найдзенка, у якім патрабаваў растлумачыць прычыны вынятку друкаванай прадукцыі ў журналісткі «Витебского курьера» Юліі Канаплёвай. Праваабаронца прасіў міліцыю забяспечыць права на распаўсюд інфармацыі.

**29 траўня** было агучана, што за апошні год сітуацыя з распаўсюдам недзяржаўных газет грамадска-палітычнай тэматыкі праз дзяржаўную сістэму – "Белпошта", "саюздрук" – не палепшылася. Па-ранейшаму, праблемы з дастаўкай да чытача праз падпіску ці газетныя шапікі маюць 13 газет і 1 часопіс: «Бобруйский курьер», «Борисовские новости», «Витебский курьер», «Вольнае Глыбокае», «Газета Слонімская», «Ганцавіцкі час», Intex-press, «Новы час», «Нясвіжскі час», «Отдушина», «Рэгіянальная газета», «СНплюс. Свободные новости плюс», «Товарищ» і часопіс ARCHE.

З прычыны фінансавага прэсінгу цягам апошняга года перасталі выходзіць у папяровым выглядзе рэгіянальная газета "Бобруйский курьер" і рэспубліканская "Товарищ". Яны перайшлі на інтэрнэт-версіі, але пакуль захавалі дзяржаўную рэгістрацыю.

Нагадаем, з 2006 года з-за эканамічных прычын, абумоўленых у тым ліку спыненнем супрацоўніцтва з дзяржаўнымі прадпрыемствамі-распаўсюднікамі: РУП «Белпошта» і арганізацыямі «Саюздруку», перасталі выходзіць недзяржаўныя газеты: «БДГ. Деловая газета», «Биржа информации» (Гродна), «Ляхавіцкі час» (Ляхавічы), «Местная газета» (Ваўкавыск), «Салідарнасць», «Химик» (Наваполацк), «Мясцовы час» (Пінск), «Витебский курьер-М» (Віцебск), «Газета для вас» (Івацэвічы).

**6 чэрвеня** ў судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска разглядалася адміністратыўная справа грамадскага распаўсюдніка газеты «Витебский курьер» Сяргея Кандакова, у якога міліцыянты пасля затрымання адабралі 18 асобнікаў газеты. Суддзя Інна Грабоўская прызнала дабравольнага валанцёра грамадзянскай кампаніі "Наш Дом" вінаватым у парушэнні арт. 22.9 ч. 2 КаАП (незаконны распаўсюд друкаваных СМІ) і аштрафавала яго на 20 базавых велічынь (2 млн. рублёў). Раней суддзя Грабоўская аштрафавала на 2 млн. рублёў распаўсюдніцу Ганну Гадлеўскую.

**13 чэрвеня** стала вядома, што ў г. Глыбокае падатковая інспекцыя настойліва "рэкамендуе" мясцовым прадпрыемствам аформіць падпіску на часопіс "Налоговый вестник" і тэрмінова зрабіць справаздачу пра яе выніку.

**11 ліпеня** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі ў чарговы раз затрымалі распаўсюдніка незалежнай прэсы Барыса Хамайду. Пенсіянера каля гадзіны пратрымалі ў аддзяленні міліцыі, потым адпусцілі, не складаючы пратаколаў. Міліцыянты правялі з ім прафілактычную гутарку і папярэдзілі, што ён замінае сваёй дзейнасцю музычнаму фестывалю "Славянскі базар".

**11 жніўня** ў гарадскім пасёлку Шаркаўшчына (Віцебская вобласць) міліцыянты затрымалі журналістаў незалежных медыя. Аператар Вячаслаў Пяшко і журналістка Ганна Аземша здымалі, як рэдактар недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Прэфект-інфо» (г. Глыбокае) Зміцер Лупач распаўсюджвае сваё выданне ў грамадскім месцы, калі да іх падышоў міліцэйскі нарад. Журналістаў даставілі ў мясцовы РАУС, дзе праверылі дакументы і перапісалі асабістыя дадзеныя, пасля гэтага адпусцілі. Пратаколаў затрымання не складалі.

Змітра Лупача пратрымалі даўжэй астатніх - дапытваліся, ці зарэгістраваная газета, хто яе выдае, з якімі мэтамі і г.д. У выніку адпусцілі пры ўмове, што ён мусіць перадаць па факсе дакументальнае пацверджанне легальнасці сваёй газеты.

**20 жніўня** ў Гомелі на Прывакзальнай плошчы міліцыянты затрымалі грамадскага актывіста Аляксандра Працко за тое, што ён прадаваў на вуліцы недзяржаўную афіцыйна зарэгістраваную газету "Новы Час". Старшы лейтэнант міліцыі Дзяніс Новікаў даставіў распаўсюдніка прэсы ў Чыгуначны РАУС, дзе ў яго ўзялі тлумачэнне і склалі адміністратыўны пратакол за "парушэнне правілаў гандлю і аказання паслуг насельніцтву" (арт. 12.17 КаАП). Пратакол складаў капітан Сяргей Паўлюшчанка. Паводле А. Працко, ён паказваў дамову з рэдакцыяй выдання на распаўсюд, але міліцыянты заявілі, што для продажу патрэбны яшчэ дазвол адміністрацыі раёна.

**6 верасня** адміністрацыйная камісія Савецкага раёна Гомеля аштрафавала грамадскага актывіста Аляксандра Працко на 100 тысяч рублёў (прыкладна 10 еўра) – за продаж незалежнай афіцыйна зарэгістраванай газеты "Новы Час" ва "неўстаноўленым месцы". Намеснік старшыні адміністрацыі Сяргей Кадола, які ачольваў камісію, заявіў распаўсюдніку, што ў дамове з рэдакцыяй газеты павінна быць указана месца продажу газеты. Штраф вынесены на падставе пратакола з Чыгуначнага РАУС Гомеля аб парушэнні арт. 12.17 КаАП (парушэнне правілаў гандлю).

А.Працко аспрэчыў штраф. У скарзе ён указаў, што сённяшняе заканадаўства не прадугледжвае дазволу ад выканкамаў на месца продажу газет і часопісаў.

**12 кастрычніка** суд Савецкага раёна Гомеля (суддзя Сяргей Уласаў) адмяніў штраф грамадскаму актывісту Аляксандру Працко, вынесены адміністрацыяй Савецкага раёна за продаж незалежнай газеты "Новы Час" ва "неўстаноўленым месцы". Пастанова аб адміністратыўным спагнанні накіравана на перагляд. Паводле Аляксандра Працко, юрысконсульт адміністрацыі Савецкага раёна Андрэй Бандарэнка прасіў суд не адмяняць штрафу, але не змог нават патлумачыць, якую норму заканадаўства парушыў распаўсюднік.

**3 верасня** ў Віцебску па вуліцы Леніна, 28 супрацоўнікі міліцыі затрымалі распаўсюдніка незалежнай прэсы Барыса Хамайду пасля таго як ён размясціў ля свайго століка плакат “Незаконным выбарам у незаконную “палатку” — байкот!” Распаўсюдніка адвезлі ў суд і аштрафавалі на 400 тысяч рублёў.

**5 верасня** міліцыянты загадалі Барысу Хамайдзе сысці з яго традыцыйнага месца гандлю па прычыне, што ён нібыта замінае здымкам фільма пра Марка Шагала. На думку грамадскага актывіста, здымкам, якія адбываліся амаль за паўкіламетра, ён ніякім чынам не перашкаджаў.

**6 верасня** на 64-гадовага Барыса Хамайду склалі адміністратыўны пратакол за “хуліганства”. Раніцай міліцыянты без тлумачэння прычын сталі патрабаваць ад спадара Хамайды, каб ён пакінуў сваё традыцыйнае месца продажу газет, але распраўсюднік катэгарычна адмовіўся. Праз нейкі час “саступіць” месца ў Хамайды пачала патрабаваць загадчыца крамы № 82 гандлёвай сеткі «Веста» (распаўсюднік прэсы ставіць свой столік непадалёк ад уваходу ў краму) — маўляў, на гэтым месцы краме трэба паставіць стол для вулічнага гандлю. Актывіст перасунуўся крыху ўбок, але гэта не задаволіла  загадчыцу, яна стала хапаць стэнд, а распаўсюднік схапіў яе за руку, каб спыніць. Гандлярка выклікала міліцыю, і паводле яе тлумачэнняў быў складзены пратакол. “Ніякага гандлю тут няма і ніколі не было. Гэта ўсё — спробы наладзіць мне перашкоды”, - выказаў меркаванне Барыс Хамайда.

**12 верасня** міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі паведаміў, што з 2013 года дзяржаўныя газеты: "Советская Белоруссия”, "Народная газета", "Рэспубліка", "Белорусская нива" і "Знамя юности" будуць аб’яднаныя ў адно грамадска-палітычнае выданне. “У нас сёння даволі шмат галоўных газет. У той жа час Беларусь – краіна невялікая, і ў нас не так шмат навінаў і падзеяў, таму рэспубліканскія газеты шмат у чым дублююць адна адну, пішуць пра адно і тое ж”, - сказаў міністр. Праляскоўскі запэўніў, што рэарганізацыя не пацягне за сабой скарачэння творчых кадраў.

Акрамя таго, па словах А. Праляскоўскага, загадам ад **11 верасня** ў Беларусі "практычна створаны" выдавецкі дом “Звязда” культуралагічнай скіраванасці. У яго ўваходзяць рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "ЛіМ", газета "Літаратура і Мастацтва", часопісы "Полымя", "Маладосць", "Нёман" і "Вожык".

**14 верасня** ў Гродне быў затрыманы галоўны рэдактар незалежнага культурніцкага навукова-папулярнага часопіса “ARCHE-Пачатак”, кандыдат філасофскіх навук Валер Булгакаў. Інцыдэнт адбыўся адразу пасля прэзентацыі кнігі “Саветызацыя Заходняй Беларусі” аўтарства гісторыка Яна Шумскага і новых выпускаў ARCHE.

У аперацыі былі задзейнічаныя міліцыянты і супрацоўнікі падатковай інспекцыі, якія зрабілі «кантрольную закупку» выданняў, што распаўсюджваў Булгакаў. Падаткавікі запатрабавалі у яго дакументы і пыталіся пра падставы распаўсюду ім літаратуры. Усе наяўныя выданні (194 асобнікі) апісалі і загрузілі ў свой аўтамабіль. Працэс вынятку здымалі на відэакамеру. Спадара Булгакава адвезлі ў падатковую інспекцыю, адкуль адпусцілі прыкладна праз 2 гадзіны, узяўшы тлумачэнні.

**31 кастрычніка** стала вядома, што шэраг недзяржаўных перыядычных выданняў грамадска-палітычнага кірунку ізноў не ўключылі ў падпісны каталог “Белпошты”. Нагадаем, напачатку 2006 г.  больш за дзясятак незалежных выданняў апынуліся па-за дзяржаўнай сістэмай распаўсюду. Іх не ўключылі ў падпісны каталог «Белпошты» і скасавалі дамовы на продаж праз сетку «Белсаюздрук». Матывавалі гэта эканамічнай немэтазгоднасцю. У 2008 г. у падпісныя каталогі пошты і шапікі «Белсаюздруку» вярнулі толькі 2 газеты: «Нашу Ніву» і «Народную волю». Яшчэ праз два гады вярнулі ў афіцыйны распаўсюд рэгіянальную газету «Ганцавіцкі час».

**12 лістапада** на мытным пункце «Каменны лог» беларуска-літоўскай мяжы ў фотажурналістаў Аляксандра Васюковіча і Юліі Дарашкевіч забралі 41 асобнік фотаальбома «Прэс-фота Беларусі» за 2011 год, якія яны везлі ў аўтамабілі. Паводле Дарашкевіч, супрацоўнікі беларускай мытнай службы, убачыўшы, што ў альбоме ёсць фотаздымкі, вырашылі выняць выданні, каб праверыць, "ці няма там якой інфармацыі, якая шкодзіць беларускай дзяржаве".

Тлумачэнні пра тое, што альбомы былі выдадзеныя цалкам легальна, усе мыты на іх сплачаныя, а дакументы на ўвоз іх у Беларусь ужо ёсць у мытнай базе, не былі прынятыя да ўвагі. Нагадаем, 2 гады таму альбомы «Прэс-фота Беларусі» ўжо вымаліся на мяжы для экспертызы, тады іх вярнулі праз месяц.

**23 лістапада** мытная экспертыза прызнала незаконнымі і пастанавіла знішчыць 41 асобнік фотаальбома "Прэс-фота Беларусі 2011", якія былі адабраныя 12 лістапада на памежным пераходзе "Каменны лог" у фатографаў Аляксандра Васюковіча і Юліі Дарашкевіч.

Пра гэта паведамляецца ў лісце за подпісам намесніка начальніка Ашмянскай мытні Уладзіміра Данілевіча, які атрымаў Аляксандр Васюковіч. Друкаваная прадукцыя BELARUS PRESS PHOTO на падставе вынікаў правядзення мытнай экспертызы прызнаецца незаконнай (не адпаведнай Дзяржаўнаму стандарту РБ СТБ 7.4-2009 "Выданні. Выходныя звесткі") і падлягае знішчэнню, - заяўляў у дакуменце мытнік.

BELARUS PRESS PHOTO – штогадовы конкурс медыяфатографаў, заснаваны ў 2009 г. У ім штогод удзельнічаюць дзясяткі беларускіх фатографаў, фінальныя экспазіцыі дэманструюцца шырока за межамі Беларусі, а па выніках конкурсу ужо двойчы выпускалі альбом здымкаў-пераможцаў.

**21 лістапада** стала вядома, Светлагорскі райвыканкам сваім распараджэннем абавязаў мясцовыя прадпрыемствы і арганізацыі аформіць падпіску на дзяржаўныя газеты. У інтэрнэт трапіў загад генеральнага дырэктара светлагорскага аб'яднання «Хімвалакно» Васіля Касцюкевіча структурным падраздзяленнем пра абавязковую падпіску на 8 выданняў: «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», «Народная газета», «Светлагорскія навіны», «Гомельская праўда», «Знамя Юности», «7 дней». Кіраўнікам загадана пад персанальную адказнасць «арганізаваць падпіску на перыядычныя выданні сярод падначаленых працаўнікоў». І робіцца гэта, як сказана ў загадзе, дзеля «больш поўнай інфармаванасці працаўнікоў пра палітычнае, эканамічнае, грамадскае, прафсаюзнае жыццё краіны і рэгіёна», а таксама дзеля «фармавання адзінага духу і задач». Для «фармаванне духу» трэба выпісаць 465 асобнікаў «Советской Белоруссии — Беларусь сегодня», па 5 асобнікаў «Звязды», «Народнай газеты», «Знамени юности», 12 — «Гомельскай праўды», 1 — «Рэспублікі» і 501— «Светлагорскіх навінаў».

**18 снежня** стала вядома, што палітзняволены экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікалай Статкевіч па-ранейшаму не атрымлівае недзяржаўную газету «Новы Час», на якую яго яшчэ год таму падпісала рэдакцыя выдання. Адміністрацыя папраўчых установаў спасылаецца на адсутнасць газеты ў падпісным каталогу "Белпошты".

У лістападзе галоўны рэдактар "НЧ" Аляксей Кароль звяртаўся з афіцыйнай скаргай на гэты конт у Дэпартамент выканання пакаранняў (ДВП) МУС, Упраўленне ДВП па Магілёўскай вобласці, пракуратуру Магілёўскай вобласці і магілёўскую турму №4, дзе ўтрымліваюць Мікалая Статкевіча. Рэдактар даводзіў, што "Новы Час" – афіцыйна зарэгістраванае выданне, і што "ні Крымінальна-выканаўчы кодэкс РБ, ні Правілы ўнутранага распарадку не ўтрымліваюць абмежаванняў на атрыманне выданняў, аформленых выключна па каталогу "Белпошты"".

Па сутнасці адпісаліся рэдакцыі толькі з магілёўскай турмы і з Упраўлення Дэпартамента выканання пакаранняў (УДВП) па Магілёўскай вобласці. (Магілёўская пракуратура і МУС перанакіравалі скаргу ў тое ж УДВП).

Начальнік турмы №4 А. Дзмітроў адказаў **10 снежня**, што Статкевіч “падпісваецца на друкаваныя СМІ, якія атрымлівае ў поўным аб’ёме і ва ўстаноўленыя тэрміны”. А “па пытанні афармлення падпіскі на газету “Новы Час” да адміністрацыі турмы не звяртаўся”. Дастаўка ж “можа быць арганізавана ў выпадку афармлення падпіскі ў адпаведнасці з патрабаваннямі ч. 1 арт. 89 КПК РБ і пункту 275 Правілаў унутранага распарадку папраўчых установў”.

Начальнік УДВП па Магілёўскай вобласці У. Скамарох у лісце ад **7 снежня** адказаў, што “індывідуальная падпіска асуджаных на перыядычныя выданні арганізуецца праз адміністрацыю ўстановы”, а Статкевіч з просьбамі наконт “Новага Часу” да адміністрацыі турмы №4 не звяртаўся.

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

**6 студзеня** ўступілі ў сілу змены і дапаўненні ў Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях РБ і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях РБ, якія прадугледжваюць адказнасць за парушэнні патрабаванняў па выкарыстанні нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт.

Ад гэтага дня будуць штрафавацца інтэрнэт-правайдары за невыкананне патрабавання інтэрнэт-фільтрацыі. А таксама аператары перадачы дадзеных, інтэрнэт-кавярняў і камп’ютарных клубаў, калі яны не будуць ажыццяўляць ідэнтыфікацыю абаненцкіх прыстасаванняў, улік і захоўванне персанальных дадзеных карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг і звесткі пра аказаныя паслугі.

Адказныя асобы МУС, КДБ, КДК і падатковых органаў набылі паўнамоцтвы на складанне пратаколаў.

**6 студзеня** стала вядома, што аператар сотавай сувязі ТАА СП “БелСел” (гандлёвая марка DIALLOG™) блакуе карыстальнікам паслуг доступ да шэрагу незалежных інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў. У прыватнасці, з такой блакіроўкай сутыкнуўся грамадскі актывіст з Салігорска Іван Шыла.

“Як толькі падключыліся на Diallog у 20-х чыслах снежня, адразу выявілі блакіроўку “Хартыі’97”, “Белорусского партизана” і блога Ліпковіча ў ЖЖ, - кажа Іван Шыла. - Пазваніў у тэхпадтрымку, там пацвердзілі факт блакіроўкі і паабяцалі персанальна для мяне яе зняць. Толькі папрасілі даслаць адпаведны зварот па электроннай пошце”. Але дамагчыся адмены фільтрацыі сайтаў у сп. Шылы атрымалася толькі пасля чарговага тэлефанавання з пагрозай судовага разбіральніцтва.

Варта адзначыць, што фільтраванне інтэрнэт-сайтаў для фізічных асоб можа ажыццяўляцца выключна па асабістай просьбе самога карыстальніка. Самавольная блакіроўка сайтаў правайдэрам з’яўляецца незаконнай.

**17 траўня** студэнты Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта паведамілі, што ім заблакавалі доступ да інфармацыйнага сайта charter97.org. Пры спробе зайсці на сайт, карыстальнікі перанакіроўваюцца на старонку з лагатыпам сеткі НАН Беларусі і інфармацыяй, што адрас запатрабаванага інтэрнэт-рэсурса заблакаваны.

**25 чэрвеня** Міністэрства сувязі і інфарматызацыі прапанавала адмовіцца ад абавязковай ідэнтыфікацыі “па пашпартах” карыстальнікаў інтэрнэту ў клубах, кавярнях і іншых установах. Праект прапановы Савета Міністраў, апублікаваны для грамадскага абмеркавання, прапануе ў якасці альтэрнатывы выкарыстоўваць тэхнічныя сродкі фота- і відэафіксацыі альбо іншы праграмна-тэхнічны спосаб, у тым ліку SMS-паведамленне.

Нагадаем, на сёння паводле ўказа №60 (ч. 2 п. 6) уладальнікі пунктаў калектыўнага карыстання інтэрнэтам і іншых устаноў абавязаныя ідэнтыфікаваць карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг і захоўваць звесткі пра аказаныя паслугі.

**17 ліпеня** ў Оршы супрацоўнікі міліцыі правялі ператрусы ў кватэры стваральніка і рэдактара сайта orsha.eu Ігара Казмерчака, а таксама ў кватэры яго бацькоў. Забралі сістэмны блок ад камп’ютара, 2 флэш-карткі і 3G мадэм. Самога Казмерчака дапыталі на прадмет распаўсюду парнаграфіі праз сайт. Усё гэта здарылася праз пару дзён пасля таго, як ён зарэгістраваўся назіральнікам за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ у межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

Рэдактар заяўляе, што ніякай парнаграфічнай інфармацыі на сайце orsha.eu не выстаўлялася. Ён не выключае, што пэўныя структуры дужа цікавіць інфармацыя з яго камп’ютара, таму і была прыдуманая зачэпка з "распаўсюдам парнаграфіі".

**17 ліпеня** стала вядома, што аператар сотавай сувязі ТАА СП «Белсел» самавольна блакуе доступ карыстальнікаў да інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў: «Хартыя’97», «Белорусский партизан» і блог Яўгена Ліпковіча. Блакіроўку заўважыў журналіст газеты “Новы час”. Гэта не першы факт незаконнага абмежавання доступу да незалежных сайтаў аператарам мабільнай сувязі. На пачатку года пра блакіроўку аператарам «Белсел» доступу да тых жа рэсурсаў ужо заяўляў салігорскі грамадскі актывіст Іван Шыла.

**14 ліпеня** ў спіс забароненых сайтаў патрапіў таксама незалежны рэгіянальны навінавы сайт салігорск.org. Пра гэта карыстальнікам паслуг паведаміў прадстаўнік кампаніі сотавай сувязі ТАА СП «Белсел». Паводле яго слоў, блакіроўка адбылася ў сувязі з абнаўленнем спісу забароненых сайтаў.

Варта заўважыць, што паводле беларускага заканадаўства па ўмаўчанні пэўныя сайты блакуюцца толькі для дзяржаўных устаноў. Для прыватных асоб блакіроўка можа ажыццяўляцца толькі па асабістай просьбе карыстальніка.

**12 жніўня** ў Беларусі стаў недаступны сайт міжнароднай платформы Change.org, на якім праводзіўся збор подпісаў за вызваленне журналіста Антона Сурапіна і рыэлтара Сяргея Башарымава, затрыманых па крымінальнай справе аб незаконным перасячэнні беларускай мяжы шведскім лёгкаматорным самалётам. У Расіі і ва Украіне рускамоўная версія сайта працуе без праблем, паведамляюць каардынатары платформы.

Даведка: Change.org — глабальная платформа, з дапамогай якой любы чалавек можа пачаць сваю грамадзянскую кампанію ў інтарэсах сацыяльных і іншых перамен. Платформай карыстаюцца больш як 15 мільёнаў чалавек ва ўсім свеце, з іх 150 тысяч — у Беларусі, ва Украіне і Расіі.

**17 жніўня** стала вядома, што папулярнаму сайту пра гісторыю Мінска “Мінск стары і новы” (minsk-old-new.com) забаранілі выкарыстоўваць герб горада. На пачатку ліпеня стваральнік сайта Уладзімір Валожынскі вырашыў зарэгістравацца як індывідуальны прадпрымальнік — каб легальна размяшчаць на сайце рэкламу. Ён падаў дакументы ў Мінскі гарвыканкам і, сярод іншага, вырашыў узгадніць, ці можа ён надалей у шапцы сайта карыстацца выявай герба Мінска. Але нечакана гарвыканкам

адмовіў з матывіроўкай, што “шэраг матэрыялаў па гісторыі сталіцы носіць дыскусійны характар”.

Даведка: сайт “Мінск стары і новы” працуе больш за 9 гадоў. За гэты час паспеў атрымаць некалькі ўзнагарод, напрыклад, у 2008 годзе атрымаў гран-пры VI конкурсу беларускіх кантэнт-праектаў.

**30 жніўня** невядомыя ўзламалі адну з найбуйнейшых апазіцыйных інтэрнэт-супольнасцяў у сацыяльнай сетцы «Вконтакте» «Надакучыў нам гэты Лукашэнка» з 37000 карыстальнікаў. У гэты ж дзень у Мінску і Віцебску супрацоўнікі сілавых органаў затрымалі і дапыталі адміністратараў інтэрнэт-суполак “Ляпіс Трубяцкой - бясплатны канцэрт у Мінску”, “Толькі ШОС!”, "Надакучыў нам гэты Лукашэнка" *(больш падрабязна чытайце ў раздзеле “Затрыманні журналістаў, судовы адміністратыўны пераслед”).*

**4 верасня** сябра БАЖ з Гомеля Ларыса Шчыракова звярнулася ў Гомельскую абласную пракуратуру з просьбай разабрацца, хто скраў з яе камп’ютара асабістыя фотаздымкі і размясціў іх на парнаграфічных сайтах. У заяве журналістка паведаміла, што некалькі інтэрнэт-спасылак ёй даслаў знаёмы. На згаданых сайтах яна са здзіўленнем выявіла 6 сваіх інтымных фотаздымкаў, зробленых некалі яе мужам. Здымкі захоўваліся на стацыянарным хатнім камп’ютары.

“Я нідзе ў інтэрнэце гэтых здымкаў не размяшчала. Мяркую, што здымкі былі скрадзены ў перыяд з сярэдзіны студзеня па май 2011 года, калі камп’ютар знаходзіўся ва Упраўленні КДБ па Гомельскай вобласці”, - кажа Л. Шчыракова.

**23 верасня** - у дзень парламенцкіх выбараў - знік доступ да шэрагу сайтаў. У прыватнасці, перасталі адкрывацца інфармацыйны рэсурс UDF.by (афіцыйны партнёр кампаніі "За справядлівыя выбары") і сайт аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" bchd.info.

**24 верасня** раніцай названыя сайты па-ранейшаму не працавалі. Таксама знік доступ да сайта "народнага маніторынгу" за выбарамі electby.org, але на яго можна было трапіць праз ананімайзеры, што сведчыць пра штучнае блакаванне рэсурсу. Не адкрываліся таксама сайт Руху "За Свабоду" і сайт назірання за выбарамі.

**22 лістапада** невядомыя ўзламалі скрыню электроннай пошты і скайп журналісткі Ірыны Халіп – карэспандэнта расійскай “Новой газеты”, жонкі экс-кандыдата на прэзідэнта, палітуцекача Андрэя Саннікава. Як паведаміла Ірына Халіп, у той дзень яна атрымала ад службы сэрвісу Google паведамленне, што адбылося «несанкцыянаванае пранікненне ў яе паштовы акаўнт».

А раніцай **23 лістапада** яна наогул не змагла ўвайсці ў сваю паштовую скрыню: паведамлялася, што пароль быў зменены гадзінай раней. Апынуўся ўзламаным і скайп журналісткі, пароль таксама быў зменены. Паводле журналісткі, з яе скайпа кантактам сталі рассылацца файлы з вірусамі. І. Халіп лічыць, што гэта справа рук спецслужбаў.

Нагадаем, Ірына Халіп адбывае пакаранне ў выглядзе 2 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай па абвінавачванні за ўдзел у вулічнай акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.

**27 лістапада** было агучана, што ў інтэрнэт-кавярні будуць зноў пускаць без пашпартоў. Пра гэта паведаміў начальнік Упраўлення электрасувязі Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Павел Петрулевіч. Паводле чыноўніка, уладальнікам устаноў будуць прапанаваныя на выбар альтэрнатыўныя спосабы ідэнтыфікацыі карыстальнікаў: “з выкарыстаннем тэхнічных сродкаў фота- і відэафіксацыі альбо іншых праграмна-тэхнічных спосабаў, уключаючы SMS-паведамленне”. Пры гэтым кіраўнік альбо ўпаўнаважаная ім асоба павінныя “забяспечыць вядзенне, улік і

захоўванне персанальных дадзеных карыстальнікаў; звесткі пра час пачатку і заканчэння аказання паслуг; электронны журнал з ідэнтыфікацыйнымі звесткамі пра абаненцкія прылады і г.д.” Захоўваць такія звесткі трэба будзе на працягу года. Планавалася, што адпаведную пастанову прымуць яшчэ да канца 2012 года.

**29 лістапада** Аршанскі гарадскі аддзел Следчага камітэта вярнуў рэдактару незалежнага інтэрнэт-сайта orsha.eu Ігару Казмерчаку камп’ютар і флэш-карты, якія былі адабраныя ў яго 5 месяцаў таму - падчас ператрусу **17 ліпеня**. Але, паводле І. Казмерчака, камп’ютар, пасля таго як пабываў у руках праваахоўнікаў, не загружаўся і меў патрэбу ў рамонце.

Як паведамлялася раней, прычынай ціску сілавікоў на сайт стала нібыта спасылка на ім на іншы інтэрнэт-рэсурс, які, сярод іншага, утрымліваў матэрыялы парнаграфічнага характару. Па вынятай тэхніцы была прызначаная экспертыза. З яе вынікамі Казмерчака не азнаёмілі. Ён мяркуе, што эксперты пацвердзілі, што рэдакцыя сайта да распаўсюду падобнай інфармацыі ніякага дачынення не мае. Незалежныя назіральнікі звязвалі ціск на інтэрнэт-выданне з кампаніяй па выбарах у Палату прадстаўнікоў. Бо сайт, у адрозненне ад дзяржаўных СМІ, асвятляў дзейнасць і апазіцыйных кандыдатаў.

**19 снежня** стала вядома, што Рагачоўскі райвыканкам патрабуе ад незалежнага рэгіянальнага інфармацыйнага інтэрнэт-рэсурса vrogacheve.ru прыбраць з афармлення сайта мясцовую сімволіку – геральдычную выяву рога ў залатым полі. Пра гэта намеснік старшыні райвыканкама па пытаннях ідэалогіі Васіль Каральчук паведаміў грамадскаму актывісту, цяперашняму рэдактару сайта Дзянісу Дашкевічу афіцыйным лістом.

“У адпаведнасці з палажэннем пра герб горада Рагачова, зацверджанага рашэннем Рагачоўскага раённага савета 4 мая 2001 года №13/4 "Аб зацвярджэнні сцяга і герба горада Рагачова і Рагачоўскага раёна”, права на выкарыстанне сімволікі Рагачова і Рагачоўскага раёна даецца Рагачоўскім райвыканкамам. На сайце vrogacheve.ru выкарыстоўваецца герб Рагачова без узгаднення з райвыканкамам”, – піша чыноўнік.